E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 15 (20) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА КАСТРЫЧНІК 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

## Падзеі

### З`езд ТБМ імя Францішка Скарыны

З`езд прадстаўнікоў арганізацыі – добрая падстава абмеркаваць вострыя праблемы. Асноўная праблема сёння – захаванне мовы, дакладней кажучы, змаганне за яе жыццё. Відочна, што ўлада забылася пра свой абавязак спрыяць развіццю мовы, абараняць яе, забяспечваць прастору для яе існавання. Тое, што робіцца ў гэтай сферы, хутчэй мае фармальны характар, на справе ідзе далейшы агрэсіўны наступ на мову беларусаў. Усе выдатна разумеюць, што страта мовы – гэта не проста замена лексікі. Страта мовы ператварае мільёны людзей у рабочую сілу для той краіны, мову якой інтэнсіўна прышчэпліваюць дзецям і моладзі.

З якой мэтай? Каб спрасціць іхні ўваход у эканоміку краіны, якой патрабуюцца рабочыя, навуковыя, тэхнічныя рэсурсы. У рэчышчы такой палітыкі беларуская мова выціскаецца са школы, ВНУ, ПТУ, з папяровых сродкаў масавай інфармацыі, на тэлебачанні засталіся толькі беларускія надпісы праграмаў, на радыё зрэдку гучыць як этнаграфічны натураж.

Страта мовы – гэта страта правоў на самастойнасць, гэта набыццё статусу слуг, якія засвойваюць мову сваіх паноў, каб самім сабе здавацца падпанкамі. Паважай сябе, шануй сваіх продкаў, шануй мову, якая робіць цябе незалежным.

Служы свабодзе!

*Матэрыялы да з`езда гл. на стар. 3–5.*











## Сярэднявечныя строі

**У мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна адкрылася выстава беларускіх гістарычных строяў. Арганізатарамі яе сталі абласны «Цэнтр народнай творчасці» і «Беларускі саюз майстроў народнай творчасці». Наведвальнікі выставы могуць пабачыць рэтраспектыву моды за паўтысячагоддзя. На выставе шырока прадстаўлена стылізацыя строяў XII–XVIII стагоддзяў – гарадское адзенне, касцюмы шляхты, этнаграфічныя строі. Усе касцюмы, якія складаюць экспазіцыю, створаны майстрамі з «Беларускага саюза народнай творчасці». Гэта штучная праца, кожны касцюм унікальны. Варта скарыстаць магчымасць і наведаць выставу – не кожны год такое бывае.**

## Бухгалтарам пагражае атэстацыя і плата за навуку

Як высветліла праверка Камітэта дзяржкантролю, працаўнікі бухгалтарскіх службаў часцяком жывуць багажом ведаў, атрыманых яшчэ ў савецкі час, і з гэтай прычыны краіна мае праблемы з эканомікай. Выправіць становішча Мінфін Беларусі вырашыў шляхам прымусовай атэстацыі. Хто не зможа атрымаць добрую адзнаку, пазбавіцца права працаваць бухгалтарам.

Пачнецца атэстацыя з галоўных бухгалтараў. Пасля званкоў галоўбухам некалькіх буйных прыватных фірмаў у Мінску мы зразумелі, што экзамен іх не пужае, але абурае. «У прыватную кампанію мяне ні за што б не ўзялі з нізкай кваліфікацыяй. Праверкі паказваюць, што з бухгалтэрыяй у нас усё добра, гаспадар кампаніі задаволены... Нашто экзамен? Каб зняць лішнюю капейку?» – выказвалі незадаволенне адны.

«Мы даведаліся, што ў камісію ўвойдуць прадстаўнікі Мінфіна, БГЭУ, падатковых службаў і Беларускай асацыяцыі бухгалтараў. А як жа быць з прадстаўнікамі галіновых міністэрстваў? Ці я, галоўны бухгалтар прыватнай фірмы, якая займаецца пашывам адзення, павінен валодаць дэталямі вядзення бухуліку ў сельскай гаспадарцы?» – паскардзіліся на «агульны» падыход іншыя.

У Беларускай асацыяцыі бухгалтараў нам патлумачылі, што галіновыя камісіі будуць правяраць на прафесійную прыдатнасць шэраговых бухгалтараў. Што тычыцца галоўбухаў, то палажэнне аб атэстацыі яшчэ толькі распрацоўваецца, таму пакуль што невядома, ці будуць улічаны іх «галіновыя» інтарэсы.

Сёння атэстацыю працаўнікоў бухгалтэрыі праводзіць Беларуская асацыяцыя бухгалтараў. Каштуе гэты працэс 18 тысяч рублёў. Курсы, якія дапамагаюць прайсці атэстацыю гэта, 180 тысяч рублёў. Наўрад ці дзяржава будзе браць менней. Такім чынам, на кожным бухгалтару дзяржава «падыме» эканоміку амаль на 100 даляраў. У Беларусі каля 300 тысяч бухгалтараў і яшчэ каля 190 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў, якія выконваюць функцыі бухгалтара самастойна.

**Наталля КРЫВЕЦ**

# Магчымыя страты Беларусі – 2,1 мільярда даляраў

Страты Беларусі ў выніку адмовы ад нацыянальнай валюты і пераходу на расійскі рубель могуць скласці каля 2,1 мільярда даляраў. Пра гэта паведамілі 30 верасня ва ўрадзе са спасылкай на падрыхтаваныя Нацбанкам Беларусі папярэднія разлікі.

«Самастойнае вырашэнне Беларуссю праблем падрыхтоўчага перыяду ў тэрмін, які застаецца да ўвядзення расійскага рубля, уяўляецца праблематычным», – адзначаецца ў дакуменце. Аб'ём стратаў, якія беларускі бок разлічвае кампенсаваць з федэральнага бюджэту Расіі ў форме прамых трансфертаў, складае 1,9 мільярда даляраў і яшчэ 200 мільёнаў складае памер тэхнічнага крэдыту. З гэтай сумы 1 мільярд даляраў прыпадае на кампенсацыю стратаў, якія ўзнікнуць пасля уніфікацыі беларускага падатковага заканадаўства з Расіяй.

«Зніжэнне падаткаў да расійскага ўзроўню прывядзе да скарачэння паступленняў у бюджэт на 2,2 трыльёна беларускіх рублёў (1,04 мільярда даляраў па бягучым курсу), – гаворыцца ў дакуменце. Апрача таго, кампенсацыя стратаў беларускага бюджэту ад прымянення Расіяй ва ўзаемным гандлі прынцыпу спагнання ПДК па краіне паходжання тавараў складае 500–540 мільёнаў даляраў. «Гэтае пытанне павінна разглядацца асобна, і яго неабходна вырашыць да падпісання пагаднення аб увядзенні ў Беларусі расійскага рубля», – адзначаецца ў дакуменце.

Беларусь таксама разлічвае на расійскую падтрымку банкаўскай сістэмы пасля вымушанага ўзмацнення жорсткасці грашова-крэдытнай палітыкі. «Вымушаныя выдаткі на рэабілітацыю банкаў могуць скласці каля 190 мільёнаў даляраў», – адзначана ў дакуменце. У выніку зраўнівання розніцы паміж эканомікамі абедзвюх краінаў беспрацоўе ў Беларусі можа павялічыцца на 200 тысяч чалавек (на 1 жніўня 2003 года – 140,7 тысячы чалавек). «Недахоп рэсурсаў Беларусі для вырашэння гэтай праблемы можа скласці 180 мільёнаў даляраў», – пазначае дакумент.

Нагадаем, што кіраўнікі ўрадаў Беларусі і Расіі па-рознаму ставяцца да выплаты кампенсацыяў Беларусі. «Я не ведаю аб якіхсьці дадатковых кампенсацыях за ўвядзенне адзінай валюты», – заявіў расійскі прэм'ер Міхаіл Касьянаў. Ён назваў пазіцыю беларускага бока «няправільнай». «Увядзенене расійскага рубля – гэта добра для беларускай эканомікі, за гэта не прыплачваюць», – сказаў Касьянаў.

У той жа час яго намеснік і кіраўнік Міністэрства фінансаў Аляксей Грэф раней паведамляў, што Расія гатовая з 2003 года кампенсаваць Беларусі страты ад плацяжу ПДК па краіне прызначэння ў суме да 20–140 мільёнаў даляраў. Беларускі бок настойвае на выплаце такіх кампенсацыяў, пачынаючы з 2000 года.

**Павел БАРАНОЎСКІ**

## Урачыстыя даты



**Нясвіжскі фарны касцёл адсвяткаваў 410-я ўгодкі свайго існавання. Яго аўтар і будаўнік – знакаміты італьянскі архітэктар Ян Бернардоні. Касцёл заслужана лічыцца перлам нашай архітэктурнай спадчыны. Фундатар будаўніцтва, князь Радзівіл Сіротка, паклапаціўся і аб стварэнні ў сутарэннях касцёла фамільнай крыпты, за чатыры стагоддзі тут знайшлі вечны прытулак 78 прадстаўнікоў рода Радзівілаў. За гэтакі вялізны час Беларусь страціла шмат сваёй мураванай аздобы, неадназова захопнікі руйнавалі і Нясвіжскі замак, а вось касцёлу пашанцавала ацалець і сімвалізаваць эпоху Барока.**

# Абарона і бяспека ўзрастуць на 33%

Згодна з праектам бюджэту на 2004 год, выдаткі на нацыянальную абарону прагназуюцца ў суме 399 мільярдаў рублёў і павялічацца ў параўнанні з 2003 годам на 33%. «Агулам выдаткі ваеннага бюджэту складуць каля 1% ад ВВП», – паведамілі ў Міністэрстве фінансаў Беларусі.

У 2004 годзе прадугледжваецца выплата службоўцам сілавых структураў грашовай кампенсацыі замест харчовага пайку ў фіксаванай суме 58,5 тысячы рублёў на месяц. У Мінфіне Беларусі адзначылі, што аналагічны парадак прадугледжаны ў праекце федэральнага бюджэту Расіі на 2004 год, які акрэслівае памер грашовай кампенсацыі 20 рублёў на суткі. Гэта каля 43 тысяч беларускіх рублёў на месяц па курсу расійскага рубля, які прагназуецца на 2004 год – 71,5 рублёў за 1 расійскі рубель.

Таксама ў Міністэрстве фінансаў Беларусі паінфармавалі, што на фінансаванне праваахоўчай дзейнасці і забеспячэнне бяспекі дзяржавы ў рэспубліканскім бюджэце для сілавых ведамстваў прадугледжаны бюджэтныя асігнаванні ў суме 694 мільярды рублёў, што на 36,5% болей у параўнанні з удакладненым планам на 2003 год.

**«Інтэрфакс»**

# «Жалезны» Арні перамог

На датэрміновых губернатарскіх выбарах у Каліфорніі, згодна з папярэднімі вынікамі галасавання, перамога дасталася сусветна знакамітай «зорцы» Галівуда 56-гадоваму Арнольду Шварцнегеру. Датэрміновыя выбары былі прызначаны ў сувязі з петыцыяй, якую падпісалі болей за мільён грамадзянаў штата, якія патрабавалі адклікаць з пасады губернатара Грэя Дэвіса за развал эканомікі багацейшага амерыканскага рэгіёна.

Бюлетэнь для галасавання складаўся з дзвюх частак. У першай выбаршчык мусіў адказаць на пытанне, ці лічыць ён неабходным адклікаць Грэя Дэвіса з пасады губернатара. Другая змяшчала спіс 135 кандыдатаў, якія зарэгістраваліся кандытатамі на месца ачольніка выканаўчай улады Каліфорніі. Грэй Дэвіс пацярпеў паражэнне, Шварцнегер набраў болей за 51 працэнт галасоў.

На настрої выбаршчыкаў не паўплываў арганізаваны напярэдадні скандал вакол сцвярджэнняў некалькіх жанчын аб сэксуальных дамаганнях да іх з боку Шварцнегера. Сусветнаведомы акцёр прынёс публічныя прабачэнні «ўсім, каго пакрыўдзіў». У Каліфорніі пражывае 15 мільёнаў чалавек, і цяпер прыхільнікаў «тэрмінатара» цікавіць, як удала ён будзе выконваць новую ролю.

**Telegrahf**

## Неўрачыстыя даты



**Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны звярталася ў Міністэрства культуры Беларусі з пытаннем аб неабходнасці фінансавання кансервацыйных работ па Крэўскім замку. У адказе, які даслаў ТБМ Дэпартамент па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры, паведамляецца, што «накіраваць асігнаванні на вышэйзазначаны аб`ект гісторыка-культурнай спадчыны з зацверджанага на 2003 год аб`ёму фінансавання не прадстаўляецца магчымым». Неспрыяльна складваецца для замка і перспектыва на 2004 год і ў наступныя гады. Відаць, адзіным ратаваннем можа быць адкрыццё спецыялізаванага рахунку для прыёму ахвяраванняў ад грамадзянаў, якія стануць сукупнымі фундатарамі захавання помніка. Стагоддзямі пакаленні назіраюць, як нішчыцца гэты твор продкаў...**

# Тэлебачанне на новы «ЛАД»

18 кастрычніка ў Беларусі пачне вяшчанне яшчэ адзін тэлеканал, які будзе называцца «ЛАД». Знайсці ў тэлевізары яго можна будзе на кнопцы расійскага канала «Культура» штодня ад 7-ай да 23-й гадзіны. Карацей, «культуры» не будзе, а «ЛАД» будзе паўнавартасны. Што мы зможам там убачыць?

Паводле прэс-службы Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, новы тэлевізійны канал задуманы як сямейны: «гледачамі «ЛАДу», у першую чаргу, стануць людзі сямейныя, для якіх пытанні культуры, адукацыі, выхавання маюць асаблівае значэнне». Тут таксама кажуць, што пасля таго, як 21 верасня Першы нацыянальны тэлеканал адкрыў новы сезон, многія праграмы зніклі з эфіру, але неназаўсёды. Перадачы «Сад мары», «Тэлебарометр», «Свято далёкай зоркі», «Здароўе», «Не пазяхай», «Мультыклуб», «Калыханка», «Наша спадчына», «Спявай, душа!» цяпер будуць ісці на новы «ЛАД». Апрача таго, з'явяцца зусім новыя перадачы: «Паміж намі, жанчынамі» - як вы здагадаліся, для жанчын, «Звычайны незвычайны дзень» – інтэрактыў у прамым дзённым эфіры, «Плошча мастацтваў» – праграма пра тэатральныя і музычныя падзеі і фестывалі. Плюс на «ЛАДзе» будуць паказвацца лепшыя перадачы з рэгіянальных тэлеканалаў.

Пажывем – паглядзім, але пакуль што па анонсах міжволі робіцца выснова, што новы канал будзе ўяўляць сабой адрыўны насценны сямейны каляндар. Адметна і ўцешна, што ў эфіры «ЛАДу» абсалютна не будзе гвалту і жорсткасці. Ніякай табе страляніны ды мардабою, якіх так поўна на ўсіх астатніх каналах. Цікава, а ці ўдасца на новым канале абысціся без рэкламы і трымацца падалей ад такога бруду, як палітыка? Як напрыклад, тое было на расійскім канале «Культура», які і перакрые «ЛАД».

Натуральна, болей беларускіх тэлеканалаў, добрых і розных! Але «Культуры» ўсё адно шкада. Чаму б было не ахвяраваць якімі іншымі расійскімі каналамі, якія, дарэчы, так часта крытыкуе кіраўнік нашай дзяржавы? У такім разе забілі б адразу двух зайцоў.

Зрэшты, можа і на «ЛАДзе» з'явіцца нешта годнае кшталту той жа «Культурнай рэвалюцыі» з міністрам культуры Расіі Міхаілам Швыдкім?! Але нешта не ўяўляецца, каб у нас з'явілася падобная перадача, дзе б у ролі вядучага выступаў беларускі міністр культуры Леанід Гуляка. Хаця тую ж «Школу зласлоўя» на Першым нацыянальным канале нават пераплюнулі. Напачатку там рабілі перадачу з такой самай назвай, а з новага тэлесезона перайменавалі яе ў «Акадэмію зласлоўя». Карацей, нашыя дзяўчынкі палічылі, відаць, што яны перараслі сваіх расійскіх канкурэнтак. Пакуль яшчэ ёсць мажлівасць глядзець «Культуру», раім прабавіць час за праглядам дзвюх гэтых перадач і, як кажуць, адчуць розніцу.

Дарэчы, у беларускіх тэлевізіёншчыкаў проста напалеонаўскія планы. Ёсць задума зрабіць цэлы спартовы канал. Аматары спорту будуць надзвычай задаволены, калі, канечне, увесь эфір там не будзе спрэс аддадзены на трансляцыю, прама скажам, малацікавых унутраных беларускіх спаборніцтваў. А наогул спартовы эфір таго ж Першага нацыянальнага канала стаў заўважна лепшым. Закуплены нават на некалькі гадоў правы трансляцыі матчаў футбольнай Лігі чэмпіёнаў. Прычым самі гледачы могуць выбіраць, сустрэчу якіх каманд глядзець. А яшчэ кажуць, што ў нас на тэлебачанні няма дэмакратыі?

**Кірэй МАНУЙЛА**

# У чым корань моўнай праблемы?

**Алена АНІСІМ,**

**Старшыня Мінскай гарадской арганізацыі ТБМ**

Функцыянаванне мовы ў любой дзяржаве залежыць ад некалькіх аспектаў. Найпершы – уласнамоўны, які падразумевае стан развіцця мовы, ступень яе развітасці і здольнасць забяспечваць ужыванне ва ўсіх сферах жыцця. Акрамя лінгвістычнага, як мінімум два экстралінгвістычныя фактары ўплываюць на развіццё мовы ў грамадстве. Адзін з іх – гэта запатрабаванасць мовы ў грамадстве, яе распаўсюджанасць або працэнт карыстальнікаў мовы ў агульным складзе насельніцтва. Іначай кажучы, наколькі тая ці іншая мова ўжываецца грамадзянамі краіны ў штодзённым жыцці: дома, на працы, у сферы абслугоўвання, на транспарце і г.д. Да гэтых двух фактараў варта дадаць вельмі важны прававы фактар, пад якім трэба разумець, наколькі права кожнага носьбіта карыстацца мовай усюды ахоўваецца адпаведнымі законамі і наколькі гэтыя законы працуюць і выконваюцца ў грамадстве. Ад ступені ўзаемадзеяння гэтых фактараў залежыць паспяховасць функцыянавання той ці іншай мовы ў грамадстве. Аналізуючы любую моўную сітуацыю з улікам гэтых трох фактараў, можна дакладна вызначыць «слабыя» месцы і паспрабаваць ліквідаваць іх з мэтай змяніць сітуацыю да лепшага.

Паспрабуем з гэтага пункту погляду зірнуць на моўную сітуацыю ў нашай краіне.

Фактар першы, або наколькі сучасная беларуская мова?

Наўрад ці знойдзецца хтосьці з прафесіяналаў-філолагаў, хто паставіў бы пад сумнеў здольнасць лексічных, граматычных і іншых сродкаў беларускай мовы забяспечыць сваё выкарыстанне ва ўсіх сферах жыцця краіны. Пра гэта сведчыць наяўнасць мастацкай, даведачнай і іншай спецыяльнай літаратуры па розных галінах навукі і мастацтва. Немагчыма адмаўляць і факт адукацыі некалькіх пакаленняў вясковых беларусаў выключна на беларускай мове. Такім чынам, можна лічыць, што ўласнамоўны фактар у цэлым з'яўляецца станоўчым і не тармозіць, не перашкаджае ўжыванню і распаўсюджанню мовы ў грамадстве. Вядома, у сучасных умовах агульнага сусветнага развіцця, калі змены адбываюцца вельмі імкліва, прыносячы штодня ўзнікненне новых паняццяў і з'яў, даволі складана хутка асвоіць сродкамі беларускай мовы гэтыя новыя паняцці і з'явы, даць ім сваю, нацыянальную беларускую афарбоўку. Аднак гэта праблема не толькі беларускай мовы, але і іншых сусветных моў, за выключэннем, хіба што, англійскай. Таму гэта не можа быць дастатковай прычынай, каб прызнаць беларускую мову як неразвітую або несучасную. Ёсць і яшчэ адно даволі складанае пытанне аб так званых двух варыянтах беларускай мовы: «тарашкевіцы» і «наркамаўцы». Але зноў жа пытанне гэта не толькі чыста беларускае (згадаем публікацыю ў «Новым часе» за 2003 г. пра два варыянты нарвежскай мовы), акрамя таго, наўрад ці яго можна лічыць абсалютна невырашальным.



Ці гавораць на беларускай мове ў Беларусі, або пра фактар запатрабаванасці мовы ў грамадстве.

Неаднаразова даводзіцца чуць выказванні накшталт таго, што ў Беларусі нельга пачуць беларускую мову на вуліцы, у транспарце і г.д. Усё гэта адначасова і праўда? і не. Паколькі гэта, па-першае, суб'ектыўная думка (немагчыма быць адразу ў некалькіх месцах, каб зафіксаваць сітуацыю па ўсёй краіне), а па-другое, крытэрый такой ацэнкі моўнай сітуацыі павінен быць усё ж дастаткова навуковым. Іначай яго нельга прымаць пад увагу. А вось заяўленая пазіцыя грамадзян Беларусі аб прызнанні роднай мовы падчас апошняга перапісу ёсць сур'ёзны факт для таго, каб лічыць гэтую колькасць грамадзян актыўнымі носьбітамі мовы. Менавіта на падставе матэрыялаў перапісу насельніцтва нашай краіны мы можам гаварыць пра рэальную запатрабаванасць мовы ў грамадстве (37,4% грамадзян карыстаюцца мовай штодня). Калі дадаць сюды вынікі сацыялінгвістычных даследаванняў, якія сведчаць пра наяўнасць элементаў беларускай мовы на ўсіх узроўнях маўлення, то ўсплывае лічба 80% грамадзян, якія назвалі беларускую мову роднай. І гэта ёсць рэальны патэнцыял запатрабаванасці мовы ў грамадстве. Каб ён быў паспяхова рэалізаваны, неабходна забяспечыць яму прававую падтрымку.

У чый бок глядзіць Феміда, або ці абараняе закон правы беларускамоўных грамадзян?

На першы погляд, у нашай краіне дастаткова распрацаванае заканадаўства, у тым ліку і па моўных пытаннях. Аднак, што датычыць рэалізацыі правоў беларускамоўных грамадзян у рэальным жыцці, узнікае шэраг праблем. Часткова гэтыя праблемы закладзены ў неадназначнай фармулёўцы закона, а яшчэ часцей – выкліканы нежаданнем большасці чыноўнікаў бачыць і вырашаць гэтыя пытанні. Прыкладам, згодна з заканадаўствам у нашай краіне – дзве дзяржаўныя мовы. Гучыць звышдэмакратычна. Аднак, як неаднаразова зазначаў акадэмік НАН РБ А.І.Падлужны, нідзе ні ў якіх актах не прапісаны статус дзяржаўнай мовы. Магчыма, таму ва ўжыванні дзвюх дзяржаўных моў на практыцы пануе прынцып самавольства і анархіі. Тым больш, што ў адмысловым Законе аб мовах, які павінен быў бы дакладна рэгуляваць моўныя працэсы ў розных сферах гаспадарчага і грамадскага жыцця, ва ўсіх артыкулах утрымліваецца наступная фармулёўка: «на беларускай і (або) рускай мове». Неабавязковасць ужывання мовы тытульнай нацыі, закладзеная ў слове «або», прыводзіць да поўнага яе ігнаравання большасцю гаспадарчых суб'ектаў нашай краіны. На ўсе патрабаванні грамадзян забяспечыць ім права атрымання інфармацыі на роднай мове адказныя асобы спасылаюцца на вышэй згаданую фармулёўку і на дзве дзяржаўныя мовы. Такую заганную практыку, якая вядзе толькі да адкрытага супрацьстаяння паміж грамадзянамі і прадстаўнікамі афіцыйных уладаў, нельга лічыць нармальнай. Найбольш выразна і балюча гэта праяўляецца зараз у сітуацыі з ліквідацыяй Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Бяздушныя чыноўнікі асмеліліся самым непрыстойным чынам і абсалютна беспакарана нанесці ўдар па законных правах маладога пакалення Беларусі. Хто здолее ўзяць сітуацыю пад кантроль і выправіць становішча?

Такім чынам, пры аналізе моўнай сітуацыі ў нашай краіне прыходзіш да несумненных вынікаў пра тое, што яе сённяшні стан абумоўлены не слабасцю беларускай мовы, не тым, што мову не хочуць ужываць грамадзяне Беларусі, а найперш адсутнасцю сапраўднага заканадаўства, накіраванага на абарону бясспрэчных правоў чалавека, першым з якіх несумненна з'яўляецца права на родную мову. Улічваючы агульную сусветную тэндэнцыю да ўсталявання і развіцця менавіта прававога грамадства, можна прагназаваць, што і ў Беларусі падчас будучых парламенцкіх і затым прэзідэнцкіх выбараў моўнае пытанне стане адным з галоўных палітычных чыннікаў. Але зусім не таму што беларуская мова сама па сабе – гэта палітыка. А па той простай прычыне, што вырашэнне моўнага пытання ляжыць у плоскасці заканадаўства. А вось сфера заканадаўства, як і агульнае прававое (а на сённяшні дзень – хутчэй бяспраўнае) становішча грамадзян, – рэчы безумоўна палітычныя.

**Праект**

## Зварот да жыхароў Беларусі дэлегатаў VIII з`езда ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны»

Шаноўны жыхар Беларусі!

Калі ты не з`ехаў ні на ўсходнім, ні на заходнім накірунку, а застаўся жыць у сваёй краіне, то ведай, што найлепшы твар твой, вопратка твая, душа твая — беларуская мова.

Калі ты чуеш яе – ці чыстую, літаратурную ці «трасянку» або «тарашкевіцу» - разумей, што гэта ўсё яна – свая, наша, беларуская мова. Не адкідай, а прымі яе, бо яе месца ў тваёй краіне. І не жабрачкай ходзіць яна тут, а слугуе найразумнейшым людзям.

Будзь і ты разам з імі. Размаўляй па-беларуску, бо заўтра наша мова табе, тваім дзецям і ўнукам стане неабходнай. Размаўляй асабліва ў рускамоўным асяродку, каб бачылі людзі вернасць тваю сваёй мове.

Размаўляй з прыветнай усмешкай, з пяшчотай на вуснах, будзь у пекнай вопратцы – і тваёй мовай захочуць гаварыць іншыя. І не саромся недасканалай гаворкі. Мова – жывая тканка, прырастае адразу там, дзе крынічыць святое жаданне. Ведай: раніцай не гаворыш на мове, днём гаворыш на «трасянцы», а вечарам ужо прамаўляеш чысцюткімі слоўкамі.

А людзі, што служаць дзяржаве на чынавенскай пасадзе, табе дзякуй скажуць, бо будуць вучыцца ад цябе. А блізкія і далёкія суседзі адчуюць тваю самапавагу і будуць яшчэ больш цябе паважаць.

З беларускай мовай нам жыць у ХХІ стагоддзі!

**Праект**

## Заява VIII з`езда ТБМ
## Шанаванне роднай мовы – найбліжэйшы шлях да дабрабыту і дэмакратыі

Зараз перад нашым народам зноў паўстаў маральны і палітычны выбар. Адны клічуць нас на Усход, дзе мы ўжо былі і добра ведаем стан пагарды і духоўнай галечы. Другія заклікаюць рухацца на Захад, у дэмакратычную еўрапейскую супольнасць, тым больш, што яны туды ўжо перабраліся.

Але мы жывем і застаемся жыць тут, у сваёй краіне, на сваёй роднай зямельцы, у геаграфічным цэнтры Еўропы і павінны самі вырашаць, грунтоўна і глыбока, ўласныя беларускія пытанні.

Апошнія сацыялагічныя апытанні сведчаць, што большасць грамадзян Беларусі, каб жыць вольна, заможна і годна, ужо выбралі свой шлях, шлях у аб'яднаную Еўропу.

Але нешта нам моцна замінае, і ўжо шмат год стаім на адным месцы. Руху наперад перашкаджае наша непавага да саміх сябе, да сваёй мовы і культуры. Гэта непавага гучыць з дзяржаўных трыбун, з экранаў тэлевізараў, са старонак дзяржаўных часопісаў і газет, у метро, на чыгунцы, у школах і ВНУ. І пакуль мы не палюбім сваё – сваю мову, сімволіку, традыцыі і культуру – зменаў да лепшага ў нашым жыцці ніколі не адбудзецца. Мы ўжо выказалі сваю думку падчас апошняга перапісу насельніцтва ў 1999 г., а таксама ў ходзе перадачы аб лёсе беларускай мовы ў праграме АНТ «Выбар» 24 лютага 2003 года. Засталося толькі замацаваць сваю пазіцыю ў штодзённым жыцці. Дык давайце палюбім сваю родную мову і гісторыю, скажам сваё шчырае дзякуй усім, хто гаворыць, піша і думае па-беларуску, запаўняе на роднай мове анкеты і паштовыя пераводы, аддае сваіх дзяцей у беларускія школы і класы, чытае лекцыі і вучыцца па-беларуску ў ВНУ, чытае і выпісвае беларускамоўныя газеты і часопісы, набывае адпаведныя кнігі, аўдыё-і відэакасеты, ужывае беларускую мову ў рэкламе і гандлі, у міжнародных і міжасабовых стасунках.

Мы вітаем пазіцыю Еўразвязу, дзе абвешчана рэальная роўнасць моў усіх удзельнікаў, незалежна ад колькасці насельніцтва той ці іншай краіны, і дзе кожная мова з'яўляецца адначасова і нацыянальнай і агульнаеўрапейскай каштоўнасцю.

Мы выказваем сваю шчырую ўдзячнасць амбасадарам ЗША, Германіі, Францыі, Кітая і Польшчы, якія шырока ўжываюць беларускую мову ў сваёй працы, і заклікаем да гэтага ўсіх прадстаўнікоў дыпламатычнага корпусу.

Мы настойліва раім сённяшнім уладам перастаць змагацца з віртуальнымі ветрыкамі т. зв. нацыяналізму, гэтай заганнай спадчынай камуністычнай і савецкай эпохі. Спыніце, шаноўныя, сваё бясплённае змаганне з беларушчынай, бо яна ўсё роўна выжыве і застанецца, лепей накіруйце свой імпэт у іншым напрамку.

Жыве беларуская мова! Жыве вольная, незалежная, дэмакратычная і заможная Беларусь!

**Праект**

## Зварот удзельнікаў VIII з'езда ГА «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны» да кіраўніка беларускай дзяржавы

Цягам апошніх гадоў ідзе актыўная дэбеларусізацыя тэлевізійнай прасторы Беларусі. Як грыбы расце колькасць тэлевізійных каналаў Расійскай Федэрацыі, якія вольна вяшчаюць як праз тэлевізійны эфір, так і праз кабельныя сеткі нашай краіны. З удзелам дзяржаўнага капіталу заснаваны рускамоўныя «Агульнае нацыянальнае тэлебачанне» і «Сталічнае тэлебачанне». Дзяржтэлерадыёкампанія амаль цалкам спыніла вяшчанне на беларускай мове, і цынічна заяўляе, што родная мова беларусаў можа выкарыстоўвацца толькі ў спецыялізаваных праграмах і для вузкай аўдыторыі. Такім чынам, 73,6% грамадзянаў Беларусі, для якіх родная мова беларуская, сталіся ў нашай дзяржаве «вузкай аўдыторыяй» і для іх на тэрыторыі ўласнай краіны немагчыма арганізаваць вяшчанне.

Дзяржавай не выконваюцца як палажэнні Сусветнай дэкларацыі лінгвістычных правоў, у якой сказана, што кожная моўная супольнасць мае права выкарыстоўваць сваю мову, падтрымліваць і ўмацоўваць яе ва ўсіх сферах культуры і ажыццяўленне гэтага права павінна быць поўным, з тым, каб не дапусціць пераважнага ўздзеяння чужой культуры на тэрыторыі моўнай супольнасці, так і палажэнні ўласнай Канстытуцыі, у артыкуле 14 якой запісана: «Дзяржава рэгулюе адносіны паміж сацыяльнымі, нацыянальнымі і іншымі супольнасцямі на аснове прынцыпаў роўнасці перад законам, павагі іх правоў і інтарэсаў». Вяшчанне ж на беларускай мове ў краіне складае менш за 7% ад агульнага эфірнага часу.

Мы, удзельнікі з'езда ГА «ТБМ імя Ф.Скарыны», патрабуем:

– аднавіць тэлевізійныя трансляцыі на беларускай мове;

– прыняць шэраг нарматыўных актаў, якія б забяспечвалі рэальную роўнасць дзвюх асноўных моўных супольнасцяў і рэгламентавалі вяшчанне на дзяржаўнай беларускай мове не менш за 50% ад агульнай колькасці тэлетрансляцый;

– абавязаць кабельных аператараў уключаць у пакет праграм не менш за 30 працэнтаў беларускамоўнага вяшчання.

# Слоўнае люстэрка эпохі

Лексіка «Нашай Нівы» амаль праз стагоддзе вяртаецца да беларускага чытача. Днямі пабачыў свет першы том тлумачальнага слоўніка. Гэта выданне – плён працы супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай Акадэміі навук. Працэс падрыхтоўкі выдання доўжыўся больш за 15 год.

Падрыхтаваны ў аддзеле лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства НАН РБ, пад непасрэдным кіраўніцтвам загадчыка аддзела, доктара навук Валянціны Лемцюговай. Як і ўсякая слоўнікавая праца, падрыхтоўка патрабавала вялікіх высілкаў. Яшчэ ў 80-гады была створана картатэка, якая стала падмуркам для далейшай працы. Картатэка ахоплівала вялікі перыяд часу ад XVII да пач. XX ст. Пасля ў асобны раздзел быў выдзелены гэты, так званы «нашаніўскі», перыяд пачатку XX ст. Гэты перыяд у мовазнаўстве лічыцца перыядам фармавання новай літаратурнай мовы, таму і знаходзіцца пад асаблівай увагай даследчыкаў.




На пытанні «Новага Часу» адказвае малодшы навуковы супрацоўнік аддзелу лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства НАН РБ, адна з укладальніц «Слоўніка мовы «Нашай Нівы» (1906–1915)» **Алена Анісім.**

**– «Наша Ніва» выходзіла з 1906 па 1915 год, гэты час можна ахарактарызаваць як этапны ў фармаванні беларускай мовы. Як працавалі даследчыкі ў працэсе падрыхтоўкі выдання?**

– Калі распісвалася лексіка, то выкарыстоўваліся ўсе нумары «Нашай Нівы», якія ў той час былі ў наяўнасці ў бібліятэках. На той час нумары былі не ўсе. На заключным этапе складання картатэка папоўнілася нумарамі з прыватных калекцый. Пасля таго, як пабачылі свет факсімільныя выданні, праца набыла новы штуршок. Але, трэба зазначыць, што факсімільныя выданні утрымліваюць толькі кірылічныя тэксты. У наш слоўнік увайшлі словы напісаныя як на кірыліцы, так і на лацінцы, бо мы апрацоўвалі не толькі кірылічныя, але і напісаныя лацінкай нумары. Такім чынам на сёняшні дзень мы маем сведчанне самай сапраўднай беларускай лацінкі.

**– Гэты час, пачатак XX ст. характарызуецца фактычна адсутнасцю лексічных норм. Гэта абумовіла прысутнасць у «Нашай Ніве» розных падыходаў да выкладання тэкстаў, прысутнасць вялікай колькасці запазычанняў, дыялектызмаў і г. д. Як гэта акалічнасць адбілася на працы над слоўнікам?**

– Мы спрабавалі адшукаць значэнне усіх тых слоў, якія сустракаліся ў газэце. Сапраўды, мы мелі сітуацыі ў працэсе працы, калі ні дыялектныя, ні польскія, ні рускія слоўнікі не фіксавалі значэнні некаторых слоў. Таму праца была вельмі цікавая, але адначасова і вельмі цяжкая. Мы не адкідалі ніякіх слоў. У гэтым, на маю думку, і унікальнасць гэтага слоўніка. Па-другое, мы не пазначалі, што гэта слова абласное, дыялектнае ці слабапашыранае. Мы фіксавалі ўсе словы, якія былі ў «Нашай Ніве».

**– Што сабой уяўляе картатэка, на падставе якой быў створаны слоўнік?**

– Паўстала яна ў 80-я гады. Трэба зазначыць, што гэта быў час недастаткова тэхнічны. Усё рабілася ўручную, і супрацоўнікі аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі праводзілі вельмі карпатлівую працу. Пасля, калі з усё картатэкі былі выдзелены матэрыялы, якія тычыліся менавіта «Нашай Нівы», гэта ўсё было размножана. Са з'яўленнем камп'ютэра ў аддзеле мы атрымалі пэўную палёгку. З 1991 года ўжо вялася праца над слоўнікавымі артыкуламі. Тэма была завершана ў 1998 годзе.

**– Якія асаблівасці ёсць у структуры і форме новага слоўніка?**

– Справа ў тым, што мы стараліся падаваць усе формы слова, усе магчымыя напісанні і фанетычныя акалічнасці. За аснову браўся варыянт, бліжэйшы да сёняшняй літаратурнай мовы, але пад гэтым рэестравым варыянтам мы давалі і іншыя варыянты слова, у розным арфаграфічным афармленні. На месцы слова па алфавіце абавязкова ёсць адсылка на асноўны рэестр. Напрыклад, слова «адцадзіць», паколькі яго напісанне было не ўстойлівае і не уніфікаванае, то часта слова ўжывалася з прыстаўкай «ат». Мы давалі ўсе варыянты з прыстаўкай «ад», але на сваім месцы па алфавіце фіксавалася і «атцадзіць» з паметай «гл. адцадзіць».

У адрозненне ад сучасных слоўнікаў, мы асобна выносілі ў рэестр дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі. Хацелася б яшчэ раз падкрэсліць тую акалічнасць, што мы давалі багатыя ілюстрацыі, і менавіта на падставе іх ішло тлумачэнне слова. Мы ішлі ад першакрыніцы.

**– У слоўніку звыклае кірылічнае напісанне прысутнічае разам з лацінічным. Якія асаблівасці тагачаснай лацінкі вы маглі б адзначыць?**

– Нашаніўская «лацінка» была ў двух варыянтах. Адзін быў заснаваны на польскім напісанні, калі, прыкладам, «ч», «ш» і «ж» перадаваліся спалучэннем зычных. І другі варыянт чэшскі, калі гэтыя літары пісаліся з «гачыкамі», надрадковымі знакамі. Трэба сказаць, што газэтай у большай ступені ўжываўся менавіта чэшскі варыянт.

Я лічу, што лацінічны варыянт беларускай мовы нам можа вельмі паспрыяць у сённяшніх умовах. Напрыклад, тапанімічная камісія зараз сутыкаецца з праблемай транслітэрацыі беларускіх тапонімаў на лацінку. Адна справа, калі ў нас няма ўвогуле ніякага вопыту ў гэтым, і зусім іншая, калі ёсць дакладны яскравы прыклад ужывання беларускай лацінкі. Напісанне мяккага знака, дарэчы, даволі распаўсюджаная з'ява, але трэба сказаць, што найбольш паслядоўна яна вытрымліваецца пры напісанні лацінкай. У кірылічным напісанні яна адзначана і шырока выкарыстоўваецца, але напісанне мяккага знака ў газеце ,на маю думку, – тэма асобнага даследавання.

**– Спрэчка паміж прыхільнікамі лацінкі і кірыліцы вялася яшчэ ў той час. Вядома, што да 1912 года 3 тысячы асобнікаў газеты выходзілі кірыліцай і 1,5 тысячы лацінкай. Чаму, на вашу думку, пасля 1912 года «Наша Ніва» цалкам стала выдавацца на кірыліцы?**

– Праводзілася апытанне сярод чытачоў, – на якой мове больш чытаюць. Адыграла ролю яшчэ і такая акалічнасць. Вядома, што выдаваць газету – складаная праца. Так ёсць зараз, так было і напачатку XX стагоддзя. Гэту працу рабілі самаахвярныя людзі, і, улічваючы некаторыя эканамічныя фактары, рэдакцыя была пастаўлена перад выбарам, што выдаваць газету адразу двума графікамі – вельмі дорага. Па гэтай прычыне было спынена выданне на лацінцы.

**– У той час «Наша Ніва» была фактычна адзінай беларускай газетай. Таму на яе старонках знайшлі адлюстраванне літаральна ўсе бакі жыцця грамадства - палітыка, грамадства, гаспадарка, замежжа і г.д. З гэтага вынікае, што калі даследаваць лексіку газеты, можна зрабіць такі «моўны зрэз» пачатку мінулага стагоддзя...**

– Сапраўды, у прынцыпе ўсе слоўнікі сучаснай літаратурнай беларускай мовы павінны былі пачынацца са слоўніка «Нашай Нівы». Гэта унікальны лексічны матэрыял. Сам слоўнік – гэта першы этап, які робіць «лексічную панараму» мовы. Прычым гэта мова зафіксавана не са слоў некага, гэта не апрацаваныя запісы, дзе магчымыя нейкія скажэнні. Гэта факт, сведчанне, якое нельга аспрэчыць.

Справа ў тым, што, маючы фактычны моўны матэрыял і даследуючы яго, мы можам выявіць тэндэнцыі, якія мелі месца. Напрыклад, якія граматычныя формы слоў пераважалі. Адсачыць, што стала альбо не стала нормай, што ўяўляла сабой мова, якія накірункі паераважалі і як ішло ўнармаванне. «Наша Ніва» пачатку XX ст. дае адказы на такія складаныя пытанні. Зрабіўшы такі аналіз, мы зможам параўнаць мову з той, што была зафіксавана пазней, і адказаць на пытанне, ці ў тым жа кірунку яна развівалася, ці ўсё ж такі гэты шлях быў зменены.

**– Якая праца ў гэтым рэчышчы плануецца на бліжэйшы час?**

– Наступны том слоўніка на літары «Е–Н» павінен выйсці ў 2004 годзе. Зараз у аддзеле вядзецца падрыхтоўка да выдання манаграфіі — уласна даследванне лексікі «Нашай Нівы» на матэрыяле картатэкі і факсімільных нумароў.

Усяго плануецца выдаць чатыры тамы слоўніка і пяты том «Анамастыкон». У ім будуць прыведзены ўсе зафіксаваныя назвы населеных пунктаў, назвы краін, імёны аўтараў і персаналіі, якія ўзгадваюцца ў газеце. Гэта вельмі каштоўны матэрыял, які люструе ўласнабеларускую анамастыку пачатку XX ст.

**– На якога чытача разлічана гэта выданне? Як, на вашу думку, слоўнік можа паслужыць справе адраджэння мовы?**

– Найперш выданне разлічана безумоўна на спецыялістаў-філолагаў, можа быць выкарыстана спецыялістамі ў галіне гісторыі беларускай мовы, для спецсемінараў, у навукова-папулярнай сферы. На маю думку ён будзе карысны ўсім, хто цікавіцца беларускай мінуўшчынай, мовай, хто хацеў бы для сябе адзначыць, наколькі мова багатая. Паслужыць слоўнік і краязнаўцам, якія могуць праверыць ці ўжываліся нейкія цікавыя ім знаёмыя словы ў «нашаніўскія» часы. Таксама раю пачытаць усім, хто хацеў бы проста пашырыць свой лексічны склад.

Калі разглядаць працэс развіцця мовы не як статычны, а як дынамічны, то лексіка «Нашай Нівы» можа стаць крыніцай для пераасэнсавання ўжо вядомых нам слоў. Магчыма, гэта паслужыць асновай для стварэння нейкага сучаснага «слэнгу».

**– Чым стала праца над слоўнікам для супрацоўнікаў аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі акадэміі? Ці змяніўся яго склад за час гэтай працы?**

– Вельмі пашанцавала нам, маладым супрацоўнікам, якія толькі прыйшлі ў інстытут і адразу ўключыліся ў гэту цікавую справу. Сутнасць у тым, што лексікаграфічная праца, складанне слоўнікаў патрабуюць вопыту, прафесіяналізму. І звычайна такую працу робяць найбольш дасведчаныя спецыялісты, а тут атрымалася так, што мы ўвайшлі ў работу, не маючы практычнага вопыту акадэмічнай працы.

Самае цікавае, што падчас гэтай працы з 1991 па 2003 год у супрацоўнікаў нашага аддзела нарадзілася чацьвёра дзяцей. Яны не толькі працавалі, ажыццяўлялі тэхнічны набор і г. д., але ў той жа час паспявалі выходзіць замуж, жаніцца і нараджаць дзяцей. Так што слоўнік – гэта таксама дзіця нашага аддзела.

**– Гэта лепшы доказ, што плён «Нашай Нівы» заўжды быў значны. Дзякуй за гутарку.**

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**




Гэта – вуліца Няміга ў Мінску да таго, як у 1960-я гады яе варварскі зруйнавалі бульдозерамі, каб паставіць нязграбны шматпавярховы дом, потым прыбудаваць да яго гандлёвы «Дом на Нямізе», а ў нашы дні распачаць будаўніцтва 4-яруснай стаянкі для машын. Бальшыня сённяшніх мінчан не бачыла старых вулачак Мінска, тых, якія зніклі ў часы разгорнутага «сацыялістычнага будаўніцтва». Адзін з такіх куткоў старога цэнтра сталіцы зафіксаваў гэты здымак.

# Вагі: пешаход ці «мерс»?

**У Законе РБ «Аб дарожным руху», што ўступіў у сілу крыху больш за год назад, і ў новых Правілах дарожнага руху, здавалася б, інтарэсы кіроўцаў і пешаходаў збалансаваны. Але штодня грамадзяне церпяць ад таго, што чыняць аўтаўладальнікі.**

У адпаведнасці з новымі правіламі дарожнага руху кіроўцы павінны прапускаць пешаходаў на пешаходных пераходах. Аднак гэтае правіла яны выконваюць зрэдку. На ажыўленых вуліцах, напрыклад, на пл. Свабоды, вул. Прытыцкага (ля крамы «Вераніка»), дзе няма ні святлафораў, ні інспектараў ДАІ, кіроўцы не саступаюць дарогу пешаходам.

Супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі рэгулярна праводзяць рэйды і праверкі, і ў выніку кантролю з пачатку году на 9.500 кіроўцаў былі складзены адміністрацыйныя пратаколы за парушэнне правілаў праезду пешаходных пераходаў.

Найбольшую небяспеку для ўсіх удзельнікаў дарожнага руху ўяўляюць кіроўцы, што садзяцца за руль у нецвярозым стане. Ад пачатку году ў сталіцы такіх выяўлена 7.053асобы. З віны нецвярозых кіроўцаў было здзейснена 46 дарожна-транспартных здарэнняў, у выніку якіх загінулі 10 чалавек, а 78 атрымалі раненні. П'яны за рулём – патэнцыйны забойца, і таму карныя захады сталі больш жорсткімі: цяпер за такое парушэнне не штрафуюць, а пазбаўляюць правоў на 36 месяцаў.

На думку ДАІшнікаў, кожны другі кіроўца перавышае дапушчальную хуткасць, калі знаходзіцца не ў полі зроку інспектара. Ад пачатку году за перавышэнне хуткаснага рэжыму 109.400 чалавек прыцягнута да адказнасці.

Цяпер у Мінску зарэгістравана больш за 430.000 аўтамабіляў, што знаходзяцца ў прыватнай уласнасці. І гэтым «жалезным коням» катэгарычна не хапае месца на аўтастаянках. Таму часта іх пакідаюць у дварах дамоў. Згодна з новымі правіламі, забаронена паркоўка аўтамабіляў з боку ўваходу ў пад'езды жылых дамоў і на разваротных пляцоўках. Нельга таксама ставіць машыны ў радыусе 10 метраў ад смецевых кантэйнераў. Узімку ўладальнікі аўто павінны прыбіраць снег вакол машыны ў радыусе аднаго метра. А ўвесну, улетку і ўвосень катэгарычна забараняецца ставіць машыну на зялёную зону дваровай тэрыторыі.



Часам супрацоўнікі ДАІ падчас рэйдаў зазіраюць у дворы жылых дамоў і складаюць адміністрацыйныя пратаколы на парушальнікаў. Але, добрасумленна сплаціўшы штраф, аўтаўладальнікі працягваюць ставіць машыны пад вокнамі сваіх кватэр. Рэч у тым, што да надаўняга часу ў Мінску катастрафічна неставала паркоўак.

Згодна з рашэннем Мінгарвыканкаму, з верасня ва ўсіх мікрараёнах сталіцы з'явяцца начныя аўтамабільныя паркоўкі з аховай. Цяпер строга будуць пытацца ў аўтаўладальніка: чаму ён не паставіў машыну на паркоўку?

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

# Шлях за краты

***Каму прызначана пажыць у «зоне», той пастараецца туды патрапіць***

У будаўнічай сферы здзяйсняецца шмат эканамічных злачынстваў. Напрыклад, завышаюцца кошты будаўнічых работ і матэрыялаў. Уявім, у каштарыс уносіцца часовыя рыштаванні. Потым пайдзі і высветлі: былі яны ці не. Але выдаткі на іх якія: дрэва для рыштаванняў, мантаж і дэмантаж. А пагледзім на будаўнічыя матэрыялы: дахоўка можа каштаваць і пяць даляраў за метр, і два. Не пройдзе і палова года, як экспертам немагчыма будзе высветліць, якая дахоўка было выкарыстана.

Відавочна, ведаючы аб тым, што асобныя кіраўнікі будаўнічых фірмаў не саромеюцца займацца прыпіскамі, асобныя заказчыкі жадаюць, каб з імі падзяліліся звышпрыбыткамі. Вось і дырэктар аднаго з структурных падраздзяленняў Акадэміі навук вырашыў «раскулачыць» дырэктара фірмы, якая выконвала будаўнічыя работы ў храме навукі. «Фірмачам» усё ніяк не пералічвалі грошы за выкананыя работы, нягледзячы на падпісаны акт прыёмкі-здачы. Паступова ў ходзе перамоваў паміж дырэктарам структурнага падраздзялення Акадэміі навук і дырэктарам прыватнай будаўнічай фірмы высветлілася: пералічыць грошы можна хоць зараз, але хацелася б... 500 даляраў у канверце. Дырэктар прыватнай фірмы вырашыў, што трэба «падагрэць» кіраўніка структурнага падраздзялення Акадэміі навук, калі інача не атрымліваецца. Ён ужо затрымлівае заробак сваім рабочым...

Перад тым, як пайсці з канвертам, дырэктар прыватнай фірмы ўважліва прачытаў некалькі артыкулаў Крымінальнага кодэкса. І зразумеў, што для яго будзе лепш паведаміць аб вымаганні хабару ў міліцыю.



Супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Першамайскага РУУС Мінска арыштавалі атрымальніка хабару. Пасля невялікага расследавання крымінальная справа была перададзена у суд. Мінімальная мера пакарання за атрыманне хабару – арышт на тэрмін да шасці месяцаў, максімальная – пазбаўленне волі на тэрмін да 6 год з канфіскацыяй (ці без канфіскацыі) і з забаронай займаць пэўныя пасады (ці без забароны).

Калі займацца бізнесам легальна, то немагчыма атрымліваць звышпрыбыткі.

Таму ў галовах асобных кіраўнікоў суб'ектаў гаспадарання будуюцца вытанчаныя схемы незаконнага ўзбагачэння. Каб «замесці сляды» і атрымаць наяўныя грошы выкарыстоўваюцца фірмы-«аднадзёнкі».

Супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Цэнтральнага РУУС Мінска была атрымана аператыўная інфармацыя аб несамавітай дзейнасці дырэктара камерцыйнай фірмы, назавём яе «Б». У свой час гэта фірма атрымала дзяржаўныя дамовы і на іх падставе выконвала будаўнічыя работы на такіх аб'ектах, як Палац Рэспублікі, Нацыянальны банк, Лядовы палац у Мінску. Работа на гэтых аб'ектах не прынесла вялікіх прыбыткаў, затое была выкарыстана для атрымання камерцыйнага аўтарытэту і выгадных знаёмстваў на будучыню.

Менавіта дзякуючы гэтым знаёмствам і была атрымана дамова на выкананне рамонтна-будаўнічых работ на адным з аб'ектаў камерцыйнага банка. Пасля атрымання ад банка папярэдняй аплаты за будаўнічыя матэрыялы, дырэктар фірмы Г. не спяшаўся іх набываць. Затое стварыў ланцужок дамоваў з некалькімі камерцыйнымі банкамі наконт выканання будаўнічых работ.

Супрацоўнікі АБЭЗ Цэнтральнага РУУС Мінска распавялі, што ў дамовах значна завышаліся кошты будаўнічых работ. Акрамя таго, мела месца звычайнае махлярства: выкананне работ па папярэдніх дамовах за кошт наступных.

Усе грашовыя сродкі, атрыманыя ад банкаў, былі абнаяўлены праз фінансавыя кампаніі – фірмы-«аднадзёнкі». Гэта дазволіла Г. атрымліваць наяўныя грошы і выкарыстоўваць іх на свае патрэбы. Ён набыў дарагі аўтамабіль, разам з адным з заснавальнікаў фірмы, В. спраўляў шыкоўныя банкеты для наступных дамоўшчыкаў, пазычаў грошы знаёмым і разлічваўся па сваіх асабістых пазыках. А тым часам матэрыяльнае становішча работнікаў фірмы, было вельмі сціплым.

Каб схаваць сляды злачынства Г. расказваў усім аб крадзяжы з склада фірмы дарагіх будаўнічых матэрыялаў. Фактычна ж матэрыялы на склад не паступалі. Пад гэтую схему стварыліся фальшывыя таварна-транспартныя накладныя ад фірм-«аднадзёнак» і карткі ўліку складской прадукцыі. Пры дэталёвым вывучэнні бухгалтарскіх дакументаў супрацоўнікі АБЭЗ высветлілі, што даты іх складання і нумары не адпавядаюць дакументазвароту на фірме.

З расповядаў грамадзяніна Г. на допытах высветлілася, што большую частку грошай ён аддаваў заснавальніку фірмы, Той таксама затрыманы. А сярод пацярпелых ад «фірмы з добрай рэпутацыяй» – некалькі дзяржаўных устаноў.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

## Геапалітыка

# Сэнс рускай адукацыі ў Беларусі

У Маскве прайшла прэс-канферэнцыя на тэму «Руская мова на постсавецкай прасторы: праблемы рускамоўнай адукацыі і кнігавыдання».

Шчыра паведаміў расійскую пазіцыю па гэтых праблемах намеснік старшыні Савета па адукацыі дзяржаў-членаў СНД, генеральны дырэктар маскоўскага выдавецтва «Просвещение» **Аляксандр Кандакоў**, адказваючы на пытанні журналістаў.

***Пытанне.*** **Сёння назіраецца скарачэнне колькасці рускамоўных школ на тэрыторыі СНД, што само па сабе нясе сур'ёзную пагрозу інтарэсам Расіі. Адным з фактараў выціскання з'яўляецца адсутнасць сучаснай вучэбна-метадычнай літаратуры для рускамоўнай школы. Якія захады робіцца дзеля таго, каб спыніць гэты працэс?**

***Адказ.*** Пытанне забеспячэння падручнікамі рускамоўных школ стаіць дастаткова востра. Яно часткова вырашаецца ў рамках дзейнасці Камісіі па суайчынніках пры ўрадзе Расіі. У гэтым годзе камісія закупляе вучэбнай літаратуры прыкладна на суму 35–40 мільёнаў рублёў. Гэта каля 400–600 тысяч асобнікаў кніг, што дазволіць забяспечыць падручнікамі прыкладна 100 тысяч дзяцей. У рэальнасці патрэбы ў 5–8 разоў большыя. Канешне, значная частка падручнікаў набываецца на грошы бацькоў і на сродкі бюджэтаў сумежных дзяржаваў. Аднак доля бюджэтных грошай пастаянна змяншаецца: гэта звязана з тым, што ўводзяцца свае стандарты адукацыі (часта адукацыя ў гэтых дзяржавах развіваецца больш высокімі тэмпамі, чым расійская – напрыклад, у Казахстане) і там патрабуюцца падручнікі ўжо новага пакалення. У выніку колькасць нашых падручнікаў у агульным сумарным звароце вучэбнай прадукцыі краінаў СНД няспынна змяншаецца. Шмат якія рускамоўныя школы, страціўшы надзею на атрыманне расійскіх падручнікаў, пачынаюць пераходзіць на падручнікі сваіх дзяржаваў ці выкарыстоўваць састарэлыя кнігі...

**Мова з'яўляецца адной з галоўных прыкметаў этнасу. Калі дзіця не можа атрымаць адукацыю на роднай мове, гэта значыць, што яно губляе свае карані, сувязь з роднай культурай. І пачынаюцца працэсы асіміляцыі ў прасторы іншай культуры. Наколькі гэта стратэгічна і палітычна небяспечна для Расіі - пытанне асобнае, і яно не можа не хваляваць...**

Клопат пра суайчыннікаў у бліжэйшым замежжы мае некалькі аспектаў. Па-першае, гэта падтрымка адукацыйных, культурных і інфармацыйных патрэбаў, па-другое – падтрымка рускамоўнай дыяспары, па-трэцяе – **наяўнасць пэўнай расійскай сферы ўплыву ў дзяржавах блізкага замежжа. Не сакрэт, што дэмаграфічная сітуацыя ў Расіі зараз такая, што ў бліжэйшыя гады катастрафічна будзе не хапаць новых маладых рабочых кадраў, якія скончылі навучальныя ўстановы розных узроўняў. Таму пошук такіх кадраў у краінах блізкага замежжа з'яўляецца адной з надта сур'ёзных задач, якія стаяць перад расійскай сістэмай адукацыі. Забеспячэнне адукацыі на ўзроўні расійскіх стандартаў з'яўляецца вельмі важнай справай (асноўны паток іміграцыі ў Расію ідзе з краінаў блізкага замежжа). І чым больш кваліфікаваныя людзі да нас прыедуць, тым больш пазітыўна гэта адаб'ецца на расійскай эканоміцы...**

Калі гаварыць аб падтрымцы суайчыннікаў, трэба сказаць і аб развіцці экспарту адукацыйных паслуг з Расіі, падтрымцы дзейнасці філіялаў расійскіх вну ў сумежных краінах, падтрымцы дзейнасці славянскіх нацыянальных універсітэтаў, падобных на тыя, якія дзейнічаюць зараз у Магілёве, Бішкеку, Ерэване і ў Душанбэ.

*(Друкуецца ў скароце. Выдзяленні нашы. – Рэд.)*

# Украіна рыхтуе украінізацыю школ

Напрыканцы верасня міністр адукацыі Украіны Васіль Крэмень паведаміў, што міністэрства падрыхтавала праграму па украінізацыі школ Данецка і Крыма, а таксама шэрагу іншых рэгіёнаў Паўднёва-Усходняй Украіны.

Міністр катэгарычна заявіў, што за два гады да запланаванага пераводу школ на ўкраінскую мову выкладання аб гэтым будуць пастаўлены ў вядомасць педагагічныя калектывы. Кожны настаўнік мусіць ці пагадзіцца з пастаўленай Міністэрствам адукацыі задачай, ці ў выпадку нязгоды шукаць сабе іншае месца працы.

Адразу ж на гэтае паведамленне міністра адрэагавалі актывісты «Рускага руху Украіны» і члены партыі «Рускі Блок». Яны прынялі заяву, у якой гаворыцца, што падобныя планы міністэрства трэба расцэньваць як выклік, кінуты праціўнікамі расійска-украінскага збліжэння. У заяве падкрэслена, што гэта адбылося ў той момант, калі трэба ратыфікаваць пагадненне аб стварэнні Адзінай эканамічнай прасторы чатырох дзяржаваў. Таксама аўтары заявы лічаць праграму ўкраінізацыі ўкраінскай школы выклікам тым прадстаўнікам палітычнага кіраўніцтва Расіі, што выступаюць за наданне рускай мове статуса афіцыйнай мовы ў краінах СНД. Чым руская лепшая за ўкраінскую і чаму яна павінна быць афіцыйнай у чужой краіне, актывісты «Рускага Блока» не тлумачаць

Варта нагадаць, што ў краінах Еўрапейскага Саюза ніхто не выступае за наданне нямецкай ці французскай мовам статусу афіцыйнай мовы для астатніх краінаў Саюза.

# Багатыя абыякавыя да бедных

***У трушчобах месіцца мільярд людзей – кожны шосты чалавек***

Спецыялісты ААН апублікавалі справаздачу па даследаванні жытла чалавека. Вынікі даследавання шакіруюць – колькасць людзей, якія жывуць у трушчобах, амаль дасягнула 1 мільярда. Галлоўная прычына гэтага – няспынная міграцыя насельніцтва з сельскіх раёнаў у гарады і непадрыхтаванасць уладаў вырашаць гэтую праблему. Самае ж жахлівае, што працэс павялічвае маштабы: колькасць насельнікаў трушчобаў праз 30 гадоў можа падвоіцца і перабольшыць 2 мільярды. Як заявіў кіраўнік Праграмы ААН па праблемах жытла чалавека, існаванне трушчобаў з'яўляецца ганьбай для ўсяго чалавецтва. Нагадаем, што 2 мільярды людзей насялялі Зямлю ў сярэдзіне 20-га стагоддзя.

Сама справаздача – гэта буйнейшая праца па праблеме трушчобаў: пры яе падрыхтоўцы была даследавана сітуацыя ў 37 гарадах свету. Найбольш неспрыяльнымі прызнаныя краіны, якія развіваюцца. Тут лідзіруе Азія – 60 працэнтаў, 20 працэнтаў прыходзіцца на Афрыку, 14 працэнтаў – на Лацінскую Амерыку. Дадзеная праблема не абмінула і развітыя краіны – тут у трушчобах жывуць 54 мільёны чалавек (6 працэнтаў).

Па ацэнках прадстаўнікоў Праграмы ААН па населеных пунктах (UN-HABITAT), цяпер у гарадах пражывае палова ўсяго насельніцтва Зямлі, траціна гараджанаў – 924 мільёны чалавек – жывуць у цалкам неспрыяльных умовах і пазбаўлены доступу да элементарных камунальных выгодаў.

У справаздачы мяркуецца, што скачок у павелічэнні колькасці насельніцтва трушчобаў адбыўся хутчэй за ўсё ў 1990-я гады. Гэта здарылася, нягледзячы на той факт, што ў той жа час палітыкі адмовіліся ад практыкі прымусовага рассялення і ігнаравання праблемы, сталі надаваць больш увагі паляпшэнню жыллёвых умоваў, дапамозе людзям і павазе іхных правоў. Атрымліваецца, што рэакцыя на праблему толькі адпавядала памерам яе росту, а механізмы прагназавання і папярэджання не спрацавалі.

У сувязі з гэтым кіраўнікі праграммы звярнуліся да ўрадаў з заклікам усвядоміць маштабы і сур'ёзнасць сітуацыі. ААН падкрэслівае важнасць надання жыхарам трушчобаў доўгачасовых правоў на жыллё – нават калі гэта не прадугледжвае непасрэднае валоданне. Менавіта гэта, на думку спецыялістаў арганізацыі, павінна пераканаць людзей інвеставаць у свае супольнасці. Выканаўчы дырэктар праграмы ААН, якая падрыхтавала справаздачу, нагадала, што сусветныя лідэры абавязаліся да 2020 года значна палепшыць умовы жыцця па меншай меры 100 мільёнаў насельнікаў трушчоб.

У справаздачы таксама ўтрымліваецца занепакоенасць працягам глабалізацыі, якая, на думку складальнікаў дакумента, у сваёй цяперашняй форме «не заўсёды працуе на карысць бяднейшых слаёў гарадскога насельніцтва». Гэтае нясмелая заява паказвае, што нават у ААН шкодны ўплыў глабалізацыі на жыццё планеты яшчэ не вельмі ўсвядомлены і адпаведна ацэнена.

# Пахаваныя жыўцом

***Артыкул быў апублікаваны напярэдадні выбараў у Чачні, на якіх прэзідэнцтва дасталося Ахмаду Кадыраву, але апроч гэтага нічога не змянілася***

Чачэнская нацыя налічвае каля мільёна чалавек, з іх ад 100.000 да 200.000 загінулі ад расійскіх вайскоўцаў, якія ўпершыню ўварваліся на тэрыторыю Чачэнскай рэспублікі ў 1994 годзе. У 2000 годзе расійскі прэзідэнт Уладзімір Пуцін зноў накіраваў туды войска і зраўняў з зямлёй Грозны, ператварыўшы родную зямлю чачэнцаў у пекла.

У нядзелю на гэтай разбуранай тэрыторыі адбудуцца зрэжысараваныя Масквой прэзідэнцкія выбары. Ніхто, нават Крэмль, не лічыць іх легітымнымі. Крамлёўскі кандыдат Ахмад Кадыраў, цяперашні кіраўнік прарасійскай адміністрацыі Чачні, не карыстаецца папулярнасцю (яго падтрымліваюць 13% апытаных). Усе рэальныя канкурэнты Кадырава знялі свае кандыдатуры ў выніку подкупу ці пагрозы смерцю ці былі адхілены ад удзелу ў выбарах. Што датычыць простых людзей, якіх падштурхоўваюць да выбарчых урнаў ствалямі Калашнікава, яны ведаюць, што значэнне маюць не выбарчыя бюлетэні, а хутчэй тыя ўзброеныя людзі, якія вынайшлі гэтыя выбары (у спісах выбаршчыкаў значацца 200.000 чачэнскіх мёртвых душ) і якія будуць здзяйсняць падлік галасоў.

Нашто патрэбна гэтая тэатральная пастаноўка? Скажам гэтак: гэтыя зрэжысараваныя выбары – карысная аперацыя, з дапамогай якой Масква дасылае траістае паведамленне.

Чачэнцам, стотысячнай расійскай акупацыйнай арміі і калабарцыённай чачэнскай міліцыі Масква сігналізуе, што вайна будзе ісці да канца. Ніякіх перамоваў з неісламскім рухам за незалежнасць ці з былым прэзідэнтам Аланам Масхадавым, які быў абраны пад эгідай Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе і які сёння знаходзіцца ў выгнанні. Прымаючы пад увагу звычкі тайнай паліцыі Кадырава, чыя жорсткасць іншым разам пужае нават расійскія спецслужбы, нядзельнае галасаванне фактычна прымушае чачэнцаў падпісваць самім сабе прысуд ці на смерць, ці на рабства.

Рускаму насельніцтву Чачні (бальшыня якога, згодна з вынікамі нядаўніх апытанняў грамадскай думкі, выступае за перамовы з Масхадавым) Крэмль дасылае канкрэтны ультыматум: калі не падпарадкуецеся, то да вас таксама пачнуць ставіцца як да паўстанцаў. Ад Мікалая I да Сталіна і далей да прэзідэнта Пуціна існуе няўмольная пераемнасць: каланіяльная вайна на Каўказе непазбежна ператвараецца ў генацыд мясцовага насельніцтва, якому сякуць галовы, якое дэпартуюць да апошняга чалавека, сціраючы з зямлі вёскі і л'ючы кроў.

Трэцяе пасланне расійскай дыпламатыі адрасавана цывілізаванаму свету і гучыць так: «Кацíцеся прэч! Так, нядзельныя выбары – не болей чым кпіны над дэмакратычнымі правіламі, але вы ўсе заплюшчыце на гэта вочы». Парыж і Берлін ідуць на кампраміс, бо ім вельмі хочацца заманіць Расію ў свой «лагер міру» ў пытанні аб Іраку, нягледзячы на тое, што Расія вядзе самую брудную вайну пачатку 21-га стагоддзя. Еўрапейскі Саюз, які прагне расійскай нафты і прыроднага газу, праглыне свае прынцыпы і



змірыцца. Вашынгтон часткова па меркаваннях стратэгіі (ядзерны баланс), часткова з прычыны свайго цынізму забывае аб той падтрымцы зброяй і парадамі, якую Масква да апошняй хвіліны аказвала Садаму Хусейну. У Пуціна рукі развязаныя, і ён робіць пасмешышча з дэмакратыі, дэманструючы свету скрываўленыя выбарчыя урны.

Глабальная капітуляцыя перад каўказскай бойняй з'яўляецца сур'ёзнай памылкай, якая хужэй за злачынства. Дэмакратычныя ўрады і мільёны дэманстрантаў «супраць вайны», якія выходзяць на вуліцы, пратэстуючы супраць Джорджа Буша, але ніколі супраць Уладзіміра Пуціна, вінаватыя ў тым, што не дапамагаюць народу, які знаходзіцца на мяжы вынішчэння. Абыякавыя, але не недасведчаныя. Ім вядома пра чатыры гады крывавай бойні, жорсткасці, тэрору і жахаў – але іх гэта не кранае.

Хіба яны не здагадваюцца, што ў Чачні паўтараецца афганскі сцэнар? Узгадайце, што на працягу 10 гадоў Савецкая армія намагалася зламіць Афганістан, у выніку чаго на руінах апынуліся пры ўладзе бандыты. Потым прыйшлі талібы і Усама бен Ладэн. Вынікам стала зруйнаванне Вежаў-Блізнятак. Трагедыя паўтараецца. Колькі яшчэ часу тыя, хто перажыў расійскія «зачысткі», змогуць утрымацца на слізкім схіле самазабойчага тэрарызму? Колькі засталося да таго моманту, калі які-небудзь вар'ят скіруе ракету на атамны рэактар? Прэзідэнт Пуцін з'яўляецца пажарнікам-піраман'якам, а яго нястомнасць падштурхоўвае ўсіх нас, расіян і еўрапейцаў, да края працьмы.

Усе адчуваюць гэтую вялікую рызыку – ніякая расійская тэрыторыя не гарантуе болей бяспекі ад самазабойчага нападу, чым даваў Манхэтэн, – калі яны нават і падкупіліся на пуцінскую ідэю «канчатковага вырашэння»: няма чачэнцаў – няма і тэрарыстычнай пагрозы. Маўчанне пацыфістаў і сусветных лідэраў раўнацэннае іх блаславенню.

І таму яны спрабуюць знайсці апраўданне свайму саўдзелу ў відавочным злачынстве. Шмат месяцаў пасля падзей 11 верасня 2001 года яны трубілі пра тое, што бен Ладэна ахоўваюць «пакістанцы, арабы і чачэнцы». Гэтыя запушчаныя Масквой чуткі былі ўспрынятыя як праўда. Але пасля разгрому талібаў у Афганістане не знайшлі ніводнага чачэнца, ні мёртвага, ні жывога, ні ў ліку палонных на базе Гуантанама. Хлуслівыя паведамленні садзейнічаюць супакаенню нашага забруджанага сумлення, калі мы ставім да ганебнага слупа цэлую нацыю.

Сусветная грамадская думка, пра якую нельга сказаць, што яна недастаткова інфармаваная ці не падазрае аб небяспецы, моўчкі пагаджаецца з генацыдальнымі імпульсамі, якія рухаюць расійскімі ваеннымі.

**Андре ГЛЮКСМАН**
**The Wall Street Journal**

## Французскі гігант

У Францыі спушчаны на ваду самы вялікі ў гісторыі суднабудавання пасажырскі лайнер «Queen Mary-2». Памеры лайнера не могуць не ўразіць: вышыня 21-палубнага судна дасягае 72 метраў, даўжыня – 345 метраў. Калі б яго можна было паставіць на карму, яно б на 30 метраў было б вышэйшае за Эйфелеву вежу.



Водазмяшчэнне гіганта складае 150 тысяч тон, што перабольшвае водазмяшчэнне амерыканскага авіяносца Midway. Гудок лайнера чуваць на адлегласці 16 кіламетраў. Судна можа прыняць болей за 3 тысячы пасажыраў, да паслугаў якіх прапануе 5 плавальных басейнаў, 7 рэстаранаў, некалькі казіно і кіназаляў. Кошт яго будаўніцтва складае 910 мільёнаў даляраў

Першы вояж Queen Mary-2 ад берагоў Вялікабрытаніі ў Амерыку запланаваны на 12 студзеня 2004 года.

## Кітайскі сад для невідушчых

Сляпыя жыхары кітайскага горада Сучжоу змогуць адчуць водар жывой прыроды далёкіх краінаў, не пакідаючы родны горад. На тэрыторыі аднаго з мясцовых паркаў з'явіцца батанічны сад, адмыслова абсталяваны для інвалідаў з дэфектамі зроку.

На плошчы 3 тысяч кв. метраў пасадзяць тыя расліны, да якіх маглі б дакранацца і якія маглі б нюхаць сляпыя, не баючыся пакалоцца вострымі калючкамі ці ўдыхнуць ядавіты пылок. Апроч таго, дрэвы і кусты будуць невялікага памеру, каб людзі са слабым зрокам ці сляпыя маглі дакрануцца да лістоты.

Гарадская Федэрацыя інвалідаў прасочыць за тым, каб на дарожках саду не было крутых паваротаў і спускаў, а тэрыторыя была абсталяваная сістэмай гучнагаварыцеляў і спецыяльнымі туалетамі, зручнымі для сляпых. Арганізатары праекта чакаюць, што гэты спецыялізаваны батанічны сад зацікавіць людзей з розных рэгіёнаў Кітая.

## Польскім малпам пашчасціла

Міністэрства навакольнага асяроддзя Польшчы загадала прывесці ўсе мясцовыя заапаркі ў адпаведнасць з патрабаваннямі Еўрапейскага Саюза да 1 траўня 2005 года. Жорсткія нормы ЕС прадугледжваюць больш ёмістыя клеткі і вальеры для жывёл, чым тыя, якія зараз маюць польскія заапаркі. Найперш гэта закранае «жыллёвыя ўмовы» малпаў, тыграў і ягуараў. У прыватнасці, у кракаўскім заапарку наваселле чакае малпаў. Згодна з нормамі Еўрапейскага Саюза, для ўтрымання шымпанзэ ў заапарку неабходны вальер плошчай 300 кв. метраў. Зараз у Кракаве для кожнай малпы выдзелена толькі 44 кв. метры. Не лепшая сітуацыя і з іншымі жывёламі. Каб вырашыць праблему з пашырэннем вальераў па-еўрапейску, у кракаўскім заапарку чакаюць фінансавай дапамогі з Бруселя ў памеры 1 мільёна 250 тысяч даляраў.

## Па правілах бізнесу

З 1 студзеня ў Францыі пачне дзейнічаць новы музейны закон, які пакуль што датычыць Луўра. Згодна з ім, усе даходы ад прададзеных білетаў Луўр будзе пакідаць сабе (раней 45% аддаваў дзяржаве). Гэта немалыя грошы. Квіток у музей каштуе 5–7,5 еўра, а на часовыя выставы – у сярэднім 10 еўра. Наведвальнікаў багата: у 2001 годзе было 5,1 мільёна чалавек, у 2002 годзе – 5,8 мільёна, а да канца бягучага года чакаецца 7 мільёнаў. Адначасна дзяржава спыняе фінансаванне выставачнай дзейнасці музея, але дае яму датацыю ў памеры 6,5 мільёнаў еўра на бліжэйшыя тры гады. Астатнія выставачныя грошы Луўр будзе павінны зарабляць сам. Цяпер ад прыватных спонсараў музей атрымоўвае каля 10 мільёнаў еўра штогод. Магчыма, Луўр скарыстае амерыканскі вопыт «выставы-блокбастэра». Напрыклад, бяруць каштоўнасці Ватыкана і возяць іх па гарадах Амерыкі. Каштуе такая экспазіцыя вялікія грошы, але дае немалы прыбытак. Гэта лічыцца добры бізнес. Таксама, згодна з новым законам, у кожным дзяржаўным музеі будзе створана свая закупачная камісія. Дзяржава будзе даваць падатковыя льготы тым фірмам і кампаніям, якія гатовы выкупляць у прыватных асоб творы французскага мастацтва і перадаваць іх у французскія музеі.



 



Арсень Ліс

# Вётхаўскія эсэ

## Пільсуцкі

Мянушка «Пільсуцкі», дадзеная дзядзьку Івану нейкім вясковым вострасловам, прыляпілася да чалавека так надзейна, што ўласнае яго прозвішча для многіх як бы і не існавала, забылася. А калі і прыгадвалася яно, то адно пры нейкай афіцыйнай нагодзе: з прыходам позвы ад гміннага начальства або квітка на аплату падаткаў.

Па праўдзе кажучы, повады для таго, каб імем самога кіраўніка Польскай дзяржавы, маршалка Пілсудскага, называць вётхаўскага селяніна, не было ніякага. Хіба можа адно, чыста знешняе. Праўда што быў дзядзька Іван чалавекам рослым, дужым, мажным. Постаццю не схібіў. Але з твару, каб чым-небудзь упадобіць Івана Пільсуцкага грозна-мужнаму маршалку, з яго вусамі-стрэламі ды густымі, стрэшкаю брывамі, – было проста нельга.

Шчыра зычлівая і нейкая крыху сарамлівая ўсмешка на аблічча выдавала ў дзядзьку Іване натуру лагодную, спакойную, нават безабаронную, нягледзячы на самавіты выгляд і цвёрды поступ. Не меў паважны вётхавічанін ніякіх ні толькі палітычных, але, здаецца, і земляробскіх, гаспадарскіх амбіцый. Праўда, казалі на касьбе з ім не мог ніхто зраўняцца. Падсілкаваўшыся на сняданне стосам наздраватых бліноў, апратаўшы іх штук пятнаццаць-дваццаць з маслам або смятанай, Пільсуцкі мог даць касе належны размах. Ды толькі касілі тады, гэта добрага паўвека таму, у нас кожны па сабе і сенажаці той было не лішак.

У канцы поля, над неглыбокай пакручастай рэчкай, званай Нурэц, у кожнага вётхаўскага гаспадара меўся свой невялікі поплаў.

Пасля веснавой паводкі, калі вада падступалася аж да аранага і хутка спадала, над рачнымі берагамі, у лозе з пачатку мая ў разнатраўі пышна пачынаў красаваць цветабой.

Паўночны бераг рэчкі ад поля быў месцамі дзе болей, дзе меней падвышаны, меў схіл да рачной плыні. Па краі яго, аддзяляючы аранае поле ад сенажаці, бегла часам зусім над рэчкаю сцяжына.

З яе аднае вясны і паказаў Іван Пільсуцкі маладой жонцы, прывезенай ім дзесь з-пад Беніцы, статнай лёгкай хадою, постаццю Вольцы свой лужок.

– Вось, маўляў, наша з табой сенажатка.

Жэст рукі, пэўна, быў досыць шырокі і гэта неўспадзеўкі падвяло нетутэйшую маладзіцу. З ёй неўзабаве здарыўся невялікі канфуз, было нялоўка перад суседкамі.

Выткаўшы першыя свае ў тутэйшай хаце кросны, Волька пасяшалася бяліць на майскім сонейку кужэльныя палатніны. Было зручна мачыць іх у рачной вадзе і тут жа вольна раскідаць сувой на кволай зеляніне і залацістым россыпе першых адуванчыкаў. Рабіла, як рабілі гэта ўсе. Аднак на другі ці трэці дзень зусім нечакана пачула ад суседкі, крыху старэйшай ад сябе жанчыны: «Ці табе, маладзічка, твой Іван не паказаў мяжы, дакуль яго сенажаць?..» І Волька з неякаватасцю даўмелася, што ў вётхавічан сціплыя надзелы зямлі, на сваіх загонах-шнурах людзі сядзяць цесна прыціснутыя адзін да другога.

У дзіцячыя ды падлеткавыя гады я часцяком наведваўся да Пільсуцкіх. У іх было двое дзяцей, старэйшая Вера і мой гадок Геня.

Сядзіба Пільсуцкіх знаходзілася недалёка ад нашай хаты, якраз пасярод Вётхава. З ладным гародчыкам перад вокнамі, светлая хата іх стаяла шчытом да вуліцы. За ёй у адзін сцяг размясціліся свіран, хлеў, падпаветка. Гумно, пастаўленае крыху воддаль ад астатняй будовы, перпендыкулярна да яе, замыкала агульны план сядзібы.

Падвор'е было нешырокае. Вёска вяла свой радавод ад парэформенных часоў. Надзел бацькоў Пільсуцкага быў невялікі. Да таго ж яго давялося спалавініць на дзве роўныя дзялкі. На другой палавіне бацькаўшчыны за Іванавай сялібай з часам, з'ездзіўшы на заработкі ў Латвію, пабудаваўся яго малодшы брат. Ён таксама быў высокі, ладны, але слава знакамітага маршалка няхай сабе з іранічным адценнем на яго не падала. Каб вылучыць сярод вяскоўцаў, звалі малодшага брата Івана проста паводле імя маці – Макрынін Віцька.

Нядзельнымі днямі ў Івана Пільсуцкага збіраліся. Запомнілася чысціня і ўтульнасць хаты і яшчэ тое, што асэнсавалася не адразу: у Пільсуцкіх не толькі гаварылі, дзяліліся навінамі, але і чыталі. Кніжка не была госцем у Пільсуцкіх. Праз гады, скончыўшы універсітэт, і збольшага азнаёміўшыся з таямніцамі грунтоўных бібліятэк, старых кнігасховішчаў, я ўразумеў, што вялікія кніжкі з уражлівымі чорна-белымі рысункамі, якія мы з Генем Пільсуцкім, яшчэ не ведаючы літар, гарталі ў іхняй хаце, былі падшыўкамі часопіса «Нива», выдаванага на пачатку стагоддзя ў Пецярбургу.

У Пільсуцкіх ужо школьнікам сустрэў я і першую, выдадзеную адразу па вайне беларускую кніжку. «У мяцеліцу» Івана Мележа ў мяккай вокладцы, з постаццю спешанага конніка, з канём на повадзе ў мяне дзіўна асацыіруецца і сягоння чамусь з брамкай пры старой ліпе, што пазначала сядзібу Пільсуцкіх. І кніжкі беларускіх літаратараў, і часопісы «Беларусь», «Вожык» дзядзька Іван, як я пазней даведаўся, прывозіў з Маладзечна, дзе ён у форме чыгуначніка аж да пенсіі паддзяжурваў пры станцыённай браме, што вяла з платформы ў горад.

Я сустракаў яго там, пры службовым абавязку не раз, едучы з Мінску да бацькоў або кіруючыся зноў назад у сталіцу. На мой «добры дзень» ён, няспешны ў рухах, падаваў руку і, як заўсёды, усміхаўся сваёй яснай, зычлівай усмешкай. Часам пытаўся, як ідзе вучоба, што чуваць у вялікім горадзе. Праз нейкі час бацькі мае з'ехалі з Вётхава на станцыю, каб на старасці гадоў быць бліжэй да дактароў, магазіна з хлебам, і я доўга не наведваўся ў Вётхава: з гадамі на сцежках маладосці надта элегічна адгукаецца сама яна ў душы.

Чуў, што Іван Пільсуцкі хварэе. Геня па просьбе бацькі выносіць яго, бязраднага, ужо без абедзвюх ног, у сад пасядзець пад старымі яблынамі, паглядзець, як дагарае на захадзе сонца, паслухаць надвячоркавы клёкат бацяноў на старой ліпе ў буслянцы, сапраўднай птушынай гасподзе, адзінай на ўсё Вётхава. Я каторы ўжо час збіраўся наведаць родныя пенаты, ды той ці іншы клопат, работа заміналі, не пускалі. Выбраўся пазней таго, як наважыў.

У першы дзень прыезду ў Залессе схадзіў да Старой царквы, дзе пад асло-най пракаветных сосен – месца вечнага спачыну маіх землякоў.

Яшчэ на пачатку 30-х, пытаючыся перад смерцю ў сыноў, ці хутка прыйдуць Саветы, перабраўся сюды мой дзед па бацьку Пётра. К канцу саракавых, ужо не чакаючы сыноў, якія ў 1917-ым падаліся ў Расею будаваць новы свет, там і прапалі, знайшоў тут вечны прыпын мамін бацька дзед Юстын.

Часцей наведвацца на стары магільнік стаў я пасля таго, як аднаго зімовага дня пасля традыцыйнага абраду адвезлі мы сюды, у вечны пошум векавечных сосен, тую, што дала жыццё.

Гады прытушылі боль страты, і на гэты раз я ішоў да родных магіл спакойна.

Позірк міжволі спынялі пурпур і золата старых кляноў на прысадах Агінскага, што ўсутык падходзілі да Старой царквы. Уласна самой будыніны храма ўжо даўно не было. На пачатку 60-х мясцовае начальства на загад «з гары» шукала людзей, што разабралі б старую царкву. Але нікога не знайшлося, хто ўзяўся б гэта зрабіць. Тады аднае ночы, якраз на Вялікдзень, казалі, яна ўспыхнула як свечка. Была на той час ужо нячынная. Маліліся ў суседняй, што ў Міхнічах, вымураванай сто гадоў таму, пасля задушэння паўстання, на распараджэнне генерал-губернатара Мураўёва, аднаго са стаўпоў прыйснапомнай Расійскай імперыі.

Пра тое, хто ўчыніў святатацтва, гаварылі рознае. З таго гаворанага мне ўдалося пачуць нешта самому, на падставе пачутага меркаваць.

Неяк ужо па часе таго здарэння ў Залессі, наведаўшыся да Старой царквы, пачуў ад жанчыны з бліжэйшай ад могілак хаты:

– Вы ж, пэўна, чулі, калі, як кажаце, родам адсюль, што начальству нашаму было загадана разабраць царкву. Але не знайшлося чалавека, хто б узяўся гэта зрабіць. Кінула позірк у бок царкавішча, дадала:

– Таго дня надвячоркам прыязджалі сюды нейкія людзі на легкавушцы. Як выглядалі, кажаце? Свецкія такія, у светлашэрых плашчах, капелюшах... Нечага хадзілі за агарожу пад царкву і скора ад'ехалі. А хто падпаліў, Бог яго ведае, чалавеча...

На той час якраз вялася кампанія барацьбы з рэлігіяй. Хрушчову, яго інтэлектуальнаму атачэнню царква, хоць і прыдушаная жалезнай стапой дзяржавы, унутры краіны здалася апошнім ідэалагічным канкурэнтам.

Сакратаром тутэйшага райкома на той час быў нехта таварыш Патапаў, туляк. Мяркуючы па фота ў раёнцы, чалавек грубаватых рыс твару, якому, аднак, не бракавала сілы волі, уладнасці.

Старая царква ў справаздачах «на верх» па выніках барацьбы райулады з рэлігійнымі перажыткамі магла нешта значыць.

Пазней я дачуўся канкрэтна, хто на загад начальства спаліў старую царкву. Ішла, аказваецца, у народзе пагудка пра гэта. Не забывалася.

Вельмі цяжка, ад жорсткай хваробы паміраў той чалавек. Быў сынам калісь добрага гаспадара, але за калгасным часам спіўся. Можа, была ўва ўсім тым і міжвольная віна яго бацькі. Стары адразу па выгнанні немцаў, яшчэ ў сорак пятым, загрымеў у лагер. Ні за што фактычна, за доўгі язык, казалі. А прыгода была такая.

Немцы на адыход расчышчалі сабе дарогу для ўцёкаў. У лясах за Вяллёй на пачатку лета 44-га лютавалі карнікі – палілі вёскі, і люд, ратуючыся ад смерці, кінуўся праз раку да нас. Негаваркі, не сказаць, каб колкі на язык, стары выказаў тады нешта крыўднае ў адрас партызан. Яго сусед, спяшаючыся ўбіцца новапрышлай уладзе ў ласку, данёс куды трэба. Прадставіў і сведку чутага. Органы, доўга не цырымонячыся, адправілі старога ці не на дзесяць год у Сібір. Вярнуўся толькі пасля смерці «бацькі народаў» і неўзабаве яго знайшлі пад стогам саломы на гумнішчы, – аддаў Богу душу. А сыну з-за сваёй цемнаты, недаўмельства пакінуў у спадчыну незнарок апрыкрую залежнасць ад нейкіх уладных чыннікаў, структур. Вось такая хада жыцця...

Негаваркі па натуры, той з цягам часу стаў зацята маўклівым. Маўкліва, зацята ішоў кожны дзень да рознай работы і думаў адно пра чарговыя сто грам. Астатняе яго не абходзіла. Гары яно гарам.

Старая ж, драўляная царква векавала тут больш за тры стагоддзі. Згодна звестак, знойдзеных у гісторыка-царкоўных аналах мастацтвазнаўцам Сендэрам Палесам, паўстала яна яшчэ ў часы апошніх гедзімінавічаў, вялікіх князёў літоўскіх. Шэры сілуэт царквы прывідна праглянуў мне цяпер з пары юнацтва.

У напрамку, дзе стаяла яна, а цяпер зіяла пусткай царкавішча, паболела крыжоў. Справа яны ўставалі асабліва густа. Сярод іх выразна вылучаўся новенькі помнік. Наблізіўся і першы момант быў збянтэжаны. З авала фотаздымка на помніку ўсміхаўся сваёй адкрытай, зычлівай усмешкай дзядзька Іван Пільсуцкі. І гэта добрая, светлая ўсмешка яго задамінавала для мяне над самотай крыжоў, зямной юдоллю, вечным пакоем.

У Вётхава я застаў Геню Пільсуцкага ў бацькавай хаце. Сябра дзяцінства нямала пераняў ад бацькі: высокі рост, мужчынскую паставу, рахманы характар. Нешта бацькава і ў усмешцы. Толькі яна ў яго больш стрыманая, з хітрынкай, без той іскрыстасці, што ідзе з самой глыбіні душы.

З Геневых слоў даведаўся пра гвалтоўны адыход дзядзькі Івана з жыцця.

Працяг на стар. 10



 

# Ліцэісты

## Беларускі Гальфстрым

Коласаўскі ліцэй даўно вядомы не толькі сваімі выбітнымі выкладчыкамі і лепшымі гуманітарнымі праграмамі ў Беларусі, але і паэтамі дый пісьменнікамі, якія былі выхаваныя ў ягоных сценах. Гэта такія знаныя маладыя творцы, як Сяргей Патаранскі, Ілля Сін, Міхась Баярын, Надзея Сінкевіч.

Сённяшнія ліцэісты таксама ў вус не дзьмуць і праяўляюць сябе не менш ярка, а часам, думаецца, што й больш ініцыятыўна за сваіх папярэднікаў. «Беларускі Гальфстрым» – літаратурная студыя, якая ўжо не адзін год працуе ў ліцэі і дае свой станоўчы плён, прапагандуючы творчасць юных пісьменнікаў на старонках як ліцэйскай газеты «Трыкутнік», так і ў шырокавядомым друку краіны.

Сёння мы знаёмім чытача «НЧ» з творчасцю цяперашніх сяброў нашай літаратурнай студыі.

**Ян БЕЛАКРЫЎСКІ**

## «Акцёр – гэта характар нацыі»

***Другі год у ліцэі дзейнічае тэатральная студыя. Кіруе студыяй выпускнік ліцэя, рэжысёр Сяргей Патаранскі.***

**– Спадар Сяргей, ацаніце ўласную кіраўнічую працу ў ліцэйскім тэатры.**

– Лічу, што вынік стопрацэнтны. Ёсць спектакль «Паўлінка», які адначасова і забаўляе, і дае глебу для роздуму. Думаю, ён цікавы ўсім – ад даяркі да навукоўца. Такім, у прынцыпе, павінен быць любы спектакль.

**– Акцёры-ліцэісты пацягаліся б з прафесійнымі?**

– А чаму б і не? З «Паўлінкай» купалаўцаў, якая ад першай пастаноўкі 1943 года кардынальна не змянялася – пацягацца маглі б лёгка, нават бы пераігралі купалаўцаў. Бо ў іхным, савецкім варыянце, многа скажоных месцаў, няясна можна ўбачыць трагедыю жанчыны – Паўлінкі, трагедыю жыцця беларусаў...



**– Як думаеце, што для ліцэйскага тэатра з'яўляецца парогам на сёння, за якую пастаноўку вы б не ўзяліся?**

– Лічу, што ліцэісты ставяцца да справы адказна і, не пабаюся гэтага слова, – прафесійна. Выхаванне студыйцаў адбываецца паводле новых тэхналогіяў і методык, якія дазваляюць даваць азы прафесіі з 15–16 гадоў. Вядома, ёсць рэчы, да якіх мы яшчэ не саспелі... Але, да прыкладу, «Рамэа і Джульета» – у нашых бліжэйшых планах.

**– Памятаю, ліцэісты ставілі нешта па-французску?..**

– Так – і нават занялі першае месца на Фестывалі франкафонных тэатраў. Гэта была дзея Жана Ануя «Баль злодзеяў». Дарэчы, па гэтым спектаклі таксама можна меркаваць пра ўзровень ліцэйскага тэатру – Ануя не назавеш «лёгкім» аўтарам.

**– Станіслаўскі казаў пра 99 адсоткаў працы і 1 – адоранасці...**

– Воля развівае адоранасць. Увогуле, у любым чалавеку жыве акцёр. Некаторыя проста пра гэта не думалі. Лічу, што з кожнага можна зрабіць акцёра.

**– Тэатр шкодзіць ці дапамагае вучыцца?**

– Дакладна не шкодзіць. Тэатр – гэта прышчапленне ўнутранага стрыжню – маральна-духоўнага ды інтэлектуальнага. Наша студыя – гэта база, прычым не горшая, чым у тэатральнай школе. Часу забірае шмат, але людзі таленавітыя паспяваюць многа...



**– Вы – Карабас-Барабас?**

– Акцёр не павінен быць марыянеткай. А рэжысёр – не абавязкова акцёрам. Акцёр павінен быць інтэлектуалам. Усё цікавае, што ёсць у нашых пастаноўках, нараджаецца ў абмеркаваннях. Хаця, ці Карабас-Барабас я – меркаваць не мне.

**– Чыя была ідэя – стварыць ліцэйскі тэатр?**

– Ініцыятыва сыходзіла ад саміх ліцэістаў. Была неяк вечарына, прысвечаная творчасці нашых песняроў, там былі інсцэнаваныя ўрыўкі з «Сымона-музыкі», «Паўлінкі». Самім спадабалася – надумаліся ставіць «Паўлінку» цалкам.

**– Каго адзначыце ў вашай групе-трупе?**

– Адзначу Таню Сяцко, Франака Вячорку, Любоў Аношку, Павала Супаненку... Гэта таленавітыя людзі.



**– А як жа Іна Каляда** (выканаўца ролі «Паўлінкі» - Г.Л.)

– Яна, на жаль, сышла з ліцэя...

**– Але ж яна сышла ў тэатральную школу. Можа вы сталіся для яе ўзлётнай паласой?**

– Няхай будзе гэтак. Іна – бясспрэчна таленавітая, здольная, адораная акцёрка. Праз гэта баюся, каб яна не заганарылася, не стала лічыць сябе «зоркай». Праблема залішніх амбіцый, увогуле, біч для многіх адораных людзей.

**– Што хочаце вы бачыць у тэатры – ліцэйскім у прыватнасці і беларускім увогуле?**

– За савецкім часам беларускі тэатр, як савецкі, арыентаваўся на Станіслаўскага, Брэхта. Я ж хачу, каб у нас выпрацаваўся нацыянальны кантэкст тэхналогіі тэатральнай адукацыі. Акцёр – гэта характар нацыі...

**– Хочаце сказаць, што ў персанажах Карла Гальдоні павінны праскокваць беларускія ноткі?**

– Абавязкова! Акцёр – асоба. І мне хочацца, каб у нас гэтая асоба была беларускай.

**– Якую перспектыву бачыце ў ліцэйскай тэатральнай студыі?**

– Мая мара – каб было створана тэатральнае аддзяленне ліцэя, як існуе ўжо лінгвістычнае, эканамічна-геаграфічнае, гістарычнае ды іншыя. На шчасце, усё для гэтага маем.

**Гутарыў Глеб ЛАБАДЗЕНКА**



## Ліцэйскі «Трыкутнік»

Гісторыя ліцэйскай прэсы бярэ пачатак у 93–94 гг. Менавіта тады ліцэй займеў свой будынак: перад святамі сцены ўпрыгожваліся гірляндамі стракатых колераў, разнастайнымі плакатамі і першымі віншавальнымі газеткамі. Святкавалі ўсё: Дзень ведаў, Дзень настаўніка, Дзень першакурсніка, пачатак зімы, Каляды, Новы год, Дзень святога Валянціна, Дзень волі, 1 красавіка, апошні званок і г. д. З віншавальных насценкавых паштовак утвараліся перыядычныя выданні, размаляваныя маркерамі, спісаныя тэкстам і заклееныя фотаздымкамі. Багаты запас чырвоных датаў паспрыяў стварэнню многіх газетак.

Газеты ў ліцэі можна падзяліць паводле паходжання на дзве катэгорыі: урочныя і пазакласныя. Першыя ствараліся навучэнцамі ў межах пэўнага занятку ці тэмы, зададзенай выкладчыкам. Другія ж –тыя, ініцыятыва і арганізацыя якіх належыць менавіта ліцэістам.

2001–2002 навучальны год у ліцэйскім асяродку атрымаў назву «Папяровага буму». На працягу года адначасова існавала 5 перыядычных выданняў, кожнае з якіх па-свойму цікавае: «Ліцэйка», «Валянцінка», «Грайчык», «Перапынак», «Трыкутнік» . У гэты год узнікла і самая працяглая (паводле існавання) газета «Трыкутнік».




### ТРЫКУТНІК

«Трыкутнік» прыйшоў у ліцэй 16 сакавіка 2001 г. Першы нумар выйшаў на 8 старонках накладам 200 асобнікаў.

«Трыкутнік» стаў адкрыццём для многіх ліцэістаў. Некаторым праз «Трыкутнік» удалося першы раз надрукавацца, а гэта значыць завалодаць публікацыяй пры паступленні ў ВНУ, напрыклад. Ніхто б, відаць, і не даведаўся пра незвычайны талент Івана Булвы пісаць паэмы і вершы, ніхто б не пагледзеў сур'ёзныя падзеі і рэчы праз прызму смешнага. А Каця Маркоўская, напрыклад, якая ўсё жыццё збіралася ісці вучыцца ў наргас, надрукаваўшыся ў «Трыкутніку», паступіла на журфак.

Сяржук Сокалаў-Воюш напісаў адмысловы верш, прысвечаны газеце, які так і называецца – «Трыкутнік». З яго пачынаўся першы нумар газеты, матэрыялы якой простыя: «Хамства Ды-джэяў», «Савецкасць святаў», «Хімія ў ліцэі», «Паходжанне назвы «Беларусь» – погляд ліцэіста». Сёння тэмы пераважна ліцэйскія: вечарыны, святы, выкладчыкі, пазакласнае жыццё і ліцэйскі тэатр, вучнёўскае самакіраванне.

«Трыкутнік» адразу быў заўважаны тэлевізіяй. Як «ідэал» школьнай газеты яго прадставіла маладзёвая перадача «5х5». Пра «Трыкутнік» і самакіраванне ўзгадвала ОНТ, а таксама шэраг газет і часопісаў. Такая ўвага дала імпэт працаваць. На Нацыянальнай канферэнцыі дзіцячых лідэраў, дзе прымала ўдзел дэлегацыя ліцэістаў, «Трыкутнік» выклікаў фурор як «прарыў у школьнай прэсе».

### Ідэя...

Што да стварэння – гэта нескладана. Няпроста ўтрымаць працу і захаваць узровень. Для гэтага трэба імпэт, зададзенасць мэтай, крышку амбіцыяў і каманда. У «Трыкутніку» поруч са мной сталі Іван Булва і Зміцер Кожух.

Пабачыўшы пераможцаў конкурсу маладзёвых газет, арганізаваным ТБШ, мы задаліся пытаннем: «Ці ж мы горш?» Таму, можна сцвярджаць, першай мэтай была падрыхтоўка такога выдання, якое б перамагло ў наступным конкурсе на лепшую газету. Спаборніцтва так і не адбылося, а газета існуе. «Трыкутнікам» цяпер цікавяцца не толькі ліцэісты ці выкладчыкі, але і проста людзі, што не маюць дачынення да ліцэя. Быў зроблены макет, напісаныя першыя матэрыялы, адшуканыя спонсары (іх лепш за ўсё шукаць праз грамадскія арганізацыі) на друк – «Трыкутнік» гатовы! На першым нумары ніхто ніколі не спыняецца, таму хутка з'яўляецца другі, а потым трэці. Выданне прымаецца і вітаецца грамадскасцю – з'яўляецца жаданне працягваць. Паступова газета шліфуецца і нарэшце атрымоўвае таварны выгляд.

Ліцэйскі «Трыкутнік» Ліцэйскі




### Патрабаванні

«Трыкутнік» іграе на арыгінальнасці. Была прыдуманая і адмысловая незвычайная назва, і распрацаваны асаблівы фармат. Калі хочаш быць першым – будзь непадобным. Рух развіццю надае і адсутнасць цэнзуры. Мы не былі абмежаваныя. Аднойчы быў надрукаваны артыкул пад назвай «Лайцеся па-беларуску», дзе Воля Гудкова разгледзела беларускія варыянты «кепскіх словаў», і ніхто нават не выказаў абурэння. Наша газета – прынцыповая. Вырашыўшы выдаваць «Трыкутнік» на беларускай мове класічнага правапісу, мы ніколі не адышлі ад гэтага правіла. Мы не шукалі цікавых падрабязнасцяў у жоўтых інтрыгах. І мы перамаглі.

«Трыкутнік» – частка ліцэя. Гадавіна выдання была адзначаны агульналіцэйскай вечарынай, святочнай праграмай ліцэйскага радыё.



«Трыкутнік» – гэта жывы падарунак ліцэю ад усіх навучэнцаў. 15 выпускаў газеты за паўтара года існавання сталі неад'емнай яго часткай. Веру, што калі-небудзь такіх «Трыкутнікаў», як і, наогул, нашых ліцэяў, будзе мора. Бо гэтая справа вартая працы. Не дарма ж кажуць, што прэса – рухавік прагрэсу.

**Франак ВЯЧОРКА,**
**рэдактар «Трыкутніка»**

# Ў вольны час

## Творчасць без межаў




Кружэлкі «Я люблю ліцэй» – не проста вынік працы ці плён творчасці. Гэта ліцэйская візітка для грамадскасці.

Праца над першым дыскам «Я люблю ліцэй» вялася на пачатку 2003 года. Запісваліся песні, шукаліся спонсары, рыхтаваліся тэксты, мультымедыйныя матэрыялы, распрацоўвалася канцэпцыя. Кажуць, што больш інфармацыі пра ліцэй у адным месцы, чым у гэтым дыску, нідзе не сабрана. Ды і ці магчыма куды-небудзь уціснуць інфармацыю і пра гісторыю ліцэя, і пра праграмы, і пра вучобу, і пра выкладчыкаў з навучэнцамі, і пра творчасць, і пра будынак, і сайт, і нават архівы друкаваных ліцэйскіх газет?! Ды і, акрамя гэтага, уразнастайніць матэрыял песнямі, музыкай, фотаздымкамі, відэа!

Якасць спеваў, безумоўна, нельга параўнаць з якасцю ў прафесійных музыкаў, але, калі ўлічыць адсутнасць сродкаў і ўзрост гэтых талентаў, то можна ўявіць сабе іх перспектывы. 8 спеваў, аб'яднаныя агульнай тэмай, адрозныя зместам і стылем, прадставілі навучэнцы. Адна песня мілей за іншую. Характар спеваў сумны, чульлівы, летуценны. Ёсць і песня пра каханьне, без якога вучыцца ў ліцэі немагчыма, – «Тваё каханне». Завяршае музычную частку дыска ліцэйскі гімн «Gaudeamus».

На адным дыску было вырашана не спыняцца. Праз месяц пасля прэзентацыі была распрацавана глабальная канцэпцыя другога, якасць якога было вырашана паднясць у шмат разоў. Ліцэісты набраліся досведу, загарэліся імпэтам, атрымалі ад прэзентацыі нават крышку грошай на пачатковы капітал – праца пайшла-паехала. З верасня пачаліся рэпетыцыі. Выходзіла наcтольki цудоўна і мілагучна, што ліцэісты здзіўляліся самі сабе. Песні самыя разнастайныя. Шмат тэмаў пра каханне, пра любоў, пра сяброўства, філасофскія роздумы, сум па ліцэі – усё набыло адлюстраванне ў песнях. У параўнанні з першым дыскам музыкі пераселі на электрычную апаратуру: на прафесійныя барабаны, клавішы, электрычныя і бас-гітары.

Ліцэісты звярталіся аб дапамозе да грамадскасці, і, як не дзіўна, многія людзі адгукнуліся! Адзін чалавек пажадаў ананімна сустрэцца і перадаў на рэпетыцыі 10 даляраў, гімназія-каледж пры Акадэміі музыкі прадастаўляе нам памяшканне для рэпетыцый, беларуская служба Польскага радыё ўзяліся бясплатна надрукаваць вокладкі для будучай кружэлкі. Не абышлі маладых талентаў і прафесіяналы. Так, некалькі тыдняў ліцэісты рэпетавалі на інструментах Лявона Вольскага і «Крамбамбулі». Такая ўвага ўражвае, падштурхоўвае на плённую працу.

Дыск, упэўнены, стане адкрыццём года. Музыка, папулярная сярод моладзі ва ўсім свеце, з'явіцца і па-беларуску! Захапленні маладых замежнай і беларускай музыкай набылі адлюстраванне і ў іх асабістых тэмах, мелодыях. Яны граюць маладзёвы рок, блюз, джаз, панк – здаецца, атрымоўваецца.

Хутчэй за ўсё, дыск будзе называцца «Я люблю ліцэй: Самы пачатак». Пачатак жыцця. Надышоў час, калі трэба нешта рабіць, калі ўсё залежыць ад цябе. Калі змагацца можна не толькі на вуліцы кулакамі, але і сваім талентам. Ліцэісты, якіх ўсё лета ганялі чыноўнікі, спрабуючы знішчыць, не разбегліся і не здаліся, а падрыхтавалі адказ – новы дыск. Хай людзі пабачаць, на чым баку праўда.

**Сяржук ДЗЯЦЕЛ,**
**ліцэйскі музычны крытык**

**Аксана БЯЗРУКАЯ**

**Дзяцінства**

Выдзьмуваючы бурбалкі
З цытрыновага Фэйры,
Мы глядзелі мульцікі
Пра Тома і Джэры.
Мы гуляліся ў гульні,
Мы любілі смяяцца,
Мы ўзімку любілі
З гары пакатацца.
Мы баяліся цемры,
Мы баяліся ценяў,
Мы баяліся скрыпу
Незачыненых дзвераў.
Мы губляліся ў свеце,
Ён пужаў нас дзівосамі,
Як шкада, што так хутка
Мы сталі дарослымі.

**Іван БУЛЗА**

**Беларусь**

На руінах весяў разбураных
і ў цяснотных мурах гарадскіх
ты шукаеш восенню хмурнаю
сваю славу – сыноў сваіх.
Ты паспела ўжо асмуродзіцца
у варожым дыме і вагні,
і гаручыя слёзы коцяцца
па шчаце, бы з чысцейшых крыніц.
Дзе твая маладосць і сіла,
мужнасць, – спадчына нашых дзядоў?
Што калісьці сваім лічыла
загібела ў багне гадоў.
Дзе твае найлепшыя дзеці:
патрыёты – Радзімы сыны?..
у Курапатах, Сібіры, па свеце
параскіданы яны...
Дождж імжыць, неба хмурыцца
шэранню,
стаў цямнейшым ягоны абрус.
Ты, зтаптаная рознаю шэрасцю,
пасівела, мая Беларусь.
Ты маўчыш, ты замерла ў здзіўленні,
што адбылася ў Бога журбе.
Крыўдна мне – маё пакаленне
бессэнсоўна зраклося цябе...

**Воля КРЫЖАНОЎСКАЯ**

**Мая Беларусь**

Ёсць краіна адна,
якой я ганарусь.
Край блакітных азёр,
гэта ты, Беларусь!

Ты пакутвала шмат,
горкі лёс у цябе.
Грукат коней, гармат
несла ты на сабе.

На руках мазалі
цяжкай працы людзкой.
Не забыў твой народ
крыўднай долі сваёй.

Праз пагарду й кроў
ты жыла, Беларусь.
Край зубчастых бароў,
я табой ганарусь.



**Глеб ЛАБАДЗЕНКА**

*

З дню ў дзень цябе
шукаюць вочы,
І ў сне, нягледзячы на час,
Я забываюся аднойчы,
І зноўку ўспамінаю нас.

Хаваецца ў кішэню поўня,
Злучае хаты з небам дым,
Я маю з сонейкам сумоўе –
Такім знаёмым і малым.

Хмялею я не ад напою –
Ад думкі, што настане час,
Мы зноў пабачымся з табою,
І месяц зноўку злучыць нас.

*

Няхай належаць вышыні
Твае апошнія імгненні;
Мае спрадвечныя вагні
Няхай належаць вышыні.

Няхай не знаюць мітусні
Твае начныя летуценні,
І неразборлівыя дні
Няхай не знаюць мітусні.

Цябе я гэтым разам сніў,
Паабяцала ты вярнуцца
І загадала мне прачнуцца.
Цябе я гэтым разам сніў.

Няхай належаць цішыні
Мае апошнія імгненні;
Твае спрадвечныя вагні
Больш не баяцца вышыні.

*

Ноччу я
Лічыў зоры.
Іх ужо больш,
Чым было ўчора,
Калі пад небам я спаў.
Але яшчэ пакуль мала,
Каб падлічыць словы,
Што я табе не сказаў,
І што ты мне
Не сказала.
Я гатовы.

*

Кручу свой прыёмнік – лаўлю цябе.
Паслухаю музыку, спорт і навіны.
Паскочыў настрой і далей пабег
Па срэбных кружэлках старой
павуціны.

І цягнуцца сцежкі па нашай зямлі,
Але ж не бывае двух паралельных.
Мы дачакаемся часу, калі
Зямных будзе болей за беззямельных.

А ты незямная – такіх тут няма
Ні восеньскай ноччу, ні летнім ранкам.
Як не хацеў, але толькі дарма
Бабуля казала: «Знойдзеш каханку!»

## Праспявайма разам

**Ніякіх умоваў...**
*(сл. Аліса / муз. Dispel)*

1. Жоўтыя паўднёвыя фрукты
Раствораны ў кубках з гарачай
гарбатай
Зачынены вокны. Ад ветру хаваю
Рукі ў цёплых шэрых пальчатках

R: Ніякіх умоваў,
Ні мне, ні табе
Без гукаў, без словаў
Мой свет у табе....

2. Попелам мяне накрые дзень
Ноч зменіць абыякавасць на хібнасць
А людзі з-за каляровых вітрын
Глядзяць на нас з табой, як цудоўныя
рыбы

3. Падобны да чалавека з мора: такі
прыгожы
Я не ведала, што так бывае
Вось толькі ніколі-ніколі
Не прыйдзецца мне атрымаць у жыцці
тваёй ролі

**Ніткі**
*(сл. Аліса, Hyla / муз. Hyla )*

1. Ніткі, праз гарады,
па брукаваных вуліцах
Думкі, і цягнікі,
ніхто і не хвалюецца
Кава, ноччу, так шчыра, у далонях неба
Завісаем у паветры, ніхто і нікому
не патрэбны

R: Ты мяне не разумееш,
Я цябе не разумею
Я не ведаю, як трэба. Я кахаю, як умею
Вось і ўсё... Апошні раз.

Проста я хачу з табой застацца...
Але:
Ты мяне не разумееш, я цябе
не разумею
Ты мяне не разумееш, лепей нам
Не сустракацца. Ніколі...

2. Крыўды без прычын,
Пяшчотныя сны згублены
Добрымі, светлымі мы былі,
Мы калісьці былі...
З цёплым ветрам адпускаю
хачу і не трымаю

## Прысяга на вернасць Ліцэю



**Сёньня, 1 верасьня 2003 г., мы, навучэнцы, бацькі, выкладчыкі й сябры ліцэю, у гэты складаны для ўсіх нас час, прысягаем быць вернымі і адданымі нашаму Ліцэю. Мы прысягаем змагацца за свае правы, за свой гонар і за наш ліцэй.**

**Мы прысягаем аддана служыць і працаваць дзеля ліцэю, Беларусі і беларускай мовы.**

**Мы верым, што ліцэй – бясцэнны агмень беларушчыны, які мы прысягаем берагчы і захаваць для нашых дзяцей і ўнукаў!**

**Прысягаем клапаціцца, каб на нашай Бацькаўшчыне большала такіх установаў, як Ліцэй, каб ён заняў пачэснае месца ў адукацыі Беларусі й сьвету.**

Працяг. Пачатак на стар. 7

– Не даглядзеў у садзе, як ён дацягнуўся да тоўстага яблынавага сука і засіліўся на папрузе, – сказаў Геня і адвярнуўся, каб не ўзнак змахнуць скупую мужчынскую слязу. – Відаць, не было змогі больш цярпець, пакутваць.

Мы пагаварылі пра жыццё. Геня Пільсуцкі цяпер жыў у Маладзечне. Маці перабралася ў Міхнічы да Веркі. Бацькаўшчыну, хату і ўсю будыніну, Геня планаваў пакінуць як лецішча. Уласна ён і прыехаў палетаваць тут, даглядзець сад.

Я напомніў яму пра кнігі і часопісы, што былі ў іхняй хаце, бацькаў кнігазбор. Ён неяк адразу, рухава азваўся на мой напамін:

– Хочаш? Пойдзім паглядзім? – і стаў кіравацца да выхаду з хаты. Я спачатку не зарыентаваўся, чаму для прагляду бібліятэкі нам трэба пайсці на двор.

Геня павёў мяне ў свіран. Там асобна, пры левай сцяне на падсціле з дошак я ўбачыў перш-наперш ладную груду часопісаў. З першага позірку на іх было відаць, што сярод тых даўніх чытанняў у хаце Пільсуцкіх яны ніколі мне не трапляліся на вочы. Былі гэта выданні даваенных і ваенных часоў. Сярод іх нечаканарадасна ўбачыўся віленскі літаратурна-навуковы квартальнік «Калоссе». Ён адразу кідаўся ў вочы, пазнаваўся па выяве пастаці жняі з малымі дзецьмі на яго вокладцы. Далей быў вытрыманы ў цёмна-зялёнай гаме, з фотаздымкамі ў «суровым стылі» акупацыйнага часу часопіс «Новы шлях» і першых паваенных гадоў «Беларусь»...

– Што выдадзена пры паляках, што пры немцах, што пры саветах. Бацька неяк таіўся з гэтай літаратурай і я не рашыўся браць яе з сабой у горад, – прызнаўся Геня заадно як бы пытаючыся рады, што з гэтым рабіць. Быў пачатак 80-х, і я параіў даўняму сябру здаць гэты рознаржымны бацькаў набытак у бібліятэку ў Мінск. Успомніліся словы дзядзькі Івана, што за яго жыццё «ўлась» мянялася сама меней дзесяць разоў. Напачатку была царская, потым саветы, потым немцы кайзераўскія, потым зноў саветы, затым палякі, палякаў прагналі бальшавікі, затым ізноў прыйшлі палякі, ужо на нейкіх аж 20 гадоў, тады саветы, тады немцы гітлераўскія, затым ізноў саветы. Вось і лічы.

Мінулі гады. Жыццё міжволі, нязмушана вяртае да пражытага. Блукаючы ў думках па зямлі бацькоў, успамінаючы родных і землякоў не раз згадваю і дзядзьку Івана Пільсуцкага.

Думаецца пра тое, як ён з сваёго сціплага сялянскага бюджэту яшчэ з даваеннай пары патрапляў выкрайваць залатоўку на «Калоссе», пазней маркі, рублі на тыя рознаржымныя перыёдыкі. З выгляду ж быў простым беларускім рабачаем. Дарма, што Пільсуцкім звалі.

# Калі адцвітаюць вішні

*Ах, як вішні цвілі!*
*Як здрадлівая,*
*Белая мара!*
*Уладзімір Караткевіч*

Некалі, як бацька перасяляўся з вёскі на станцыю з думкаю на старасці быць бліжэй да хлебнага магазіна, бальніцы, пры новай сядзібе мы пасадзілі рад нізкаросых вішняў. Прынёс маладыя дрэўцы дзядзька Захарка з Сівіцы, у якога быў калісь добры садок. Непрыкаянна дажываў свой век дзядзька Захарка. Кідаўся паміж вёскай і горадам, дзе жыў яго вучоны сын. Ніяк не мог даўмецца старэча, чаму ўлада, на якую спадзяваўся, адабрала ад селяніна зямлю...

Каторы год няма на зямлі дзядзькі Захаркі, заўсёды спакойнага, разважлівага гаспадара, а яго вішні цвітуць тут ужо нейкую дваццаць восьмую вясну. Гудуць пчолы ў густых галінках, бязважка, мякка ападаюць пялёсткі на старую драўляную канапу.

Рэчы гэтай недзе гадоў з семдзесят. Яна добра паслужыла ў сям`і, з функцыі ў інтэр`еры перайшла ў экстэр`ер: дажывае свой век пад аслонай вішняку. Канапа не фабрычнай, а хатняй работы, прасторная, з замыславата закручанымі наваротцах канцамі падлакотнікаў. Змайстраваў яе старэйшы бацькаў брат дзядзя Жэня перад тым, як сысці ў Расею. Адслужыў быў чынную службу ў Польскім войску, трохі рабіў на чыгунцы, але сталай работы не давалі: быў на падазрэнні ў дэфензівы, можа, з-за старэйшага брата Івана, які сядзеў у Лукішскай турме, як тады казалі, «за палітыку».

Аднаго дня са стрыечным братам ВаладземТурскім яны падаліся праз «зялёную граніцу» на Усход – уцяклі ў Саветы.

Гадоў дваццаць ніхто з радні fд іх не меў ніякай весткі. Не дачакаліся сваіх і ў верасні 1939 г., хоць мелі на гэта надзею.

Дзядзя Жэня не аказаўся адразу і па вайне. Толькі недзе ў 1950 г. азваўся спачатку пісьмом, а потым і сам прыехаў. Не адзін, з жонкаю.

Прыезд той помніцца мне збольшага. Быў яшчэ падлеткам, вучыўся ў Смургонях. Помню госця, жвавага, сярэдняга росту чалавека ў светла-шэрым, адзетым крыху з форсам капелюшы. Болей запомнілася дзядзева жонка-ўкраінка. Не з аблічча, а сваімі выказваннямі, што гучалі як аксіёмы. Дзядзька Жэня прыстаў да яе на ўпрамы пасля вызваленя з турмы, ужо па вайне, і жылі яны пры самым Азоўскім моры ў горадзе Асіпенка.

Незнаёмая цётка маябыла настаўніцай, можа, ад таго ў яе часам чуўся ментарскі, імператыўны тон. Аднойчы яна мяне зусім збянтэжыла атэгарычным адкрыццём. Не памятаю ўсяго, што яна той раз казала, але адно запомнілася моцна.

– ...Тады на ўсім свеце будзе адзін вялікі рускі народ.

–Як гэта на ўсім свеце адзін народ? - міжволі зычна вырвалася ў мяне. Тады я яшчэ не ведаў заявы Напалеона: « З усіх народаў я зраблю адзін народ», але стыхійна, цяпер сказалі б на ўзроўні падсвядомасці, не прымаў такога.

– А так, – сказала цётка настаўніца. – Сальюцца ў адно...

На маё запальчывае пярэчанне дзядзя Жэня нічога не сказаў. Толькі паглядзеў смяшлівымі прыжмуранымі вачыма, крутнуўся і пайшоў з хаты.

Болей падросшы, сустрэцца з дзядзем Жэнем не давялося. Гады праз чатыры пасля таго побыту яго з жонкаю ў нас ён нечакана памёр. Бацька паехаў на пахавіны брата і па маёй просьбе купіў мне дарогаю «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі, на творчасць якога я тады «хварэў».

*Кругом неправда і неволя,*
*Народ замучений мовчить*
*І на апостольськім престолі*
*Чернець годований сидить.*
*Людською кровію шинкує*
*І рай у наймі оддае...*

Тыранаборчыя матывы вялікага Кабзара пранікнёна адклікаліся ў сэрцы цiхамірнага савецкага студэнта.

Скарала яснавіднасць паэта, яго горка-з`едлівая іронія на адрас дэспатычнага самаўладства дадавала відушчасці.

*... У нас же і світа як на тэ*
*Одна Сибір неісходима.*
*А тюрм! А люду! Що й лічить!*
*Од молдованина до фина*
*На всіх язиках все мовчить,*
*Бо благоденствуе!*

Праз нейкі час з Асіпенка прыслалі нейкі фотаздымак як памятку пра дзядзю Жэню. Ляжаў ён прыбраны ў апошнюю дарогу. Ля труны ў скрусе цесна згрудзілася невялічкая грамадка незнаёмых мне людзей. На першым плане, абапёршыся на кульбы, стаяла дзяўчынё гадоў пятнаццаці, горна ўглядаючыся ў памерлага. Была гэта падчарка дзядзі Жэні.

А ён, з чорнай клінам невялічкай бародкай, без адзінай срэбнай ніткі ў валасах, ляжаў нерасказаны, непазнаны бліжэй родзіч, чалавек нераскавага лёсу.

***

Збегла шмат часу, і мне нечакана ўдалося-такі прачытаць адну са старонак перажытага дзядзем Жэнем. Было гэта ў 1992 годзе. З рэжысёрам Юрам Лысятавым мы рабілі дакументальную кінастужку пра Аркадзя Смоліча, у свой час вядомага вучонага-географа, прафесара, а перад тым дзейснага палітыка. аднаго з дойлідаў беларускай дзяржаўнасці. Надышла, нарэшце, пара, калі можна было расказаць пра апосталаў 1920-х, герояў і пакутнікаў у аднаасці.

Каму што з падзеннем таталітарнай махіны і дэклараванем суверэнітэту, а навукоўцам-гуманітарыям адзін шанец – адкрыюцца зачыненыя архівы. Можна было даведацца праўду пра лёс тысяч рэпрэсаваных інтэлігентаў. Раней пісаць пра людзей 1920-х гадоў была адна пакута. Пра каго ні падумай, упрэшся пяром у забароненую прастору. Торшкі прыадкрываючы заслону эпохі, даводзілася прыбягаць да так званай фігуры ўмаўчання, хоць хрушчоўская «адліга» нібы і дазваляла краем вока зазірнуць у тую забароненую зону эпохі.

Цяпер жа быў іншы грамадскі гарызонт. Мы з Лысятавым накідалі заяўку на імя генерала, тагачаснага шэфа Камітэта КДБ, гэтай, што ні кажы, паважнай установы, і праз два тыдні званком атрымалі дазвол паглядзець асабістую судовую справу героя нашага будучага фільма. Проста прыняў нас загадчык адпаведнага аддзела маёр В., і мы адразу атрымалі загадзя падрыхтаваны цэлы фаліянт – ладную справу следчых матэрыялаў. Быў гэта адзін з тамоў справы так званага «Саюза вызвалення Беларусі»...

Падпалкоўнік, мажны вясёлы чалавек, даглядаў нейкія паперы, збіраючыся на абед, кінуў у наш з Лысятавым бок, на папкі ў нашых руках рытарычнае пытанне: "Верыць таму, што напісана? Што загадвала Масква, тое і рабілі..."

Што і казаць, фактаў для дакументальнага фільма ды і наогул для роздуму ў атрыманых намі фаліянтах было багата. Дай Бог асэнсаваць. Мы з Юрыем Васільевічам патанулі ў рукапісных, друкаваных старонках допытаў, паказанняў, з якіх праглядаў чалавек яркай асобы, дараваты, трагічнага лёсу.

Аднаго дня, калі мы збольшага спатолілі свае веды пра Смоліча на аснове аб'ектыўных і не вельмі звестак, фактаў, я набраўся нахабства і папрасіў у архівіста Камітэта, ці нельга мне, не турбуючы высокага начальства, яшчэ адной, спецыяльнай заяўкай, паглядзець справу Алеся Салагуба, былога заходнебеларускага камсамольца,паэта, родзіча па маме, і справы маіх дзядзькоў, старэйшых бацькавых братоў, палітэмігрантаў 1930-х гадоў.

«Прыйдзіце заўтра. Трэба знайсці...» – толькі і была адгаворка.

Назаўтра я ўбачыў у руках ужо знаёмага прыветнага капітана П. тоненькую папку. Але ўзнік клопат, дзе знайсці мне пасадачнае месца. Бібліятэчная зала Камітэта на той час густа абсаджвалася чытачамі, пераважна навукоўцамі, гісторыкамі ды літаратуразнаўцамі.Шэф Камітэта Шыркоўскі ў адным інтэрв`ю нават скардзіўся: маўляў, давялося КДБ ператварыць у бібліятэку-чытальню.Так што праблема з пасадкай, не ўрокам кажучы, не ліхадзейных 1930-я сталі на дварэ, была нявыдуманая. Капітану сапраўды быў клопат, куды яму дзецца з чарговым, нязвычным для ведамства наведвальнікам. Ён далікатна спытаўся, ці не магу я прыйсці заўтра. Мне ж днямі трэба было выехаць з кінагрупай у Кіеў, дзе жылі дочкі Смоліча.

Планавалася ўвесці іх у фільм – ажывіць відэарад голасам і самым выглядам непасрэдных сведак жыцця, аб якім нам трэба было расказаць. Ну і, вядома ж, мне карцела хутчэй зірнуць у тую папку з прозвішчамі Івана і Яўгена Лісаў. Пачціваму майму чычэроне хаця-нехаця давялося завесці мяне, як аказалася, у службовы кабінет. Па дарозе ніяўзнак я быў папярэджаны аб магчымай нязручнасці.

Сядзела ў тым кабінеце чалавек пяць-шэсць службоўцаў, і яны мяне як бы і не заўважылі. Толькі адзін, прынамсі мне так здалося, скасавурыўся ў мой бок. Твар яго здаўся мне знаёмы: падобнае аблічча даводзілася пару разоў бачыць у будынку Акадэміі навук. Мільгнула ў думках: нехта з кураратараў АН, наш бігграф.

Тым часам, як і ў кожнай цывільнай установе, у Камітэце пачыналася дзесяціхвілінутка чаяпіцця, і не паспеў я агледзіцца, як і перада мной духмяна паравала ўжо шклянка гарбаты. Я пакуль што да яе не дакранаўся, унурыўся ў чытанне чаканых дакументаў. Быў гэта пратакол допыту дзядзі Жэні, яго паказанні, запісаныя следчым ОГПУ. Уласна, у аснове тэксту ляжаў распавед Яўгена Пятровіча Ліса пра тое, хто і калі ў Заходняй Беларусі прыняў яго ў партыю. Падрабязна было расказана, калі і дзе, з кім, а менавіта з стрыечным братам Ул. Сарокам з вёскі Турэц, у раёне Ракава перайшоў ён польска-савецкую граніцу. Узгадваўся каранцін на савецкім баку для палітэмігрантаў, які і прайшоў дзядзя Жэня ў першыя месяцы ўцёкаў за мяжу.

На асобным лістку быў прысуд, у якім падсудны без матывіроўкі абвінавачваўся ў контррэвалюцыйнай дзейнасці і паводле арт. 58 і адпаведных яго пунктаў, асуджаўся на тры гады лагероў. Пры такім страшным абвінавачванні (контррэвалюцыйная дзейнасць) тры гады працоўна-выпраўленчых работ выглядалі як бы не вельмі страшна і не зусім лагічна. Відаць, людзі, якія выносілі вердыкт, ведалі сапраўдную цану «складу злачынства». Можа, проста стаміліся штампаваць свае смяротныя прысуды: быў канец 1938 года.

Бацька ніколі нічога не расказваў з таго, што пачуў ад брата пра яго гулагаўскія універсітэты. Быў на гэта строгі братаў запавет. Нагул камунікабельны і гаваркі, бацька мой рэдка дзяліўся весткамі, якія на той час маглі мець, мелі палітычны сэнс. Засцерагаўся. Мне, напрыклад, дзіўна было пачуць ад бацькі толькі на сходзе яго доўгага жыцця пра тое, як ён хадзіў кандыдатам партыі ў заходнебеларускім падполлі. Атрымаў быў два выпрабаванні. Адно – вывесіць чырвоны сцяг на зрубе Зіновічавай хаты: яна стаяла асабняком, навідавоку. Было гэта на першамайскае свята, і ён, гледзячы, як трапятаўся сцяг на самым вянцы хаты, цешыўся і збаяўся, калі на вуліцы паказаліся паліцыянты.

Пра другое сваё палітычнае выпрабаванне бацька і праз гады казаў з пачуццём ніякаватасці. На гэты раз ён мусіў быў пастаяць на варце, пакуль яго таварыш падпальваў стог жыта на полі ў памешчыка Шайкоўскага.

Была дадзена бацьку падпольная мянушка «Садоўскі», але стаць кампартыйцам яму не давялося: саму КПЗБ, як і кампартыю Польшчы, Камінтэрн распусціў у 1938 годзе. Так пажадаў Сталін, спачатку пераманіўшы ў Саюз, а затым расстраляўшы іх кіраўнікоў.

Недзе ўжо ў канцы 1980-х бацька прыгадаў эпізод з лагернага жыцця дзядзі Жэні. Той дзень. успамінаў бацька, брат на валасок быў ад смерці. Жвавы, масцеравіты, да канца не выпетраны яшчэ турмой, у лагеры ён выбіўся ў брыгадзіры. Той памятны дзень яго брыгада разам з другімі людзьмі з лагпункта тарыла дарогу. Зямля ўжо была вызвалілася ад снегу. Грунт пачаў падсыхаць. Кіркам ды лапатам зямля, аднак, паддавалася слаба, праца пасоўвалася марудна. Неяк раптам рабочы шоргат і грукат абарваўся, прыцiх: нягучна ўскрыкнуўшы, упаў чалавек і пачаў сутаргава глытаць паветра. Людзі абступілі бедака. Тым часам той ціха адходзіў у нябыт. Быў гэта сусед Жэні на нарах. І ведаў пра яго Жэня адно толькі, што ён родам з Украіны.

Уся брыгада кінула работу. Жэня, будучы пры сякеры, узяўся майстраваць насілкі. Ахоўнікі загойкалі, загадалі ўзнавіць работу. Людзі нібыта не чулі вокрыкаў. Нерухома стаялі вакол так раптоўна адышоўшага. З зацятай маўклівасці іх вывеў нечы злосны з лаянкай вокрык: «К чорту работу!.. Пойдзем у лагер, занясём памерлага таварышча...» Утрапенне прайшло, людзі заварушыліся. Як стаялі згрудженыя, памкнуліся ісці. Паспелі ступіць лічаныя крокі, як над галовамі засвісталі кулі. У Жэні, казаў бацька. было адчуванне, што віхор куль кранул валасоў. хоць галава была прыкрыта шапкай-аблавушкай. Мярцыма, згэтым адчуваннем вырваўся ў яго дзесь з глыбіні душы адчайны крык: «Стойце! Мы пад перакрыжаваным агнём. Пакладуць усіх...» Ды людзі, здаецца, ужо адышлі ад парыву і ўтрапення. Яны нехаця. сагнуліся зноў з кіркамі, лапатамі, ламамі. Нехта сказаў, што стралялі з двух бакоў, з бліжэйшых ад дарогі ўзлескаў. Назаўтра наглядчык спыніў Жэню словамі: «Твоё счастье: сориентировался. Тебя, сука, решили бы первым... Ты был у меня под прицелом».

Мне ж запомніўся дзядзя Жэня ўсмешлівым, у дымчатым сваім капелюшы, з запытальнай усмешкай, маладжавы, лёгкі ў хадзе. Праз гады, гледзячы на змайстраваную ім канапу, прытуленую пад вішнямі, адночы падумалася, ці верыў ён у тое, што для жонкі яго было аксіёмай. Пэўна ж, кідаў думкай у будучыню.



# Рэакцыя

*Насельніцтва чакае альманах «Лысагорскі плён»*

Прывітанне, літаратурны народзе!

Маючы на працягу дзесяцігоддзяў шчыльны кантакт (выключна духоўны) з насельнікамі Лысай гары пісьменніцкага звання, хачу выказаць некалькі думак адносна аднайменнай з гарой паэмы. У мяне выклікае сум тая далёкая ад літаратурнай узнёсласці, з пэўнай доля пакрыўджанасці рэакцыя грамадства і асабліва літаратурнай грамадскасці, якая адлюстравалася ў СМІ ў сувязі з абмеркаваннем аўтарства «Сказа аб Лысай гары». З болем у душы чытаю вядомых і невядомых адэптаў паэзіі і прозы, якія шкадуюць, што знікла цікавая загадка для будучых літаратуразнаўцаў, і спасылаюцца для прыкладу на старадаўняга «Тараса на Парнасе», аўтара якога грамадства даведалася дзякуючы намаганням гісторыка літаратуры Генадзя Кісялёва праз 130 год пасля нараджэння твору. На іхнюю думку было б лепш, калі б Ніл Гілевіч не паддаўся жаданню паставіць свой копірайт на паэму, а ўслед не заявіў і пра свой копірайт на той жа твор паэт Мікола Аўрамчык. Вось каб яны сядзелі ціпла па сваіх кутох, дык, мауляў, была б значная таямніца для Інстытута мовы і літаратуразнаўства НАН Беларусі ў 21-ым стагоддзі – колькі было б выказана глыбокадумных здагадак, вострай вучонай крытыкі, праведзена parayнальнага аналізу тэкстаў і расшыфроўкі асобных радкоў, і нарэшце недзе ў 2099 годзе нейкі новы Генадзь Кісялёў неабвержна давёў бы чытачам, калі тыя яшчэ захаваюцца, што «Лысую гару» стварылі вышэйзгаданыя паэты. А цяпер нашых праўнукаў пазбавілі гэтакай радасці. І вось мая першая думка: хіба прызнанне творцы ў аўтарстве малая падстава парадавацца сёння? Ніл Гілевіч паскорыў бег часу, і лічыце «сто год мінула» – дык чаму б пісьменніцкаму хаўрусу не наладзіць з гэтай прычыны святочную вечарыну, запрасіць жывых герояў твору (а гэта ўсё шаноўныя асобы), тэлевізію, радыё, павіншаваць стваральніка ці стваральнікаў? Не. Немата. Быццам нічога не адбылося.

Дзякуючы штодзённым кантактам з творчай інтэлігенцыяй я добра разумею, чаму тады, трыццаць гадоў назад, пад паэмай немагчыма было паставіць аўтарскае імя. Пісьменнікі і паэты – асобы надта тонкія, чуллівыя – ніколі б не даравалі, угледзеўшы ў радках хоць які недахоп павагі да канкрэтна сваёй творчай асобы. Творцы прыгожага пісьменства, як і творцы непрыгожага, называюць яскравым жыватворным гумарам тыя радкі, якія выстаўляюць на смех суседа, а гумарыстычныя стрэлы ў сваю шаноўную пастаць успрымаюць як агрэсію, абвяшчэнне халоднай вайны, і ператвараюцца ў помслівых сіцылійцаў. Гэта, дарэчы, адна з важкіх прычынаў, якая надта доўга перашкаджала публікацыі паэмы. У свой час яна выклікала фурор на тле нуднай савецкай літаратуры і вытанчанай сатыры на сантэхнікаў і жабаў у каляіне. У паэме ж падаваліся імёны вялікіх творцаў духоўных кашто ўнасцяў і іхні хутарскі клопат на лысагорскім Парнасе. Сённяшняе пакаленне чытачоў не можа ўспрымаць паэму з тымі ж пачуццямі. Няма большыні яе герояў. Пра некаторых ужо забыліся. Паэма патрабуе каментароў да кожнага чатырохрадкоўя. Сама дачная «Лысая гара» на фоне капіталістычнага будаўніцтва і новых катэджных пасёлкаў ператварылася ў нешта маргінальна-вясковае – накшталт забытага богам і ўладамі калгаса. Гэта ўжо сівая легенда. Не столькі літаратуры, колькі грамадскага клімату ў пралетарскія часы. У гэтых адносінах жарты паэмы сталі неацэнным дакументам эпохі. Сапраўды: «Нам не дано предугадать, как наше слово отзовется!» Пад такім дакументам варта распісацца ў сваім аўтарстве.

Адкрыю яшчэ адну сваю таямніцу. Як натхняльніца паэтаў і паэтак на розныя блазнярства, шматкроць раіла я адораным творцам апоўначы, калі яны насмерць біліся са словам, узяць і ананімна напісаць сатыру ці хоць гумарэску пра жыццё, пра высокую ўладу, пра разбіты дабрабыт, ці проста пра чалавечыя слабасці і дробныя грахі акадэмічных навукоўцаў ці адміністрацыйных функцыянераў. І вось толькі адзін аўтар (ці сааўтары) наважыўся запусціць у свет ананімны твор. Усе іншыя пад сваімі творамі рашуча падпісваліся, не забыўшыся дадаць пашпартныя дадзеныя для атрымання ганарару.

Таму мала дзіўлюся, што, маючы ў грамадскім спажытку тры дзесяцігоддзі папулярную ананімную паэму, нашыя лысагорскія насельнікі, ды і ўсе іншыя прафесіяналы гусінага пяра, так і не развілі традыцыі літаратурнай ананімшчыны. Хіба толькі іншай. Прыгадаю паэмы напрыканцы 1980 гадоў (калі засялялася другой пісьменніцкай хваляй «Лысая гара-2») і некалькі бяздарных пошлых падробак - вось усё, што стала літаратурным набыткам добра распачатага жанру. Чаму б нашым літаратуразнаўцам не разгадаць гэтую таямнічую абыякавасць да ананімнага выкладання сваіх пачуццяў і думак беларускімі майстрамі слова? Для тых аматараў ананімшчыны, якія не могуць знайсці дастойную іхнага таленту тэму, падказваю сюжэт, запазычаны з нашай класікі:

*Я грантаў у багатых прасіў і маліў,*
*Яны ж мне камені давалі...*

На мой густ, гэта выдатная сучасная тэма, якая дазваляе адлюстраваць характар сённяшніх узаемадачыненняў літаратуры, грамадства, творцаў і страчаных ілюзій.

З інфернальнай павагай

**Вядзьмарка ЛЫСАГОРСКАЯ**

# Sum – Сум

Зоркі зьнікалі ў сінечы Дняпра,
Я – у сінечы вачэй тваіх мілых...
Судакрананьне бязгучнае крылаў
Нам абвясціла пра знойдзены рай.

Сэрца да сэрца, цяпло да цяпла –
Мы падымаліся ў хвалі гармоній.
Божа, навошта бязглуздае «сёньня»?
Я ўсю сябе ўжо тады аджыла...

Рэшткі пачуцьцяў нябачным сьвятлом
Ледзьве гараць, ды ніяк не згараюць...
Памяць жывая аб згубленым раі
Б'ецца ў душу паламаным крылом.

* *

Мне хацелася скласьці верш –
пра цябе і для цябе –
такі мілагучны,
такі моцны,
якога
нікому
ніколі
дагэтуль
не прысьвячала.
Але ў горле – роспач.
І словы
падаюць
на аркуш
грубай
бяздарнай
прозай,
такой жа няскладнай
і бесперспектыўнай,
як нашае
нязьдзейсьненае каханьне...

* * *

Твае вочы, як неба, сінія –
На зямлі мой прытулак адзіны.
Твае вочы – і скон, і скінія –
І пагібель мая і сьвятыня.

Ты спынішся ў маёй бяссоньніцы
Скрыжаваньнем усіх вымярэньняў.
У жыцьця аднастайнай хроніцы
Ты падзея мая і падзеньне.

* * *

Партрэтаў рэбры
На сухой сьцяне.
Гісторыя.

* * *

Вясна.
Вуснам
Цесна.



**Наста КУДАСАВА**

* * *

Дзесьці ёсьць доўгачаканы вырай,
Дзе бязьмернасьць паглынае меры,
Дзе на ўсё адказ адзіны – «Веру!»,
Дзе жыцьцё праўве абдымкі сну.

Дзесьці ёсьць вышэйшая прыступка,
Дзе нарэшце скончыцца дарога
І душа, пачуўшы голас Бога,
Напаткае вечную вясну.

* * *

Крок за крокам
іду ў шматкроп'е...

* * *

Вечнасьць?
Спрэчна.
Хутчэй,
пустэча
для таго,
хто нічым
ці нечым
называе
Адзіны шлях.

* * *

Магутным духам захлынае дых.
Душа жывая шэпча: «Божа, дзякуй!»,
Напіўшыся гаючае вады
З чароўнай і сьвятой крыніцы Кракаў...

Здавалася ўвесь час, я толькі сьню,
Нібы ў жыцьцё ўвасобілася казка.
Але душа ўзьляцела да Агню,
Адказ пачуўшы зь неба: «Калі ласка!»

# Пад наглядам агентуры

Вясной 1851 года з канцылярыі мінскага генерал-губернатара паведамілі ў такую ж установу ў Вільні, што «помещик Минской губернии Станислав Манюшко, имеющий так же заработок косцельного музыканта», звярнуўся з просьбай дазволіць яму «для устройства личных дел» выехаць у Варшаву, і мінскі губернатар, «необнаружа в деле просителя формальных препятствий», такі дазвол памешчыку Манюшку даў – і таму губернатар паведамляў віленскаму калегу, што Манюшка паедзе праз Вільню, Гродна і модны ўжо тады курорт Друскенікі, і прасіў узяць Манюшку пад нагляд паліцыі, а вынікі нагляду паведаміць у Мінск.

У Расійскай імперыі часоў імператара Мікалая II існаваў складаны адміністрацыйны падзел і не менш складаныя правілы пераезду з аднае губерні ў другую. Тэрыторыя ўсяе імперыі падзялялася на губерні і тэрыторыі з асобным статусам, а губерні на «внутренние» і «внешние», пры гэтым некалькі губерняў, як правіла, злучаліся ў генерал-губернатарствы. З 1843 года «девять западных губерний» былі раздзелены на тры генерал-губернатарствы з цэнтрамі адпаведна ў Вільні (Ковенская, Гродзенская і Віленская губерні), Мінску (Віцебская, Мінская і Магілёўская) і Кіеве (Валынская, Падольская і Кіеўская). Захоўвала асобны статус, у адпаведнасці з актамі яшчэ Венскага Кангрэса 1815 года, Каралеўства Польскае (у рускай гістарыяграфіі «Царство Польское») – хоць і пазбаўленае Канстытуцыі і войска ў выніку Лістападаўскага паўстання і «Органического Статута 1832 года», але з уласнай валютай і мытнай мяжой, і стражай на ёй.

Такім чынам, памешчык Станіслаў Манюшка намерваўся пераехаць аж дзве мяжы – спачатку траціць з Мінскага генерал- губернатарства ў Віленскае, а потым у Каралеўства Польскае. Манюшка прыехаў згодна з выпраўленай «подорожной» з Мінска ў Вільню ў канцы мая 1851 года і прабыў там, як адзначана ў рапарце паліцыі, толькі адзін дзень, пры гэтым нідзе не быў і ні з кім не сустракаўся – наведаў толькі касцёл св. Станіслава, праслухаў тры імшы, потым па-польску доўга гаварыў з касцельным арганістам, а нават сам доўга граў на аргане.(Як бачым, расійская паліцыя мела агентуру кругом, у тых жа касцёлах. Да дзесяці працэнтаў кліру і абслугі мелі, як пісалі тагачасным канцылярытам, «особые отношения» з расійскімі спецслужбамі).

У Друскеніках Манюшка прыехаў паштовай карэтай, спыніўся ў мясцовага д-ра Рэніера, які меў у мястэчку ўласны дом і жыў з прыватнай практыкі, а для душы закладаў батанічны сад. Прабыў на курорце кампазітар чатыры дні, наведваў павільён з мінеральнай вадой, ні з кім прыватна не сустракаўся, хіба што з гасцямі таго ж Рэніера ў яго доме. Адно, што западозрыў мясцовы падафіцэр паліцыі, гэта штодзённыя прагулянкі «поднадзорного» у навакольлях мястэчка. А па чатырох днях пабыту выехаў у Варшаву; у Гродна нават не заязджаў.

Ну і дзеля чаго было гарод гарадзіць?! Бо не меў тады Манюшка ані сусветнай славы, ані «Галькі» са «Страшным дваром» і «Сялянкай», а мінская паліцыя не мела супраць арганіста нічога.

Проста працавала Інструкцыя, якой ніхто не адмяняў.

Справа ў тым, што ў 1837 годзе, – гэта значыць напрыканцы ваеннага становішча з прычыны Лістападаўскага паўстання, - нейкі Ю.Крашэўскі (?!), вайсковы губернатар у Мінску, распарадзіўся, каб пад «негласный надзор» паліцыя брала наступныя катэгорыі чалавечага гатунку:

– абсальвенты Віленскай Ваенна-Медычнай Акадэміі;

– абсальвенты і студэнты Кіеўскага ўніверсітэта;

– інжынеры-чыгуначнікі;

– усе «палякі», хто наведвае Друскенікі;

– усе падпісчыкі любых выданняў і пакупнікі кнігарняў.

Гэты загад фармальна ніхто не адмяняў ажно да 1887 года, калі з`явіўся капітальны «Свод Законов Российской Империи». А «нефармальна» дзейнічаў ён у «волостях» ажно да канца імперыі

Мінскі губернатар склаў такі рэестр вельмі проста. Па-першае, Медычная Акадэмія і Кіеўскі універсітэт – гэта ... Віленскі Універсітэт, зачынены і расфармаваны ў 1832 годзе, альбо «гнездо крамолы». Па-другое, інжынеры-чыгуначнікі... ехалі ў Расію з Еўропы – і палова тых «немцаў» і «французаў» аказваліся палякамі; напрыклад, у 1857 годзе не пусцілі ўвогуле Адама Лешчынскага з Эдынбурга, «англоподданного», і Тамаша Лешчынскага, «австроподданного». Але праехаў да працы ў Варшаве, Гродна і Беластоку нейкі «франкоподданный» Браніслаў Шварцэ – хто ў канспірацыі яшчэ да 1863 года перавёз сюды падпольную друкарню, распачаў у тым жа і беларускі друк; потым гэта перайшло да К.Каліноўскага і Muzyckaj Praudy...

Курорт Друскенікі, заснаваны ў 1818 годзе для ветэранаў напалеонаўскіх войнаў, трапіў у рэестр толькі таму, што стаяў на Нёмане – на мяжы з Каралеўствам Польскім. Вечна «мяцежным»...

Але цікава, што ў рапарце пра наведванне Друскенікаў Манюшкам тамтэйшы паліцэйскі піша, што «после кампании 1848 года оживился настолько приезд польских помещиков из Волынской, Киевской, Минской... губерний», што ён адзін і яго «нефармальная» агентура (напрыклад, кухарка Рэніера) ужо не даюць з усімі рады, а таму просяць яго ўзмацніць... І ўжо Гродзенскі губернатар паставіў у Друскеніках ажно жандарскі пастарунак з падафіцэра і чатырох жандараў. Бо – «дыма без огня не бывает». Цікавая тут і згадка з рапарта, што «поднадзорный» Манюшка чатыры дні прагульваўся «в окрестностях местечка», бо за бліжнім барам, у бок Гродна, да сёння захаваліся могілкі, дзе незадоўга да візіту Манюшкі быў пахаваны Ян Чачот, сябра і калега Міцкевіча. Альбо – ці не ездзіў тых «помещики» да «Святога месца», каб там сустрэць такіх самых, як яны?! Пра тое руская паліцыя ведаць не магла, але – як любая на свеце паліцыя - «нешта знюхала»...

Вось што прыходзіць да галавы ад таго «дела Манюшко».

**Алесь ЧОБАТ**

Вячаслаў ДУБІНКА

# Ой, белы конь бяжыць...

...Дабег да згібелага ад часу зчарнелага гумна і спыніўся як укапаны. Я дзіўлюся і не магу адарваць вачэй. Беларускія Левітаны і Саўрасавы, спяшайцеся да веёсачкі Вялец, сірацiну-мясціну на Глыбоччыне. Помнік умельству і рупнасці – унікальная драўляная цэркаўка канае ад часу, нядбайнасці, дый вятроў бязлітасна-халепных. А побач суседка, небарака-каплічка. Так і стаяць панурыя ў голым полі. Тут ранняй вясной рупяцца сейбіты мясцовае калгас-гуртавое арцелі, за хлебец небагаты б'юцца. І настаў месяц жнівень, пара каласок жалезнымі жменямі секчы - камячыць, каб камбайнавыя трыбухі-бункеры напаўняць, – табе, радзіма хлебец наш..

Ад Вяльца па гравейцы шыбуючы, не абмінеш вёску Трэйпшы. Бухматыя воблакі, паказвае на дождж і на посцілцы свінцовага неба махі млынка незвычайна глядзяцца. На свойскім агародзе, якраз на ўзгорку, сваю драўляную лабаціну ветрачок – махі-крылы да ветру падстаўляе, хутчэй, гаспадар, давай збожжа, пахваліся багаццем,– будзе без стомы працаваць млын самаробны, дабро людзям робячы. А вось і сам умельца – Амброжа Сабулянец, хутарскі, майстровы, адмысловы вясковы майстар, адметны руплiўца. Прывячае гасцей і цешыцца, задаволены, – рады свежаму падарожніку. А побач з хатай ладная прыбудоўка. А там майстровы рыштунак, варштат, дый і дробязяў тысяча і адна. Хораша ў радок, кожны памочнік на цвічку красуе: сякеркі, малаты, далаты, стамескі, фуганы ды рашпілі.

– Некалі тут побач стаяў арыгінальны ветрачок, у суседніх Білюнішках. Такое вынаходніцтва, дый запатэнтаваць, а пасля паўсюль на Беларусі запаланіць наваколле ветраковым дзівам, – колькі б дармавое энергіі было б. Не выкарыстоўваюць, адно апошнія жылы з Лукомльскай цеплавое станцыі цягнучы, – жаліцца каржакаваты мужык у вайсковым бушлаце. Ён з Полацака, на пару дзён да маткі на адведкі. А каб дарогу акупіць, мяшкоў колькі бульбы награбе, – у зімы рот вялікі, усё зжарэ... А да бульбы цыбуля не сірата, дый яблычак пераспелы.

На непрыкметным гасцінцу, што лучыць Глыбокае з іншым светам крочыць з кіёчкам бабуля ў белай хустцы, цёмнай спадніцы. Вось фартух забылася ў хаце пакінуць, так і выбегла, каб на свежых людзей падзівіцца. Спынілася, смяецца бяззубым ротам:

– Я дачку другі тыдзень тут чакаю. Вунь з тае гары і прыкоціць, – паказвае на ўзгорак, дзе хаваецца вёсачка. - Дачка за Маскву выйшла, мужык яе расеец, гультаяваты, чымер любіць, але такі добра жывуць. Увечары пасварацца, а ўранні спяваюць. Я ёй сала шлю, мяса на сонейку спечанае, а па бульбу самі прыязджаюць. На крытай машыне. Бяруць задзеёшава і Маскву накормяць, і напаўзімы сабе на спевы заробяць. Сын з рязвядзенкай звязаўся, але дружна жывуць. У Відзах. А завуць мяне Марыя, а бацьку – Кандратам. Во з вамі пагаварыла, паўдня ўспамінаў набяжыць.



Пайшла, як пабегла. А пасля спынілася, выцерла рукі аб фартух, засмяялася.

Доўга стаяла на дарозе, углядаючыся, ці не едзе дачка на крытай машыне. Але калі тое будзе, бульба яшчэ бокі крухмальныя не напоўніла...

Прыдарожны слуп, – як вясковы грамацей усім здарожаным падказвае, што да Каланеў -- 3 кэмэ, усяго нічога. Праедзеце лясок, абмінеце могільнік, заскочыце на ўзгорак і, калі ласка, відок шчымлівы, задуменна-спакойны масток праз рачулку, статак пярэстачак, мелкалессе, дамкі задуменныя, занядбаныя, недагледжаныя.

І прывячае нас добраахвотны тлумач, вясковы экскурсавод, калі хочаце. Цікаўныя вочы, насцярожанасць. Па якой патрэбе, хлопцы, скрозь маладыя, з фотапстрыкунамі на шыі, з нейкімі скрынямі (мастакоўскімі мальбертамі) мінскія мастакі ў этнаграфічна-пазнавальнай экспедыцыі. Якое трасцы тут шукаць, конь сонны, вароны не крычаць, салаўі не спяваюць, смецце не прыбрана, гавяда не дагледжана, хаты гнілыя.

– Мы жывем вунь у тым бялюткім доме, – яна паказала туды, дзе была мазанка, крытая саломай, нетыповае жытло для Беларусі. Я раблю здымак кабеты ў гадах і пытаюся, як ей жывецца, маецца ў глухой мясціне, але пры дарозе, такой гаманкай і вясеёлай:

- Марфа Андрэяўна я. Жывем удвох з сястрыцай. У 20 гадох мы пераехалі сюды з ечарназем'я. Паляк прыйшоў – лесу даў, пабудаваліся. Саветы прыйшлі – хату на дровы пабурылі, чырвоныя байцы ў катлах нашу бульбу парылі... Немец на матацыклах прыпер – загадаў будавацца. А пасля зноў саветы, калгас увесь прыехаў на падводах – мы бордзенька ў лес, праз пяць гадоў адбудаваліся, – смяецца, задаволеная, дзівіцца, як хлопцы на паперы лоўка малююць. І ўзгорак, і дрэўца, і хаціну...

– Я каб ведала, што вы прыскочыце, новую кухвайку надзела, боты з блішчастае гумы каторую пару свята чакаюць.

Прынесла жменю гарбузікаў, пачаставала нас, пахвалілася:

– Весела жыць пры дарозе. Машына прамчала, пылу падняла, а мне думак падкінула, уга і мне цікава, хутчэй жытка пабегла...

## Новы Пагост

У згодзе жыве вёсачка Мнюта, а вяскоўцы шторанак ходзяць на гасціны-адведкі да возера Мнюта. Што ні крок, то і здзіўленне. Шмат кавальскае аздобы. Як на могільніку, так і на агароджах, вабяць карунковыя мудрагеці на сцяне, на веснічках. Пэўна, каваль тутэйшы не гультаяваў, пра людзей рупіўся, памяць вунь якую пакінуў.

Вёсачка Галубіца. А крыху воддаль Гаманкі хутар, дзе гаспадараць працавітыя вяскоўцы няўтомныя. Сюды ад Докшыц мчаць мо якую гадзіну, добра машыну ўверадзіўшы. Бездараж, вузенькая гравейка. Аўто бяжыць, каня ў поле зганяе. Знаёмімся з гаспадыняй – Адамаўна па-бацьку, завуць Люба. А майго чалавека – Канстанцін Сяменавіч, – яна паказвае на сівога дзецюка, які дзіўна крочыць, пастукваючы лёгкім кіёчкам. Сляпы. І толькі цяпер заўважылі. Наўкола пачэплены ладныя шпакоўні. На вільчаку хаты прымацаваны прапелер. Лгкі ветрык – і ён малоціць крыльцамі-махамі.

– Унучак намайстраваў, каб дзед не згубіўся. У лес пойдзе, дый слухае, дзе вуркоча, – дахаты сам і вернецца. І птушкі спяваюць, дзеда шторанак канцэртамі цешаць.

Хутар Дзянісы. Спыняемся каля дзіўнай клуні, высокай, аграмаднай, але моцнай. Ёй, і праўда, даўно месца ў этнаграфічным музеі, вясковае культуры і побыту пад шчымлівым небам. Бабуля ў вайсковым фрэнчы вядзе за руку хлопчыка дзетсадаўскага ахопу і адмыслова падшыванца-непаслухменца жыццю вучыць.

– Там вуньдзека бусел шчыруе, птушка Богам злеплена... А вунь варона горла дзярэ, ей сонца патрэбна. А як сонца сядзе, месячык цешыць будзе. Кінула матка цябе на маю шыю, а сама чортведама куды намылілася, - бурчыць старая.

А мы ў накірунку вёскі Ваўкалаты, на мясцовы касцл падзівіцца, памаляваць, дый звыклую фотафікацыю здзейсніць, калі яшчэ сюды завітаем. Не паспелі хлопцы расставіць свае паходныя мальберты, як убачылі купку мужыкоў і кабет. Наперадзе ішоў, як высветлілася, касцельны староста, ашчаперыўшы тронак з блішчастай гострай касой. Каб прышлыя валацугі ўбачылі, – гострая, помслівая, калі вы на нядобрае дзела намыліліся.

– Нам то казалі, ездзяць пададзроныя, вывіжоўваюць пры святле, каб рабаваць ноччу, – растлумачыў дзяцюк, папярэдне вывучыўшы нашы дакументы.

А ў завяршэнне відок. кабеты абкружылі высокага, прыгожага мастака Алеся Марачкіна, ці жартам, ці сур'ёзна:

– Гэтага вусатага прыгажуна пакіньце нам, на ксяндза...

## Раба Божая Алеся

У вёсцы Юхноўка кіруем на вясковыя могілкі, дзе захаваліся унікальныя пяціметровыя драўляныя дубовыя крыжы. Магутныя, адметныя. Ёсць і з лістоўніцы, бярозы, вольхі. І на кожным высечаны далатом ці сякерай надпіс: «Раба Божая, Алеся Вычытараўна, памерла ў 1970 годзе». Глыбокія яміны, праваліліся шмат якія магілы, пахіліліся і крыжы. Пачарнелі, пакрыліся цвіллю, гніллю. І вышэй росту пякучка-крапіва, жаданая госцейка на запусцелых, занядбаных кладах. Буйна расце маліна. Смакуйце, частуйцеся...- Але цішыня, не чуваць і гармідару крумкачоў, для якіх могілкі – рай. Сярод драўляных сустракаюцца і язычкія, з камяня, буйныя, пачарнелыя ад часу. Правядзеш рукой па цвілі – рука абмацае высечкі, пэўна імёны, даты, – як даўно тое было, ой даўно. А крыху воддаль лета ўладарыць. Бацян плануе над полем. Нацярушанае сена на сцежцы, што гукае, запрашае ў поле. І косяць, і рупяцца, і спяшаюцца. Маладзенькія дзяўчаты вядуць па вуліцы гадавалага бычка. Упарціцца, тузае лейцы, палахліва кідаецца ад аўто. А дзяўчаты падганяюць мяцёлкай – і бычка падахвочваюць, і адганяюць дакучлівых аваднёў.

І, як працяг падарожжа ў Юхноўку дый Тумілаўку. Густы, магутны сасоннік, непраходны лес раскашуе, цешыца цішынёй, прахалодай. Згубіліся ў гушчыні магілы. Толькі паржавелыя крыжы нагадваюць... Плесень на валунах-помніках. Подпісы з дзіўнымі граматычнымі памылкамі, мешаніна па-польску, расейску і па-беларуску. Шмат адпіленых каваных крыжоў, – збіральнікі даўніны шастаюць тут штогод, не лянуюцца.

Мастак кавальскага ўмельства запрашае ў вёсачку Дзедзіна, ад Докшыцаў паўгадзіны на ровары. Зірні на адмысловую забудову - вясковая кузня. Пад саламяным дахам – улетку карак не запацее. Моцны, прыстойны зруб, не гультай увіхаўся. Праз атвор вузенькага акна сонейка шчодра рассылае промені – пэўна, каб падзівіліся, што на месцы кавальскі горн з шырокім пасакам і колам пад прымус. На дзвярах кузні ладны замок прычэплены, гаспадара чакае, бо столькі рэчаў для рамонту прывезена. І кавальскае начыненне, і рыштунак на месцы. На сцяне, па-гаспадарску – падкоўкі, скоблі, чапялы, сярпы. І дзівіліся, што не разцягнулі, зберaглі. І штодня пільнуюць, каб злыдзень замок не сарваў.

– Харошы чалавек тут увіхаўся, працаваў ад цямна да цямна. А ўвішнага пашукаць - паўсвету аббегаць. Гультаёў і п'янтосаў распладзілася, як чарвякоў пасля дажджу.

– Паехаў у горад Докшыцы, дый не вярнуўся, растлумачылі ў Дзедзіна, – а раптам вернецца – даўно чакаем.

Наўкола мы бачылі нямала ўзораў, зробленых рукамі ўмелага каваля з Дзедзіна, – і праўда, для музея збіраць трэба.

А ў паўсотні метраў адсюль п'яны дзедзінец-руплівец новага гарту чыніць стогакід калгасны. І наўкруг насмецціў, панакідаў і жалеза, і балтоў, і дроту. Парамантаваў, цярнуў замурзаным рукавом кроплі поту і паджыгітаваў на ўдарную вахту. А смецце няхай вецер цалуе.

# Небяспечны «корань жыцця»

Цяжарным жанчынам не варта прымаць жэньшэнь у пачатку цяжарнасці. Гэтую забойчую навіну пра «корань жыцця» (так называюць жэньшэнь на Усходзе) паведамілі кітайскія вучоныя. Аднак ці варта ставіць крыж на гэтай папулярнай лекавай расліне?

Жэньшэнь, які з'яўляецца адным з галоўных сродкаў усходняй медыцыны, вельмі ўдала ўпісаўся і ў канцэпцыю медыцыны заходняй. Ён добра падыйшоў на ролю тэрмаджэтыка. За гэтым загадкавым тэрмінам хаваюцца рэчывы, якія робяць нас больш энергічнымі і працаздольнымі. Менавіта гэтыя якасці неабходны менеджэру – ключавой асобе, вакол якой цяпер будуецца ўся заходняя цывілізацыя. Сучасны менеджэр, на якога прыпадаюць вялізныя нагрузкі на працы, ужо даўно не мысліць жыцця без флакона з полівітамінамі. Бо рэклама яму дастаткова патлумачыла, што толькі так можна змагацца са стрэсам, папраўляць страчанае на працы здароўе і быць у тонусе. А ў апошнія гады суперпапулярнымі зрабіліся полівітаміны з дабаўкамі жэньшэню.

І вось у свежым нумары ўплывовага медыцынскага часопіса Human Reproduction вучоныя з універсітэта ў Ганконгу апублікавалі вынікі даследавання пацукоў, якія атрымлівалі экстракт жэньшэню ў пачатку цяжарнасці. Аказалася, што прыём гэтай «траўкі» можа выклікаць цяжкія парокі развіцця эмбрыёна. Як пасля гэтага трэба весці сябе маладым «ударніцам капіталістычнай працы», якія мараць зрабіць кар'еру і адначасна абзавесціся дзецьмі? Прымаць жэньшэнь ці не?



Для такіх сітуацый у медыкаў ёсць дыпламатычная формула, якую агучыў доктар Луі Чан, які праводзіў даследаванне. Першая частка яе носіць супакойлівы характар і гучыць гэтак: «Пераносіць цалкам вынікі даследаванняў, атрыманыя на жывёлах, на чалавека нельга». Другая частка папярэджальная: «Жанчынам варта ўстрымацца ад прыёму прэпаратаў з жэньшэнем у першыя тры месяцы цяжарнасці, пакуль не атрыманы дадатковыя дадзеныя, якія паставяць кропку ў гэтым пытанні».

Дык вось: атрымаць гэтыя дадзеныя практычна нерэальна. Самыя дакладныя і адназначныя вынікі могуць быць пры даследаванні жанчын-добраахвотніц, якія пагадзіліся прымаць жэньшэнь у часе цяжарнасці. Але правесці такое даследаванне нельга – ніводная этычная камісія не дасць на гэта згоду, бо надта ўжо вялікая рызыка нараджэння дзіцяці з парокамі. А дактары, якія пагодзяцца правесці такую працу, абмінаючы закон, рызыкуюць атрымаць тытул лекараў-забойцаў.

Магчыма яшчэ паназіраць за дзецьмі, маці якіх не пазбягалі жэньшэню, выношваючы іх пад сэрцам. І будзьце ўпэўненыя, такія «валанцёркі» з'явяцца. Нехта з іх паддасца на ўгаворы распаўсюднікаў біядабавак, у якіх жэньшэнь утрымоўваецца вельмі часта. Нехта не будзе ведаць пра гэта папярэджанне – у афіцыйныя інструкцыі яно патрапіць не адразу і не абавязкова. А нехта будзе верыць у чароўную сілу «чалавека-кораня» (так даслоўна перакладаецца жэньшэнь) насуперак усім разумным довадам.

Галоўнае падазрэнне медыкаў лягло на гінсеназід пад кодавым нумарам Rb1. Гінсеназідамі называюць групу блізкіх па складу хімічных рэчываў, якія маюць фармацэўтычную актыўнасць. У жэньшэні іх утрымліваецца шмат, а выдзелены і крыху вывучаны пакуль толькі паўтара дзесятка Rb1 – з ліку самых галоўных.

У эмбрыёнаў пацукоў, якія атрымлівалі 30 мікраграмаў гэтага рэчыва, узнікалі парокі развіцця сэрца, вачэй і канечнасцяў. Пры дозе ў 50 мікраграм заганы былі больш яўныя, эмбрыёны мелі значна меншы рост і ў іх узнікалі парокі развіцця мускулатуры. На думку вучоных, малыя дозы жэньшэню вялі да дробных парокаў. Магчыма, гэтым тлумачыцца той факт, што сродак, які прымалі на працягу стагоддзяў, не падазравалі ў тэратагенным эфекце: шкода эмбрыёну не была відочная.

Наогул, уся гэтая гісторыя паказальная для так папулярнай сёння фітатэрапіі – прэпараты з лекавых траваў сталі вялікім бізнесам задоўга да таго, як вывучылі іх небяспечнасць. Мы ўсе – спажыўцы, медыкі і чыноўнікі неяк адразу паверылі формуле «натуральнае – значыць бяспечнае», забыўшыся, што расліны ўтрымліваюць мноства ядаў. І як вынік мы пастаянна атрымоўваем масу паведамленняў аб незвычайных пабочных эфектах фітапрэпаратаў, а ўслед – масу абвяржэнняў і закідаў ад іх вытворцаў. Верыць ім могуць толькі самыя недасведчаныя. Любому вучонаму зразумела, што праверыць бяспечнасць «травак» нашмат больш складана, чым «хіміі». Нашмат прасцей гандляваць «траўкамі» і легендамі пра іх.

**Аляксандр МЕЛЬНІКАЎ, кандыдат медыцыны**

## Навіны

### Дыплом Рады Еўропы

Матсалускаму запаведніку Эстоніі ўручаны дыплом Рады Еўропы за поспехі супрацоўнікаў у справе захавання відовай разнастайнасці жывёл на тэрыторыі запаведніка. Рашэнне аб узнагароджанні дыпломам было прынята на падставе аналіза рэальнай сітуацыі экспертамі. Яго ўручэнне злучана з умовай, што зямельная рэформа, якая праводзіцца ў Эстоніі, не нашкодзіць сённяшняму добраму стану запаведніка, і што прыватныя фірмы не стануць праводзіць на яго тэрыторыі дзейнасць, несумяшчальную з ахowай прыроды. Адначасна быў урачыста адкрыты Матсалускі міжнародны фестываль кінастужак аб прыродзе.

### Камп'ютэр і чалавечы мозг

Інжынеры, якія прарочылі хуткае стварэнне камп'ютэраў, больш ёмістых, чым чалавечы мозг, на шчасце, кардынальна памыляліся. Даследчыкам удалося вылічыць інфармацыйную ёмістасць асобна ўзятага чалавечага мозга, і яна аказалася непараўнальна большая, чым у любым створаным на сённяшні дзень камп'ютэры. Найбольшы аб'ём памяці ў найлепшых камп'ютэраў складае 10 трыльёнаў байт (лічба з 13-ю нулямі). А чалавечы мозг можа ўтрымліваць столькі байт, што запісаць іх можна лічбай з 8.432-мя нулямі. Гэтыя вынікі даследавання вучоных змясціў навуковы часопіс Brain and Mind

Колькасць нейронаў, якія ўтрымлівае мозг, вядомая – каля 100 мільярдаў, і ранейшыя аналітыкі абапіраліся на гэтую лічбу ў сваіх заявах адносна хуткай перамогі камп'ютэраў над чалавекам. Аднак даследчыкі скарысталі болей складаныя алгарытмы падліку для стварэння адэкватнай матэматычнай мадэлі, якая ўлічвае вялізную колькасць розных нервовых злучэнняў.

Цяпер вынікі даследавання могуць быць скарыстаныя пры праектаванні камп'ютэраў.

### Іспанскія будаўнікі паскараюць тэмпы

У 1882 годзе славуты іспанскі архітэктар Антоніо Гаўдзі заклаў першы камень у падмурак барселонскага сабора Святой Сям'і (La Sagrada Familia). Творца працаваў над саборам 40 гадоў, але паспеў пабудаваць толькі Усходні фасад. З таго часу будаўніцтва пасоўвалася марудна. Планавалася, што сабор будзе цалкам пабудаваны да 2040 года. На мінулым тыдні кіраўнік праекта Хуан-Хордзі Бергас заявіў, што абставіны дазваляюць закончыць будаўніцтва значна раней. Шчодрыя ахвяраванні і новыя тэхналогіі дазваляюць закончыць будоўлю да 2023 года. 95% неабходных сродкаў будаўнікі сабора атрымліваюць ад ахвярадаўцаў.

На сённяшні дзень пабудавана крыху болей паловы сабора.

# Гома сапіенс правёў «зачыстку»

***30 тысяч гадоў таму на Зямлі знікла першае чалавецтва – інстынкт агрэсіі і ёсць наш «першародны» грэх***

Палеанталогія, навука аб старажытных істотах, якія насялялі калісьці Зямлю, заўжды была заняткам акадэмічным, мірным. Але сёння ў ёй палаюць сапраўдны шэкспіраўскія пачуцці. Б'юцца дзве групы даследчыкаў. Яны ніяк не могуць увесці ў нашае мінулае загадкавых істот, якія насялялі Зямлю на працягу паўмільёна гадоў і якія зніклі, практычна не пакінуўшы следу.

Гэтых людзей прынята называць неандэртальцамі. На працягу сотняў тысяч гадоў яны займалі Еўропу, тут яны сфарміраваліся, тут была іх радзіма. У іх абліччы меліся рысы, якія мы і сёння па звычцы адносім да прымітыўных: ускінуты назад падбародак і вялікія надброўныя дугі, масіўныя сківіцы. Але галава ў іх была большая за нашу, бо там утрымліваўся значна буйнейшы мозг. Нашто ён быў ім патрэбны, ніхто не ведае і да сёння.

Сярэдні рост мужчын складаў 1,65 метра, жанчыны былі на 10 сантыметраў ніжэй. Але пры гэтым неандэртальцы былі сапраўдныя мацакі. Мужчыны важылі каля 90 кг, гэта быў сапраўдны згустак мышцаў. Рукі і ногі іх мелі крыху іншую будову: больш кароткімі былі ў іх перадплеччы галёнкі. Самай незвычайнай прыкметай іх знешнасці быў нос: шырокі і адначасна з гарбінкай, удзёрнуты ўверх. З такім носам неандэрталец мог смела дыхаць самым халодным паветрам, не баючыся прастуды.

Усё, што мы ведаем, сведчыць аб тым, што неандэртальцы былі людзьмі, чалавецтвам у поўным сэнсе гэтага слова, якое стварыла ўласную культуру. Гэтая культура радыкальна адрознівала іх ад свету іншых гамінід і ад свету жывёлаў. Яны ведалі агонь, выраблялі каменныя прылады. Прычым іхная тэхніка апрацоўкі каменю была непадобная на тую, якой карысталіся нашыя продкі, прадстаўнікі роду гома сапіенс. Гэта значыць, яны і мы набывалі свае навыкі і веды з розных крыніцаў.

40 тысяч гадоў таму неандэртальцы пачалі хаваць сваіх нябожчыкаў. Ніякія папярэднікі ці родзічы не рабілі гэтага – толькі мы і неандэртальцы. У гэты ж час у іх з'явіліся прымітыўныя аздабленні: падвескі з зубоў жывёлаў. У гісторыя Зямлі толькі людзі і неандэртальцы ведалі, што такое ўпрыгожанні. Невядома, ці ўмелі яны размаўляць. Будова іх нёба такая, што цалкам дазваляла неандэртальцам валодаць мовай.

Яны былі прыроджанымі паляўнічымі і палявалі групамі, сумесна. Дыета іх была дастаткова аднастайная. Відаць, яны збіралі карэнні і плады. Але ў асноўным харчаваліся мясам. На стаянках неандэртальцаў знаходзяць галоўным чынам старанна раздробленыя і абгладаныя косці рознай дзічыны. А яшчэ - гэтак жа «апрацаваныя» косці краманьёнцаў, гэта значыць продкаў сучасных людзей. А на стаянках краманьёнцаў знаходзілі дакладна гэтак жа абгладаныя косці неандэртальцаў.

Неандэртальцы і людзі пачалі паляваць адзін на аднаго і паядаць целы пераможаных ворагаў прыкладна 40 тысяч гадоў назад. Тады першыя прадстаўнікі нашай расы з'явіліся ў Еўропе, удзеле неандэртальцаў. Яшчэ 10 тысяч гадоў цягнулася суіснаванне на адной тэрыторыі двух відаў людзей. Прыкладна 30 тысяч гадоў таму апошнія прадстаўнікі гэтага племя туліліся на самым поўдні Іспаніі, у раёне Гібралтара, у Пірэнеях і гарах Далмацыі. Потым неандэртальцы зніклі без следу. А мы засталіся.

На працягу многіх дзесяцігоддзяў з 1856 года, калі ў даліне Неандэрталь у Германіі былі ўпершыню знойдзены астанкі гэтых істот, вучоныя даволі спакойна тлумачылі факт іхняга знікнення. Згодна з догмамі дарвінізму, неандэртальцы былі абвешчаны бліжэйшымі родзічамі і папярэднікамі чалавека. У школьных дапаможніках і ў музейных экспазіцыях, у чарадзе гамінідаў, якія пераможна крочылі ад малпы да чалавека, валасатага масіўнага неандэртальца з яго ўціснутай сківіцай і з цяжкім кап'ём на плячы паказвалі адразу за намі, сучаснымі людзьмі. Лічылася, што неандэртальцы на нейкім этапе плаўна ператварыліся ў сучасных людзей.

Бомба выбухнула пасля таго, яу у 1997 годзе даследчыкі з Мюнхенскага універсітэта прааналізавалі ДНК астанкаў самага першага неандэртальца, знойдзеных яшчэ ў 1856 годзе. Узрост знаходкі складае 50 тысяч гадоў. Вывучэнне 328 выяўленых нуклеітыдных ланцужкоў прывялі палеантолага Сванта Пааба да сенсацыйнай высновы: розніца ў генах паміж неандэртальцамі і сучасным чалавекам надта вялікая, каб лічыць іх сваякамі. Гэтыя дадзеныя былі ў 1999 годзе падмацаваны аналагічнымі даследаваннямі астанкаў, якія знайшлі на Каўказе. Новая сенсацыя прыйшла з універсітэта ў Цюрыху. Там іспанка Марысія Пансе дэ Ляон і швейцарац Крыстаф Цолікафер параўналі чарапы двухгадовага неандэртальца і адпаведнага па ўзросту маленькага краманьёнца, гэта значыць сучаснага чалавека. Выснова была адназначная: чарапныя косці дзяцей фарміраваліся зусім па-рознаму, што сведчыць аб прынцыповай розніцы ў генафондзе абедзвюх рас. На падставе гэтых лдадзеных шэраг даследчыкаў у ЗША і Еўропе прыйшлі да высновы аб тым, што неандэртальцы не былі ні продкамі, ні сваякамі сучаснага чалавека. Гэта былі два розныя біялагічныя віды, якія паходзілі ад розных галінаў старажытных гамінід. Згодна з відавымі законамі, яны не маглі змешвацца і даваць агульных нашчадкаў. Неандэртальцы, выходзіць, уяўлялі сабой асобны від разумных істотаў, спароджаны ходам эвалюцыі жыцця на Зямлі. Яны былі асобным чалавецтвам, якое самастойна выбудавала сваю культуру і якое было вынішчана нашымі продкамі ў барацьбе за месца пад сонцам.

Эвалюцыя аказалася здольная парадзіць некалькі розных чалавецтваў. Гома сапіенс авалодаў планетай не ў выніку мірнага паглынання менш развітых меншых братоў, а толькі шляхам агрэсіі і вайны, праз знішчэнне іншага, таксама культурнага народа.

**Эльмар ГУСЕЙНОЎ**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Дашчынскі Уладзіслаў | 15.8.1908 Груздава (Паставы) | Стралец | 24.10.1944 Балонія |
| Дзяменчук Васіль | 12.4.1905 Лунінец | Капрал | 31.1.1944 Касамасіма |
| Дземідовіч Арсен | ? 1913 Баяры (Дзісна) | Ст.стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Дземідовіч Сцяпан | 18.3.1904 Малаеды (Нясвіж) | Стралец | 27.6.1942 Рамлех |
| Дзяргач Іосіф | 31.1.1902 Глыбокі Ручай (Паставы) | Звязовы | 6.4.1945 Касамасіма |
| Долмат Вацлаў | 1.6.1921 Клецк | Танкіст | 9.5.1945 Касамасіма |
| Доўгаполь Станіслаў | 4.1.1906 Дзервено (Стаўпцы) | Стралец | 24.2.1946 Балонія |
| Драчынскі Ігнацы | 1.2.1908 Сельшчы (Валожын) | Ст.стралец | 20.5.1944 Монтэ Касіна |
| Дробняк | 16.8.1906 Кірэлі (Шчучын) | | 5.1.1945 Касамасіма |
| Дрозд Васіль | 23.8.1917 Вял.Лукі (Баранавічы) | Сапёр | 24.6.1944 Лярэта |
| Дрозд Сігізмунт | 25.6.1919 Бобінск (Валожын) | Стралец | 3.7.1944 Лярэта |
| Дубовік Аляксандр | 07.1917 Навасёлкі (Паставы) | Ст.стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Дуда Яўген | 12.11.1924 Міжрэчча (Ваўкавыск) | Стралец | 8.11.1944 Балонія |
| Дудзевіч Станіслаў | ? 1913 Гіркі (Ліда) | Стралец | 3.7.1944 Лярэта |
| Дудзінскі Іван | 19.2(11)1906 Буцілы (Ліда) | Кананер | 18.11.1944 Балонія |
| Дуніч Міхаіл | 15.5.1909 Дунічы (Валожын) | Стралец | 26.9.1944 Перч (Вялікабрытанія) |
| Жак Анатоль | 25 2.1923 Ложы (Баранавічы) | Стралец | 25.4.1944 Монтэ Касіна |
| Жаўнеровіч Аляксандр | 17.5.1916 Бервікі (Дзісна) | Стралец | 15.12.1944 Балонія |
| Жвірка Вацлаў | 23.7.1914 Лубянка (Валожын) | Капрал | 6.7.1944 Лярэта |
| Ждановіч Іван | 15.7.1922 Узнога (Нясвіж) | Улан | 18.7.1943 Khanaqin |
| Жмайлік Міхаіл | 24.7.1923 Тулава (Ваўкавыск) | Стралец | 14.11.1943 Хайфа |
| Жук Рыгор | 16.12.1919 Лань (Нясвіж) | Ст.стралец | 29.4.1944 Монтэ Касіна |
| Жук Уладзімір | ? 1907 Масевічы (Ваўкавыск) | Стралец | 12.5.1944 Khanaqin |
| Жукоўскі Антон | 26.11.1900(1919) Турна (Брэст) | Капрал | 12.11.1942 Khanaqin |
| Жукоўскі Пётр | 10.6.1914 Вінцукі (Ліда) | Ст.стралец | 8.9.1945 Касамасіма |
| Жывалеўскі Барыс | 10.10.1910 Жандова-Жарноўка | Ст.стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Жыжа Іван | 1.1.1912 Куршынавічы (Баранавічы) | Улан | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Жыжнеўскі Іван | 28.1.1900 Гальшаны | Падхаружы | 6.7.1944 Лярэта |
| Жылінскі | 1.2.1923 Гута (Баранавічы) | Стралец | 9.4.1945 Балонія |
| Жэбрунь Іван | 12.4.1913 Грабава (Слонім) | Сапёр | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Забароўскі Аляксандр | 18.1.1918 Ракаў (Валожын) | Стралец | 30.11.1942 Khanaqin |
| Забаўскі Іван | 6.6.1910 Турэц (Стаўпцы) | Стралец | 11.4.1945 Балонія |
| Завадскі Уладзіслаў | 8.3.1905 Ашмяны | Ст.сяржант | 18.5. 1944 Монтэ Касіна |
| Завадскі Юльян | 25.11.1911 Марціненка (Ашмяны) | Кананер | 3.11.1944 Балонія |
| Замара Аляксандр | 15.3.1908 Слабодка (Ашмяны) | Капрал | 22.5.1944 Касамасіма |
| Замара Фелікс | 15.11.1920 Пушчова (Ашмяны) | Стралец | 18.7.1944 Лярэта |
| Замосцік Пётр | 8.11.1919 Лунец (Браслаў) | Сапёр | 10.7.1944 Лярэта |
| Занжаеўскі Аляксандр | 29.5.1914 Ганна-Спаскі (Брэст) | Капрал | 14.5.1946 Касамасіма |
| Запольскі-Доўнар Іван | 22(24)2.1914 Брынечава | Падхаружы | 30.7.1944 Лярэта |
| Запольскі Канстанцін | 10.10(1) 1911 Пасымкі (Ваўкавыск) | Стралец | 2.7.1944 Лярэта |
| Зарэцкі Юстын | 1.3.1911 Чараўкі (Паставы) | Кананер | 22.5.1944 Монтэ Касіна |
| Заянчкоўскі Віктар | 30.5.1925 Падбяла-Парэчча (Гродна) | Ст.стралец | 9.6.1946 Балонія |
| Зверка Сцяпан | 26.12.1924 Германішкі (Ліда) | Шэраговец | 22.12.1944 Балонія |
| Звярхоўскі Казімір | 13.1.1922 Брэст | Кананер | ?.8.6.1945 Балонія |
| Здановіч Віталь | 14.6.1908 Кірэлі (Шчучын) | Капрал | 19.7.1944 Лярэта |
| Зялінскі Вацлаў | 6.4.1918 | Стралец | 9.8.1944 Лярэта |
| Зяневіч Баляслаў | ? 1909 Вікіняны (Валожын) | Сапёр | 29.10.1944 Балонія |
| Емільяновіч Віктар | 15.5.1914 Ніўна (Стаўпцы) | Капрал | 4.2.1946 Балонія |
| Ігнатовіч Антон | 10.6.1902 Гінюшы (Гродна) | Сяржант | 23.6.1945 Касамасіма |
| Іван Антон | 3.7.1924 Хіморды (Стаўпцы) | Ст.стралец | 25.10.1944 Балонія |
| Івашкевіч Іван | 5.11.1914 Вараноўшчына (Паставы) | Стралец | 10.4.1945 Балонія |
| Івашка Браніслаў | 11.11.1921 Васевічы (Навагрудак) | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Івуць Віктар | 5.4.1912 Некташы (Ліда) | Кананер | 2.8.1944 Лярэта |
| Кавалеўскі Іосіф | 12.7.1922 Рудня (Стаўпцы) | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Кавалеўскі Казімір | 20.10.1912 Зверблі (Браслаў) | Звязовы | 17. 5.1944 Монтэ Касіна |
| Кавальчук Іосіф | 3.3.1914 Студзенікі (Ваўкавыск) | Капрал | 2.1.1945 Балонія |
| Кажан Ігнацы | 4.6.1911 Мурашкі (Браслаў) | Стралец | 3.7.1944 Лярэта |
| Кажухоўскі Баляслаў | 6.8.1924 Узла (Паставы) | Ст.стралец | 3.5. 1944 Монтэ Касіна |
| Казадой Вінцэнт | 1.8.1910 Ляхавічы (Шчучын) | Ст.стралец | 19.8.1944 Лярэта |
| Казак Вінцэнт | 21.1.1902 Дулевічы (Валожын) | Капрал | 3.7. 1944 Монтэ Касіна |
| Казакевіч Казімір | 4.2.1908 Ворсы (Паставы) | Ст.стралец | 9.5. 1944 Монтэ Касіна |
| Казачонак Мікалай | 10.5.1911 Брэчыны (Дзісна) | Стралец | 26.7.1944 Лярэта |
| Казімірчык Вінцэнт | 29.7.1898 Лотвічы (Баранавічы) | Сяржант | 24.12.1943 Тэль-аль-Кебір |
| Казімірчык Фелікс | 3.5.1901 Тэрэспаль (Ваўкавыск) | Капрал | 16.10.1942 Khanaqin |
| Казлоўскі Іосіф | 5.11.1918 Мачулішка (Ваўкавыск) | Стралец | 22.7.1944 Лярэта |
| Казьлякоўскі Генрык | 18.1.1925 Пінск | Ст.улан | 4.7.1944 Лярэта |
| Казьмерчык-Белькоўскі Андрэй | 15.11.1905 Ганчары | Капрал | 18.10.1944 Балонія |
| Кажаневіч Аркадзь | 11.2.1916 Аляксандраўка (Пінск) | Звязовы | 22.11.1944 Балонія |
| Калюта Сяргей | 6.1.1923 Малая Валохва | Стралец | 1.7.1946 Балонія |
| Каляга Міфодзій | 27.5.1909 Мясата (Маладзечна) | Капрал | 20.1.1943 Khanaqin |
| Каменскі Сігізмунт | 27.1.1908 Ляхавічы (Паставы) | Капрал | 19.8.1944 Лярэта |
| Камінскі Вінцэнт | ? 1911 Касічы(Вілейка) | Кананер | 24.8.1945 Балонія |
| Камінскі Рычард | 4.2.1924 Кураполь (Паставы) | Стралец | 18.5.1944 Монтэ Касіна |
| Камінскі Тадэвуш | 2.4.1923 Карлавічы (Драгічын) | Ст.стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Канапацкі Мікалай | 6.4.1924 Мелесніца (Лунінец) | Стралец | 21.11.1944 Балонія |
| Канарскі Баляслаў | 29.8.1918 Васілевічы (Ліда) | Стралец | 16.8.1942 Рамлех |
| Канаховіч Баляслаў | 12.1914 Мёры | Капрал | 23.8.1942 Рамлех |
| Кандрацкі Хведар | 9.7.1922 Граева (Шчучын) | Стралец | 24.10.1944 Балонія |
| Канечны Васіль | 15.10.1905 Тумень (Столін) | Шэраговец | 5.8.1946 Балонія |
| Капачэль Канстанцін | 14.9.1914 Дамброўка (Ліда) | Бамбардзір | 21.11.1945 Балонія |
| Капец Юльян | 15.5.1898 Капцы (Слонім) | Капрал | 9.12.1942 Khanaqin |
| Кароль Эдуард | 23.10.1907 Ліпнішкі (Ліда) | Стралец | 24.12.1944 Балонія |
| Карман Сяргей | 12.9.1916 Крупава (Слонім) | Кананер | 5.7.1944 Балонія |
| Карнатоўскі Мікалай | 4.1.1911 Зухавічы (Кобрын) | Стралец | 7.5.1944 Монтэ Касіна |
| Карнач Антон | 30.12.1914 Ялуцэвічы (Ваўкавыск) | Кананер | 12.10.1942 Khanaqin |
| Карніцкі Хведар | 26.4.1911 Казорчы (Валожын) | Ст.стралец | 6.7.1944 Лярэта |
| Каросцік Станіслаў | 10.1.1913 Несцяроўшчына (Дзісна) | Звязовы | 3.9.1946 Балонія |
| Карпінчук Васіль | 13.3.1914 Серычы (Пружаны) | Кананер | 22.7.1946 Whitchurch (Вялікабрытанія) |
| Карповіч Іван | 23.8.1918 Ганікавічы (Валожын) | Стралец | 30.1.1944 Касамасіма |
| Касінскі Станіслаў | 20.12.1910 Вілейшы (Ваўкавыск) | Ст.стралец | 16.5.1944 Касамасіма |
| Касцюк Іван | 3.1.1921 Слонім | Стралец | 6.2.1946 Chieti-Pascara |
| Каўзан Пётр | 15.5.1917 Асінаўка (Ашмяны) | Артылерыст | 18.10.1944 Балонія |
| Кашкевіч Міхаіл | 25.12.1907 Сцерберакі (Вілейка) | Ст.стралец | 24.10.1944 Балонія |

На гэтых гарах каля Монтэ Касіна палеглі нашыя землякі, пайменаваныя ў спісе

| | | | |
|---|---|---|---|
| Кашталян Сава | 20.6.1909 Крапіўнікі (Браслаў) | Стралец | 11.7.1944 Балонія |
| Каханоўскі Антон | 11.11.1911 Гейштуны (Ашмяны) | Капрал | 26.12.1942 Khanaqin |
| Квяткевіч Сяргей | 15.8.1921 Журычы (Вілейка) | Стралец | 21.6.1944 Лярэта |
| Квяткоўскі Іван | 15.2.1912 Ліда | Капрал | 25.11.1944 Касамасіма |
| Келмуць Фелікс | 4.9.1905 Неман (Ліда) | Ст.стралец | 20.8.1944 Лярэта |
| Кельчэўскі Сігізмунт | 2.5.1924 Волька Каркоўская | Улан | 12.9.1943 Khanaqin |
| Керэня Тадэвуш | 4.1.1923 Закрэўшчына (Гродна) | Бамбардзір | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Кеўка Уладзіслаў | 16.10.1917 Бачашнікі (Валожын) | Стралец | 28.7.1944 Лярэта |
| Кібалка Уладзімір | 14.3.1911 Стайкі (Вілейка) | Бамбардзір | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Кірыла Іосіф | 14.5.1916 Ваўкавыск | Стралец | 12.5.1944 Монтэ Касіна |
| Клімко Канстанцін | 08.1902 Заполле (Навагрудак) | Стралец | 13.5.1944 Монтэ Касіна |
| Клімовіч Нікадзім | 8.2.1914 Ніўкі (Вілейка) | Капрал | 18.3.1945 Балонія |
| Клуйша Станіслаў | 12.5.1902 Ашмяны | Стралец | 7.5.1943 Khanaqin |
| Клюкевіч Іван | 3.11.1906 Вайнілавічы (Ліда) | Стралец | 15.1.1945 Балонія |
| Коміч Канстанцін | 15.5.1922 Ліпканцы (Ліда) | Стралец | 29.10.1944 Балонія |
| Кохан Рыгор | 2.4.1914 Мінск | Падхаружы | 11.10.1944 Лярэта |
| Краеўскі Баляслаў | 01.1905 Канопкі-Манеты (Шчучын) | Стралец | 3.7.1944 Лярэта |
| Краўчонак Іосіф | 3.7.1921 Будслаў | Стралец | 14.10.1942 Khanaqin |
| Крачатоўскі Канстанцін | 12.4.1924 Гуліч (Баранавічы) | Кананер | 18.5.1944 Монтэ Касіна |
| Крук Віктар | 3.3.1922 Ваўкавыск | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Крывулец Васіль | 11.11.1910 Сянкевічы (Лунінец) | Ст.стралец | 17.7.1944 Лярэта |
| Крыцкі Антон | 27.3.1922 Лелікаў (Кобрын) | Стралец | 17.4.1945 Балонія |
| Крэўскі Сцяпан | 23.12.1889 Падбловічы (Ваўкавыск) | Артылерыст | 19.3.1945 Балонія |
| Крумень Іосіф | 11.11.1910 Галабоўшчына (Браслаў) | Стралец | 20.10.1942 Khanaqin |
| Крупка Аляксандр | 15.6.1911 Пялікі (Дзісна) | Стралец | 20.4.1945 Балонія |
| Крупка Мечыслаў | 28.6.1914 Баравы (Браслаў) | Стралец | 19.5.1944 Монтэ Касіна |
| Крушынскі Вацлаў | 14.3.1925 Высокія (Столін) | ? | 17.11.1944 Балонія |
| Крушынскі Мечыслаў | 4.1.1925 Высокія (Столін) | Танкіст | 10.8.1945 Балонія |
| Крывулец Васіль | 11.11.1910 Сянкевічы (Лунінец) | Ст.стралец | 17.7.1944 Лярэта |
| Крыцкі Антон | 27.3.1922 Лелікаў (Кобрын) | Стралец | 17.4.1945 Балонія |
| Крэўскі Сцяпан | 23.12.1889 Падбловічы (Ваўкавыск) | Артылерыст | 19.3.1945 Балонія |
| Кудзеліч Васіль | ? 1910 Лошыцы (Пінск) | Стралец | 23.8.1944 Лярэта |
| Кулак Іван | 15.12.1910 Стахоўцы (Паставы) | Звязовы | 13.5.1944 Монтэ Касіна |
| Кулінскі Юры | 15.7.1924 Бярэзны (Столін) | Улан | 12.8.1945 Балонія |
| Кунцэвіч Станіслаў | 10.3.1908 Даўгінаў (Вілейка) | Капрал | 7.10.1944 Лярэта |
| Куновіч Пётр | 7(1) 9.1912 Любкі (Вілейка) | Бамбардзір | 27.3.1944 Монтэ Касіна |
| Курпік Пётр | 28.7.1914 Курпікі (Гродна) | Стралец | 17.7.1944 Лярэта |
| Курпян Тадэвуш | 2.2.1905 Антонава (Валожын) | Звязовы | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Курсевіч Казімір | 18.3.1913 Брылі (Паставы) | Стралец | 27.10.1944 Балонія |
| Курчэўскі Франц | 28.9.1910 Чэхаўшчына (Гродна) | Ст.стралец | 3.3.1946 Whitchurh |
| Кусцінскі Мікалай | 14.7.1914 Русіны (Баранавічы) | Капрал | 9.7.1944 Лярэта |
| Куц Марк | 25.4.1915 Хмелева (Брэст) | Улан | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Кушаль Іосіф | ? 1905 Вісняўцы (Паставы) | Стралец | 28.7.1946 Балонія |
| Кучынскі Вацлаў | 10.11.1919 Гродна | Стралец | 17.5.1944 Монтэ Касіна |
| Кучынскі Караль | 1.6.1909 Пагост (Вілейка) | Капрал | 28.10.1943 Рамлех |
| Лабан Пётр | 25.10.1916 Шкляры (Гродна) | Капрал | 4.8.1944 Лярэта |
| Лабанаў Анатоль | 2.1.1915 Навагрудак | Падхаружы | 19.5.1944 Монтэ Касіна |
| Лазавік Іван | 19.8.1912 Скарада (Вілейка) | Стралец | 16.7.1946 Балонія |
| Лазінскі Юліўш | 1.3.1901 Слонім | Вахмістр | 14.7.1945 Касамасіма |
| Лазічонак Эдуард | 1.10.1913 Масан (Паставы) | Падпаручнік | 22(12)5.1944 Монтэ Касіна |
| Ламаска Нікадзім | 17.3.1904 Навасады (Ваўкавыск) | Стралец | 17.5. 1944 Монтэ Касіна |
| Ламейка Антон | 20.8.1898 Гройна (Баранавічы) | Звязовы | 21.5. 1944 Монтэ Касіна |
| Ланкевіч Франц | 10.12.1910 Масты | Звязовы | 2.9.1945 Балонія |
| Лапата Тадэвуш | 10.6.1912 Бурдукі (Ліда) | Ст.стралец | 23.10.1944 Балонія |
| Лапацкі Васіль | 25.3.1900 Рубашкі (Дзісна) | Шэраговец | 31.3.1945 Балонія |
| Лапша Антон | 15.9.1924 Мір | Стралец | 23.11.1944 Балонія |
| Ластоўскі Іосіф | ? 5.1.1918 Шынкоўшчына (Вілейка) | Стралец | 1.4.1943 Khanaqin |
| Лата Іосіф | 19.3.1906 Быстрыца (Іванава) | ? | 16. 5. 1944 Монтэ Касіна |
| Лахута Павел | 12.6.1901 Кухчыцы (Нясвіж) | Стралец | 12. 5. 1944 Монтэ Касіна |
| Лашч Павел | 3.4.1911 Казловічы (Брэст) | Капрал | 22.8.1944 Лярэта |
| Лебядзевіч Юльян | 06.1917 Ракі (Ліда) | Стралец | 17. 5. 1944 Монтэ Касіна |
| Леган Петр | 16.5.1912 Седлішчы (Валожын) | Ст.стралец | 13.11.1944 Балонія |
| Лемішэўскі Іосіф | 27.10.1911 Пінск | Звязовы | 23.7.1944 Лярэта |
| ЛемяшэўскіАляксандр | 25.4.1909 Лемяшэвічы (Пінск) | Ст.стралец | 17.7.1944 Лярэта |
| Ленгоўскі Браніслаў | 14.4.1914 Случ (Шчучын) | Падпаручнік | 17. 5. 1944 Монтэ Касіна |
| Лентач Войцэх | 10.5.1900 Мештуны (Гродна) | Ст.улан | 2.7.1944 Лярэта |
| Лешка Станіслаў | 1.11.1919 Ракаў (Валожын) | Стралец | 22. 5. 1944 Монтэ Касіна |
| Ліманоўскі Міхаіл | 15.3.1919 Ёдадалі (Браслаў) | Стралец | 10.9.1945 Балонія |
| Лінкевіч Дамінік | 15.6.1922 Падблоцце (Пінск) | Стралец | 5.7.1944 Лярэта |
| Лісай Эльяш | 20.7.1902 Занёманская (Гродна) | Стралец | 4.7.1944 Лярэта Заўвага: цела не знайшлі |
| Літвіновіч Тэафіл | 28.4.1918 Палонні-Груд (Пружаны) | Ст.стралец | 10.7.1944 Лярэта |
| Лубоўскі Антон | 20.11.1913 Лаша (Гродна) | Ст.стралец | 3.7.1944 Лярэта |
| Лудка Людавік | 19.8.1911 Відзейкі (Ваўкавыск) | Стралец | 12. 5. 1944 Монтэ Касіна |

Працяг будзе

# Тайна Пінокіо



Як вядома, любімы дзіцячы герой Бурацiна нарадзіўся пад таленавітым пяром Аляксея Талстога. Менш людзей ведае, што аўтар «Пятра І» спісаў вобраз Бурацiна і немалую частку прыгодаў з героя казкі «Прыгоды Пінокіо», створанай італьянскім пісьменнікам Карла Калодзі на гадоў сто раней. Фантазіі Карла Калодзі можна было б пазайздросціць, але аказалася, што ў літаратурнага персанажа меўся жывы прататып. Гэтае адкрыццё зрабілі амерыканскія археолагі.

У часе раскопак у раёне могілак, дзе спіць вечным сном Карла Калодзі, была знойдзена надмагільная пліта з імем нейкага Пінокіо Санчаса. Зацікавіўшыся, вучоныя параўналі даты жыцця абодвух нябожчыкаў. Аказалася, што жылі яны ў адзін і той жа час.

Заінтрыгаваныя амерыканцы дамагліся дазволу на эксгумацыю астанкаў Санчаса, пахаванага ў 1834 годзе. Экспертыза дала сенсацыйныя вынікі: сеньёр Санчас быў напалову драўляны. Дакладней, ніжняя частка ягонага цела ўяўляла з сябе майстэрскі зробленыя драўляныя пратэз. Апрача гэтага ў Пінокіо быў драўляны нос, а страўнік яму замяняла ўжыўленая частка страваводнага тракта каровы.

На адным з пратэзаў вучоныя прыкмецілі клеймо майстра Карла Бестульджы. Наступныя пошукі ў архівах прынеслі звесткі пра самога Пінокіо Санчаса. Гэты сеньёр нарадзіўся ў 1790 годзе і меў маленькі рост, яго лічылі карлікам. Аднак, нягледзячы на гэта, у часе напалеонаўскіх войнаў яго забралі ў салдаты. У войску па нейкіх прычынах ён правеў 15 гадоў свайго жыцця і пакінуў службу сапраўдным інвалідам, якога адпусцілі паміраць у родным доме. Напэўна, Санчас неўзабаве і памёр бы, але лёс звёў яго з лекарам Бестульджы, якога абывацелі лічылі чараўніком, які нібыта прадаў сваю душу д'яблу. Адчуваючы прыхільнасць да няшчаснага Пінокіо, ён зрабіў незвычайную аперацыю, замяніўшы салдату яго нежыццяздольныя органы пратэзамі. Дзякуючы гэтаму той пражыў яшчэ дзесяць гадоў, а драўляны нос дапамог яму стаць вядомым балаганным артыстам. Памёр ён у выніку няшчасця – сарваўся з вышыні, калі выконваў небяспечны нумар. Карла Калодзі скарыстаўся з гэтага сюжэта і абяссмерціў імя «драўлянага» чалавека.

**News.Battery.Ru**

## Дзе лепей жыць?

У дзевяці еўрапейскіх краінах – Бельгіі, Францыі, Германіі, Ірландыі, Італіі, Іспаніі, Вялікабрытаніі, Грэцыі і Нарвегіі – праводзілася сацыялагічнае даследаванне ўмоваў жыцця. Даследнікі апыталі ў агульнай колькасці 11 тысяч рэспандэнтаў. Краіны параўноўваліся па наступных крытэрыях: задаволенасць жыхароў кожнай краіны станам навакольнага асяроддзя, бяспекай, прыгажосцю краявідаў, інфраструктурай, сацыяльным забеспячэннем і медыцынскім абслугоўваннем у месцах пастаяннага пражывання.

Па выніках даследавання лепшай для жыцця еўрапейскай сталіцай прызнаны ірландскі горад Дублін, 68% жыхароў якога цалкам задаволены ўмовамі свайго існавання. Апроч Ірландыі ў дзесятку найбольш спрыяльных для жыцця мясцін увайшлі сельскія раёны Францыі, Бельгіі, Германіі, Вялікабрытаніі. Значна меней умовамі жыцця задаволены жыхары Грэцыі, Італіі і Іспаніі. Нічога незвычайнага ў выніках даследавання няма, апроч таго, што даволі нечакана на першае месца выйшаў Дублін.

**Надзея КОЖУХ**

## Мужчыну не пераробіш

Англійскі сацыёлаг Майкл Гарыян выдаў кнігу «Пра што ён думае? Як працуе мозг мужчыны», у якой сцвярджае, што канфлікты паміж сужонцамі ўзнікаюць з-за розніцы паміж мужскім і жаночым мозгам. Мужчынскі мозг выдзяляе болей асноўнага стымулюючага рэчыва аксітацыну і значна меней фермента сератаніну, які «супакойвае». Таму для зморанай жанчыны эмацыйная размова – гэта ідэальны сродак расслабіцца. А зморанаму мужчыну трэба «адключыцца». З гэтай прычыны мужчына імкнецца схапіцца за пульт тэлевізара і ўключыць яго на свой «супакойлівы» канал.

Мужчынскі мозг менш чуллівы і, адпаведна, менш успрымальны да дэталяў. Таму мужчыны ўспрымаюць пыл ці непарадак у хаце зусім інакш, чым жанчыны, і надаюць яму меншае значэнне. Апроч таго, мужчына ў большай ступені атаясамлівае сябе са сваёй працай, чым з убраннем унутры дома. Гармоны тэстастэрон і вазапрэсін, якія выдзяляюцца ў мозгу мужчын, прымушаюць іх імкнуцца ў сацыяльныя групы, дзе ёсць суперніцтва і іерархія. Там мужчынам прасцей даказваць уласную значнасць. Менавіта таму, мужчыны, на здзіўленне жонак, робяцца працаголікамі і менш праводзяць часу дома, калі ў іх з'яўляюцца дзеці.

Майкл Гарыян сцвярджае, што яго кніга арыентавана галоўным чынам на жаночую аўдыторыю, бо яна ўтрымоўвае высновы, значныя для пакалення «эмансіпаваных» жанчын, якія выхаваны на думцы, што менавіта мужчына павінен змяніцца адпаведна іхным патрабаванням.

**The Daily Telegraph**

## Нечаканкі



**Гэты прыгожы цуд мостабудаўніцтва будзе адкрыты ў Грэцыі да Алімпіяды летам 2004 года. Мост мае рэкордную даўжыню – 2.250 метраў.**

## «Закаркаваныя» мільярды

Даследаванне Тэхаскага інстытута транспарту ў 75 амерыканскіх гарадах высветліла, што кожны амерыканскі кіроўца праводзіць у аўтазаторах у сярэднім 51 гадзіну на год. Паказальна, што два гады таму сярэдні амерыканец пакутваў у заторах 26 гадзінаў.

Самыя буйныя заторы адзначаны ў Лос-Анджэлесе. Тут кожны кіроўца стаіць у заторах 90 гадзін на год, у Сан-Францыска меней – 68 гадзін, у Дэнверы – 64 гадзіны, у Маямі – 63 гадзіны. «Закаркаванасць» – пакуль што неадольнае бедства на 59% амерыканскіх гарадскіх магістраляў. Штогадовая шкода для амерыканскай эканомікі ад затораў складае 69,5 мільярдаў даляраў.

## Найвысокшая ў Еўропе



Самая высокая і пры гэтым рухлівая скульптура ў Еўропе адкрыта ў Дубліне. Яна мае назву «Ірландская хваля». Канструкцыя, якая складаецца са сталі і вуглевадароднага валакна, вышынёй 35,3 метра важыць болей чым 20 тон. Скульптура здольная вагацца пры парывах ветру ў дыяметры да 6 метраў, але вяртаецца ў зыходнае становішча дзякуючы 9-тоннай супрацьвазе, усталяванай у канструкцыю.

## Небяспека сіліконавай прыгажосці

Даследаванні, якія праводзіліся ў Фінляндыі, Швецыі і Амерыцы, засведчылі, што сярод жанчын з касметычнымі імплантантамі грудзей працэнт самазабойстваў утрая вышэй, чым сярод насельніцтва краіны ў цэлым. Некаторыя вучоныя лічаць, што такая статыстыка адлюстроўвае псіхалагічны склад жанчын, якія імкнуцца мець імплантанты. На думку іншых, высокі ўзровень самазабойстваў звязаны з цяжкасцямі і болем, якія нагадваюць аб сабе на працягу многіх гадоў пасля аперацыі.

Па дадзеных Амерыканскага таварыства пластычных хірургаў, летась на аперацыю пайшлі болей за 225 тысяч жанчын. Шмат хто з жанчын лічыць, што сіліконавыя імплантанты выглядаюць больш натуральна і прыемныя навобмацак. На сённяшні дзень у касметалагічных клініках Вялікабрытаніі і ЗША аперацыі па змяненні формы грудзей стаяць на адным з першых месцаў, саступаючы па папулярнасці толькі ліпакасацыі (пазбаўленне ад лішкаў тлушчу). У 2002 годзе каля 250 тысяч амерыканак звярталіся па паслугі да пластычных хірургаў, каб «падкарэктаваць» фігуру.

Гэтакія аперацыі ў ЗША каштуюць у сярэднім не ніжэй 5 тысяч даляраў. Аднак у Вашынгтоне і Нью-Ёрку падобныя касметалагічныя паслугі ацэньваюцца ў 10–20 тысяч даляраў, у залежнасці ад вядомасці хірурга. У нас плата за павелічэнне грудзей вагаецца ад 6 да 10 тысяч даляраў.

Прымаючы рашэнне аб такой «касметыцы», трэба добра ўзважыць, ці вартая яна злучаней з ёй рызыкі.

**Ірына МАТАЛЬСКАЯ**

# «Шнобелеўская прэмія»

Кожны год, напярэдадні тыдня прысуджэння нобелеўскіх прэмій, у тэатры Sanders Theatre амерыканскага Гарварда ўручаюць так званую «шнобелеўскую» прэмію (ці іг-нобелеўскую, ад англійскага ignoble – ганебны). Гэтым годам урачыстасці праводзіліся ў 13-ы раз.

«Шнобелеўскія» лаўрэаты атрымоўваюць прэміі «за дасягненні і даследаванні, якія няма сэнсу ўзнаўляць». Для навуковага свету гэта вельмі важкае акрэсленне – адкрыцці ці вынаходніцтвы прызнаюцца, калі іх могуць узнавіць не толькі першаадкрывальнікі, але і іншыя даследчыкі.

Пераможцы прэміі прыязджаюць на цырымонію ўзнагароджання за ўласны кошт. Узнагароды пераможцам уручаюць сапраўдныя нобелеўскія лаўрэаты перад аудыторыяй у 1.200 чалавек.

Прэмію заснаваў у 1990 годзе Марк Абрахамс, які быў тады рэдактарам навуковага гумарыстычнага часопіса пад назвай «Аналы неверагодных даследаванняў» і кіраўніком кампаніі, якая займалася праграмным забеспячэннем.

З цягам часу сама цырымонія ўручэння прэміяў ператварылася ў свайго роду "гулянку мазгавітых». Кожны год сапраўдныя нобелеўскія лаўрэаты ў бутафорскіх акулярах, з накладнымі насамі, у фесках ды іншых падобнага роду атрыбутах прыходзяць, каб уручыць лаўрэатам Ig-Nobel іхныя ўзнагароды. Па велічыні тэатры на 1.166 месцаў у Гарвардзе, у якім адбываецца цырымонія, лятаюць папяровыя самалёцікі. Час выступу лаўрэатаў абмежаваны 60 секундамі. Тых, хто балбоча болей, спыняе Miss Sweetie Poo – 8-гадовая дзяўчынка, якая ўсклікае: «Калі ласка, спыніцеся, мне нудна!»

Сярод лаўрэатаў гэтага года найбольшую ўвагу прыцягнуў да сябе Карл Шверцлер, кіраўнік фірмы Xnet, якая здае ў арэнду княства Ліхтэнштэйн, адну з самых маленькіх дзяржаваў Еўропы. Цалкам – з усімі 33 тысячамі жыхароў, праўда, без князя. Аднак арганізацыя, якая заплаціць 160 тысяч даляраў за дзень арэнды, атрымае доступ да вінных падвалаў князя.

Апроч яго ў гэтым годзе прэмію атрымаў японскі вучоны, які прысвяціў сябе вывучэнню бронзавай статуі, якая чамусьці абсалютна не прываблівае галубоў. «Шнобелеўскую прэмію» ў галіне інжынерыі атрымаў Эдвард Мэрфі з двума калегамі, аўтары знакамітых «законаў Мэрфі», якія сцвярджаюць, што калі нешта можа зламацца – абавязкова зламаецца, пры гэтым найбольш непрыемным чынам, а сітуацыя заўсёды развіваецца ад дрэннага да найгоршага.




Даследнікі з Універсітэта Стакгольма атрымалі прэмію за даследаванне пад назвай «Кураняты аддаюць перавагу прыгожым людзям».

Прэмію па псіхалогіі атрымаў Стэнфардскі універсітэт. Прафесар Філіп Зімбардо ў выніку даследавання прыйшоў да высновы, што «Палітыкі – унікальна спрошчаныя людзі». У сэнсе – уяўленняў людзей пра іх. Усе намаганні іміджмейкераў зводзяцца да аднаго-двух словаў, якія прыходзяць на розум абывацелю, калі размова ідзе пра любога палітыка.

**Віктар ТУМАШ**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002. Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13 E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
Камп'ютэрная вёрстка Андрэй Дзегцяроў
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач». Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г. 220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 1840 Падпісана да друку 10.10.2003 (12:00). Наклад 2 300 асобнікаў. Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11